ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 снежня 1993г  № 48 (3718)  Кошт 30 руб.





# СЯБРОЎ ПА ВОСЕНІ ЗБІРАЮЦЬ...

## XX МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВАЎ

Заўчасная бясснежная лістападаўская зіма, здавалася, кране хваляй свайго халоднага дыхання і Музыку. Здавалася, у тон наваколлю паблякнуць барвы «Беларускай музычнай восені». Ды жыццё мастацкае ладзіцца паводле сваіх законаў, невытлумачальных побач з вонкавымі «па-зямному простымі» стасункамі. Сёлетні, XX Міжнародны фестываль мастацтваў атрымаўся разнастайным, сонечным, шчырым, — гэткае «Беларускае музычнае бабіна лета»! Сабраліся даўнія сябры й новыя добрыя госці, шчыравалі нашы артысты. Немажліва меркаваць, як было па ўсёй краіне, а ў сталіцы свята адчувалася. Першыя ж дні былі азораныя талентам і славаю піяніста М.Пятрова, які вёў своеасаблівы турнір з Акадэмічным сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам М.Казінца /гучаў 3-ці канцэрт С.Рахманінава/, а назаўтра іграў сольную праграму. Госцем «восені» быў вучань І.Менухіна — бельгійскі скрыпач Ю.Брагінскі. Ладзіліся Дні музыкі Нарвегіі /да 150-годдзя Э.Грыга/, падчас якіх сюрпрызам стаўся дуэт нарвежскага скрыпача І.Шульдмана ды... ягонай колішняй аднакласніцы, беларускай піяністкі В.Лагвіненкі. Аркестр «Няміга» пад кіраўніцтвам А.Берына захапляў майстэрствам музыкантаў і ўменнем працаваць з салістамі. Радасна й цёпла, як у доме сяброў, было на закрыцці фестывалю: сімфанічны канцэрт вёў маэстра В.Дуброўскі, удзельнічаў Амстэрдамскі квартэт саксафаністаў, быў і знаны саліст — піяніст Н.Штаркман... Дзякуй «восені»: аказалася, што ў Музыкі ёсць сябры. І нямала!

**С.Б.**

*На здымку В.СТРАЛКОЎСКАГА — наш знакаміты госць і добры сябра Мікалай ПЯТРОЎ.*

Кола дзён

***«Усё цячэ, усё змяняецца...» — сказаў некалі Геракліт. І больш за дзве тысячы гадоў ніхто не аспрэчваў гэтую ісціну. Аднак глядзіш сёння рэпартажы з сесіі ВС Беларусі і думаеш: вось доказ таго, што памыляўся старажытны грэк. Нягледзячы ні на якія змены ў грамадстве, у свеце, пазіцыя больш чым адной трэці дэпутатаў застаецца нязменнай. А значыць, і ўсяго Вярхоўнага Савета. Нашы левыя, цэнтрысты і правыя, як тыя лебедзь, рак і шчупак, цягнуць воз кожны ў свой бок, а ў выніку ён стаіць на месцы. Шматгадзінныя дыскусіі заканчваюцца нічым — стварэннем чарговай пагаджальнай камісіі. Ветэраны і наменклатура сцяной паўстаюць на шляху ўсяго новага і жывога і раз-пораз заводзяць размовы пра «нябожчыкаў» — былы СССР, саюзны дагавор, калектыўную бяспеку, старыя дзяржаўныя сімвалы... У гэтага Вярхоўнага Савета будучыні няма, бо ён не здольны працаваць на будучыню. І таму 35 народных дэпутатаў падпісалі заяву, што ў падобных умовах лічаць «далейшую працу Вярхоўнага Савета бесперспектыўнай, непатрэбнай для беларускай дзяржавы». Кожны новы дзень пацвярджае гэта.***

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Паводле ўсіх статыстычных звестак самы нізкі заробак зараз у работнікаў культуры, мастацтва і адукацыі. Калі акцёры, мастакі і пісьменнікі ніколі не вылучаліся еднасцю і арганізаванасцю, то настаўнікі ўжо летась прадэманстравалі ўраду ўменне змагацца за свае правы: выйшлі на страйк на пляц Незалежнасці і нават спынілі тады рух аўтатранспарту. Часова справы палепшыліся, але інфляцыя з'ела ўсе «заваёвы», і сёння склалася крызісная перадстрайкавая сітуацыя: у педкалектывах зноў пачалі гаварыць пра забастоўкі... Дарэчы, напрыканцы восені сталі аднаўляцца, ажываць і створаныя ў 1991 годзе рабочыя страйкавыя камітэты, каб быць гатовымі да падтрымкі масавых выступленняў. Народ дрэмле пакуль, але ўжо не спіць?

## «ЭКСПЕРЫМЕНТ» ТЫДНЯ

Лістападаўскія маразы «замарозілі» і наш заробак. 1 снежня павышэння мінімальнае зарплаты не адбылося. Урад правёў умелую «рэкагнасціроўку», прыстрэлку — спачатку па некаторых газетах прайшла неафіцыйная інфармацыя пра павелічэнне мінімальнай стаўкі, а потым па ўсіх — афіцыйнае абвяржэнне яе. Калі б урад мог гэтаксама кіраваць цэнамі, як зарплатай бюджэтнікаў, — цаны б яму не было. Але — тут толькі развядзём рукамі... У паведамленнях называлася лічба мінімальнага заробку ў 28 тысяч, Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі лічыць, у сваю чаргу, што яна павінна быць не менш за 35 тысяч. Калі прыгадаць, што адзін долар зараз каштуе каля пяці тысяч «зайчыкаў», стаўкі гэтыя пададуцца ну вельмі смешнымі.

## СОРАМ ТЫДНЯ

Само па сабе абмеркаванне 17-га артыкула праекта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, які замацоўвае за беларускай мовай статус дзяржаўнасці, стала знявагай нашае мовы. Ёсць рэчы святыя для народа, якія павінны знаходзіцца па-за абмеркаваннем. Усе абаронцы рускай мовы выдатна ведаюць сітуацыю, што склалася ў нашай краіне, і таму іх выступленні не проста знявага, пагарда ці блюзнерства, — гэта чысты здзек з нас, нехлямяжых беларусаў, якія ў сваёй хаце гаспадарамі быць не могуць.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

У Беларусі зарэгістраваны 100-ы інфіцыраваны вірусам СНІДа. Шасцёра хворых на СНІД — памерлі. Спецыялісты ж мяркуюць, што толькі ў Мінску інфіцыраваных каля 1,5 тысячы, а па краіне — каля 2 тысяч. Сярод дзяржаў былога СССР па колькасці такіх хворых на тысячу жыхароў Беларусь — у лідэрах...

## КНІГА ТЫДНЯ

У серыі «Плошча Свабоды» ў выдавецтве «Беларусь» толькі што выйшла кніга Ніла Гілевіча «Выбар». У ёй сабраны найбольш значныя артыкулы, прамовы, інтэрв'ю народнага паэта Беларусі трох апошніх гадоў, а таксама тыя з іх, якія ў свой час па цэнзурных меркаваннях у друк не прайшлі. Асноўныя тэмы кніжкі — лёс беларускай зямлі, адраджэнне гістарычнай памяці народа, яго нацыянальнай самасвядомасці, культуры, мовы.

У гэтыя дні, калі з парламенцкай трыбуны зноў і зноў дыскутуюцца пытанні аб так званым двухмоўі і аб нашых дзяржаўных сімвалах, выхад кнігі Н. Гілевіча вельмі своечасовы — як важкі, сумленны і мужны голас у абарону неперахадных нацыянальных каштоўнасцей: мовы і незалежнасці.

## СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

Спачатку «Знамя юности» і «Советская Белоруссия» надрукавалі паведамленне агенцтва РІД, што са службовай машыны галоўнага рэдактара «Народнай газеты» Іосіфа Сярэдзіча ўкрадзена папка з сакрэтнымі дакументамі і «кампраматам» на кіраўніцтва пагранвойск Беларусі. Сапраўды, факт крадзяжу быў, прызнаў І. Сярэдзіч, але ніякіх звышсакрэтных дакументаў у папцы не было. Канфлікт выйшаў за межы журналісцкай этыкі, бо адразу прыгадаўся нядаўні ліст Э. Шыркоўскага і У. Ягорава да Старшыні ВС Беларусі і прэм'ер-міністра. Кропкі над «і», пэўна, будуць пастаўлены толькі падчас абмеркавання гэтага звароту на сесіі.

## ПАДАРУНКІ ТЫДНЯ

Інфляцыя радуе нас не толькі новымі зарплатамі, але і штотыднёвым павышэннем цэн. Некаторыя з іх, адпушчаныя на волю, растуць сабе паціху, без розгаласу, без лішняга шуму. Пра павышэнне так званых «фіксаваных» цэн раз-пораз аб'яўляецца ў друку. На мінулым тыдні зноў падаражалі хлеб, гарэлка, гародніна, шклатара... Мінскі гарвыканкам паведаміў, што і ў 1994 годзе мы будзем жыць з карткамі. Па іх у сталіцы будуць выдаваць цукар, масла, гарэлачныя вырабы. Што яшчэ трапіць на вакантныя месцы — пустыя клеткі картак,— пакуль невядома.

Кола дзён

Парламент

# НІ «ЗА», НІ «СУПРАЦЬ» — «НА ДАПРАЦОЎКУ!»

У дзень адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета тэлебачанне некалькі разоў паказала залу пасяджэнняў зверху. У наступныя дні гэтага не рабілі, камеру перанеслі ў залу. Ці то спадар Сталяроў сам скеміў, ці то яму ўказалі, што нельга паказваць людзям, як у момант, калі вырашаецца лёс краіны /даруйце высакамоўны стыль/, многія народныя абраннікі заняты чыткай газет і нават не глядзяць у бок трыбуны.

Але ў нейкія моманты дэпутаты ажываюць і працуюць весела, нават з агеньчыкам, спрытна націскаючы кнопкі «за». Якія гэта моманты? Прыгадайце хоць бы, як хуценька ратыфікавалі яны дамоўленасці аб «рублевой зоне нового типа» і адмаўленні ад уласнай фінансава-крэдытнай сістэмы на карысць Масквы. І як марудна цягнецца час, якія абыякавыя і стомленыя твары ў дэпутатаў, калі паўстае неабходнасць зрабіць для Беларусі нешта карыснае — пытанне альбо з ходу адвяргаецца, альбо пасля нядоўгай валтузні адпраўляецца «на дапрацоўку».

Менавіта ў такім стылі ідзе «праца» над праектам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Тут адразу бачна, наколькі разыходзяцца асабістыя інтарэсы большасці дэпутатаў з інтарэсамі нацыі і Беларускай дзяржавы. Іх, бадай, цалкам задавальняе БССРаўская Канстытуцыя, а калі б у ёй яшчэ аднавіць артыкул пра кіруючую ролю камуністычнай партыі — дык той Канстытуцыі ўвогуле цаны б не было.

Абмяркоўваць жа новую Канстытуцыю прымусілі вонкавыя абставіны. Паабяцаўшы датэрміновыя выбары, дэпутаты павінны альбо выканаць абяцанне, альбо знайсці прыстойную падставу, каб максімальна гэтую справу адцягнуць... Адсутнасць новага закона аб выбарах якраз такую магчымасць дае. А калі яшчэ ўвязаць закон з Канстытуцыяй — маўляў, спачатку новая Канстытуцыя, потым на яе падставе новы закон, а ўжо потым выбары, — дык можна спакойна чытаць у зале пасяджэнняў газеты і не турбавацца за свой лёс. Ды яшчэ фанабэрыцца перад светам, што ў нас ідзе «канстытуцыйны працэс».

Цяпер дэпутаты да бясконцасці абмяркоўваюць раздзелы і артыкулы Канстытуцыі, а калі прыходзіць час галасаваць па прынцыповых палажэннях Асноўнага Закона, дык атрымліваецца ні «за», ні «супраць» — «на дапрацоўку!» Прычым такі стыль паводзін «народных абраннікаў» яшчэ трэба ўважаць як найбольш бяскрыўдны.

Горш, калі ў новую Канстытуцыю спрабуюць працягнуць палажэнні, якія цалкам перакрэсліваюць заваёвы нашай нацыянальна-дэмакратычнай рэвалюцыі. Так, камуністы прапаноўваюць па сутнасці адмяніць закон, які абвяшчае беларускую мову дзяржаўнай, запісаўшы ў Канстытуцыі, што беларуская мова — дзяржаўная, а руская — афіцыйная. Большасці дэпутатаў цяжка даецца разуменне, што падабаецца гэта камунебудзь ці не, але жыццё грамадства вызначаюць новыя палітычныя і эканамічныя рэаліі. Скажам, правы на працу і сацыяльную абароненасць, як яны трактуюцца ў Канстытуцыі савецкага часу, не стасуюцца з рынкавай эканомікай. І калі па-ранейшаму разводзіць скрытае беспрацоўе і ўраўнілаўку, дык можна давесці краіну да жабрацтва, а там недалёка і да грамадзянскай вайны і прышэсця акупантаў.

У штыкі была сустрэта прапанова канстытуцыйнай камісіі пазбавіць ветэранскую і інвалідскую арганізацыі прадстаўнічай квоты у новым парламенце. Прычым зыходзілі аўтары праекта з міжнароднай практыкі. Ніводная краіна свету, у тым ліку і краіны сталай дэмакратыі, не дае гэтай катэгорыі грамадзян прывілеяў на ўладу. І хоць у нас усе любяць спасылацца на міжнародныя нормы, гэтым разам дэпутаты выступілі ў абарону беларускай «самабытнасці» /хай бы яны так за беларускую мову змагаліся і за дзяржаўны суверэнітэт/. Зрэшты, і тут ні да чога не дагаварыліся і адправілі артыкул «на дапрацоўку». Тое ж было і з пытаннем аб увядзенні на Беларусі інстытута прэзідэнцтва.

У адрозненне ад іншых краін, дзе ўлада, каб заставацца ўладай, павінна прыслухоўвацца да народа, імгненна рэагаваць на змены ў краіне і свеце, у нас Вярхоўны Савет /я ўжо не кажу пра Саўмін/ — гэта дзяржава ў дзяржаве. Ён не чуе і не бачыць, што робіцца за вокнамі Дома ўрада. А мо слухаць няма чаго? «Народ безмолствует», як слушна сказаў расійскі класік...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Думка чытача

# МАЕМ ТОЕ, ШТО МАЕМ

Няўмольна бяжыць час, і няўмольна набліжае ён новыя выбары ў наш парламент. І сёння, стоячы з пустым кашальком ля пустых паліц крамаў, мы ўскладваем нейкія надзеі на новых дэпутатаў, новы ўрад. Маўляў, яны, больш разумныя, змогуць пастулова наладзіць наша жыццё. Але гэтыя надзеі, вельмі верагодна, так і застануцца толькі надзеямі. Справа ў тым, што новым людзям /маю на ўвазе, з новымі перакананнямі/ вельмі цяжка будзе прыйсці да ўлады. І вінаватымі ў гэтым будзем толькі мы самі.

Скажыце, ці шмат людзей, асабліва на вёсцы, ведае не тое што праграмы, а пра сам факт існавання БЗВ, БСДГ, Сялянскай партыі, НДПБ? Крыху больш ведаюць людзі пра БНФ, але ў асноўным як пра «нацыяналістаў» і «ворагаў». Антыбеларускі друк, якога ў краіне працэнтаў восемдзесят, сваю брудную справу робіць. Як, зрэшты, радыё і тэлебачанне. Тэндэнцыйная падача інфармацыі ператварае вялікую частку нашага насельніцтва ў паслухмяных пешак у руках розных «соборов» і «движений». Я не кажу ўжо пра сялян. Ці не 90% нашых вяскоўцаў, чытаючы выданні кшталту «Советской Белоруссии» і «Белорусской нивы», абсалютна перакананыя, што краіну да бездані давялі нейкія дэмакраты. Можна не сумнявацца, што падчас выбараў па сельскіх акругах зноў пройдуць у парламент кампартыйныя чыноўнікі. Гэтаму будуць усяляк спрыяць і старшыні калгасаў, якія як чорт крыжа баяцца прыходу да ўлады дэмакратычных сіл. Бо гэта, на іх думку, аўтаматычна пацягне за сабой ліквідацыю калгасаў у цяперашняй іх форме. А чым жа ці кім жа тады кіраваць, а адкуль красці? Прывязуць напярэдадні галасавання танную гарэлку ды каўбасу — і справа зроблена. Гэта мне заўсёды нагадвае жаданне чалавека прылашчыць сабаку: кінуў яму костку — вось ён хвастом і завіляў.

На вялікі жаль, нашы дэмакратычныя арганізацыі не навучыліся яшчэ працаваць з насельніцтвам, змагацца за галасы выбаршчыкаў. Наіўна было б меркаваць, што наш сярэднестатыстычны грамадзянін з нашай славутай талерантнасцю і памяркоўнасцю будзе сам шукаць магчымасці, напрыклад, далучыцца да той ці іншай дэмакратычнай арганізацыі. Трэба самой гэтай арганізацыі актыўна працаваць дзеля павелічэння колькасці сваіх сяброў. І тады будуць больш моцнымі БНФ і НДПБ, БСДГ і Сялянская партыя, іншыя нацыянальныя партыі і арганізацыі. І толькі тады можна будзе спадзявацца, што настане нарэшце канец камуністычнага панавання.

А пакуль наш «народ мае такі ўрад, якога заслугоўвае»...

**Юры БАБІЧ**

*г. Віцебск*

# БЫЎ МІТЫНГ, БЫЛА ІМША

27 лістапада група прадстаўнікоў Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускага народнага фронту і Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады наведала вёску Семежава на Случчыне, каб ушанаваць памяць барацьбітоў за незалежнасць Беларусі, удзельнікаў слуцкага збройнага чыну. Да крыжа, што быў устаноўлены ў мінулым годзе, былі ўскладзены вянкі. Быў мітынг, была імша ў мясцовай царкве.

Не абышлося без інцыдэнту. Нягледзячы на папярэднюю дамоўленасць са слуцкімі ўладамі аб арэндзе памяшкання, міліцэйскі кардон спрабаваў не пусціць гасцей з Мінска ў слуцкі Дом дзіцячай творчасці, дзе мелася адбыцца ўрачыстае пасяджэнне. Але дзякуючы таму, што ў складзе дэлегацыі былі народныя дэпутаты Беларусі Б.Гюнтэр і Л.Дзейка, дзверы ўсё ж адчынілі, і пасяджэнне, хоць і са спазненнем, адбылося. Высветліць, хто даў загад выставіць міліцэйскі кардон, не ўдалося.

Вось так шануюць памяць слуцкіх паўстанцаў улады. Што ж датычыць мясцовых людзей, дык іх стаўленне да акцыі БЗВ, БНФ і БСДГ было добразычлівым. Дзякаваць Богу, людзі нарэшце знаёмяцца з сапраўднай гісторыяй Бацькаўшчыны.

**НАШ КАР.**

# ТРЭБА ЕХАЦЬ У ВІЦЕБСК!

**Да такой высновы прыйшлі мінскія меламаны, даведаўшыся, якою будзе праграма сёлетняга музычнага фестывалю імя І. Салярцінскага. На такія канцэрты рэдка шанцуе сталічным жыхарам. 9 снежня — адкрыццё фестывалю, выступленне выхаванцаў Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Затым — як заўсёды насычаныя праграмы ансамбля салістаў «Класік-Авангард», з удзелам яркай швейцарскай піяністкі Э. Дзёманд ды цудоўнай расійскай спявачкі Н. Герасімавай. Адбудзецца знаёмства з маскоўскім музычным тэатрам «Гелікон», які на сцэне абласной філармоніі пакажа пастаноўкі на музыку В. Моцарта, І. Стравінскага, К. Дэбюсі, П. Хіндэміта. Пройдуць і навукова-асветніцкія чытанні з удзелам віцебскіх спецыялістаў і гасцей фестывалю. І ўсё гэта — за няпоўны тыдзень.**

**Н. К.**

# АБАРАНІЦЕ РЭРЫХА... АД ДЗЯРЖАВЫ!

Такі парадаксальны дэвіз маглі б напісаць на сваіх адметных «Знамёнах Міру» прыхільнікі рэрыхаўскіх ідэй, калі б выйшлі на дэманстрацыю. Але рэрыхаўцы не з тых людзей, хто ўхваляе мітынговую дэмакратыю, таму і хочуць дасягнуць справядлівасці мірным і законным шляхам.

Пакрыўдзіла ж Міжнародны цэнтр Рэрыхаў Расейская дзяржава ў асобе прэм'ер-міністра Віктара Чарнамырдзіна. За яго подпісам была выдадзена пастанова Расейскага ўрада аб стварэнні Дзяржаўнага музея імя Мікалая Рэрыха. Іншы б, можа, узрадаваўся: клопат пра спадчыну вялікага суайчынніка бярэ на сябе сама «и могучая, и обильная»... Але рэрыхаўцы хочуць, каб была выканана воля сына мастака, Святаслава Рэрыха, які яшчэ ў гарбачоўскі час спрычыніўся да стварэння Савецкага фонду Рэрыхаў /цяпер гэта Міжнародны цэнтр Рэрыхаў/ і менавіта гэтай грамадскай арганізацыі перадаў унікальныя творы, архіўныя матэрыялы, рукапісы Алены Іванаўны і Мікалая Канстанцінавіча.

Сябры Беларускага фонду Рэрыхаў не могуць заставацца ўбаку ад таго, што дзеецца вакол спадчыны Рэрыхаў, якая па праву належыць усяму чалавецтву. Падчас адкрыцця выставы ў гонар Алены Блавацкай, што адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, сябры БФР прынялі тэкст тэлеграмы на імя В.Чарнамырдзіна з просьбай перагледзець пастанову за 4 лістапада г.г. і даць магчымасць Міжнароднаму цэнтру Рэрыхаў самастойна вырашаць свае праблемы.

**Іван ЖДАНОВІЧ, сябра Беларускага фонду Рэрыхаў**

*Адгалоскі*

# ПАНАВАННЕ КАНЧАЕЦЦА?

У 38-ым нумары «ЛіМа» за 24 верасня г. г. быў змешчаны ліст чытача з Оршы В. Шаўрова пад назвай «Аршанскі варыянт», у якім аўтар з горыччу адзначаў, што прыкмет на тое, што Орша — буйны чыгуначны вузел — усё ж горад беларускі, амаль няма: «усюды пануе руская мова».

Ліст гэты не застаўся па-за ўвагай Міністэрства транспарту і камунікацый Рэспублікі Беларусь. Міністр С. Шканіч у сваім допісе ў рэдакцыю піша:

«Артыкул В. Шаўрова «Аршанскі варыянт» Упраўленнем Беларускай чыгункі разгледжаны.

З 1 лістапада на вакзале станцыі Орша аб'явы па вакзальнаму радыё робяцца на 2 мовах: беларускай і рускай.

Зроблены заказ на выкананне новых указальнікаў на дзяржаўнай мове, пасля выканання якога ўказальнікі будуць заменены.

Да 15 лістапада 1993 года выпраўлены расклад руху пасажырскіх паяздоў на вакзале Орша.

Дадзена ўказанне начальнікам дырэкцый па абслугоўванні пасажыраў, начальнікам вакзалаў прыняць неабходныя меры для выпраўлення маючых недахопаў.

Што датычыцца помніка Кіраву на вакзальнай плошчы ў Оршы, то гэта пытанне павінна вырашацца мясцовымі ўладамі».

# НА ГОМЕЛЬСКАЙ ЗЯМЛІ

Гасцінна сустрэла гомельская зямля беларускіх пісьменнікаў. У тыя лістападаўскія дні старажытны Гомель адзначаў знамянальную падзею ў сваім гістарычным жыцці — 50-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. На вуліцах горада скрозь можна было сустрэць ветэранаў вайны, якія прыехалі з самых розных мясцін былога Савецкага Саюза, каб разам з гамяльчанамі ўшанаваць векапомныя дні вызвалення, сустрэцца з аднапалчанамі.

У складзе дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі былі і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай — Алесь Махнач, Аляксей Слесарэнка, і пісьменнікі-землякі, празаікі і паэты, якія прысвяцілі свае творы гераічнай і высакароднай тэме барацьбы беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі — Анатоль Жалязоўскі, Яўген Каршукоў, Павел Місько, Уладзімір Паўлаў, Алесь Петрашкевіч, Віктар Супрунчук, Анатоль Сульянаў, Браніслаў Спрынчан. Іх выступленнямі перад чытачамі Гомельскай вобласці і пачыналіся Дні беларускай літаратуры, прысвечаныя 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Паездка пісьменніцкай дэлегацыі атрымалася надзвычай плённай і цікавай. Былі праведзены два вечары памяці паэта-гамяльчаніна, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатоля Грачанікава — у Дзяржаўным універсітэце транспарту і Гомельскім дзяржаўным універсітэце. У Хойніцкім і Рагачоўскім раёнах госці ўшанавалі памяць пісьменнікаў-франтавікоў, народных пісьменнікаў Беларусі Івана Мележа і Андрэя Макаёнка, пабывалі на прэм'еры п'есы Алеся Петрашкевіча «Дагарэла свечачка да паліцы» ў Гомельскім абласным драматычным тэатры і прынялі ўдзел у яе абмеркаванні. Былі і іншыя сустрэчы ў розных калектывах, з рознымі чытацкімі аўдыторыямі, на якіх, у прыватнасці, са шкадаваннем адзначалася, што апошнім часам пісьменнікі — рэдкія госці на Гомельшчыне. Аб гэтым ішла гаворка і на сустрэчы ў Гомельскіх аблвыканкаме і гарвыканкаме. А між тым беларускае мастацкае слова карыстаецца тут вялікай пашанай. Пераканаліся ў гэтым і самі ўдзельнікі пісьменніцкага «дэсанта»: літаральна ўсюды — у школах, вышэйшых навучальных установах, у абласной бібліятэцы, працоўных калектывах - іх сустракалі з выключнай цеплынёй і сардэчнасцю, запрашалі прыехаць зноў.

Дні беларускай літаратуры на Гомельшчыне прайшлі надзвычай цікава і змястоўна, нягледзячы на ўсе складанасці нашага часу. І тут, бясспрэчна, асаблівай удзячнасці заслугоўваюць Гомельскі абласны Савет народных дэпутатаў, а таксама мясцовая пісьменніцкая арганізацыя, якія прынялі самы актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні ўсіх літаратурных мерапрыемстваў.

**Я.ІВАНОЎ**





*На здымках: кветкі Мележу; сустрэча беларускіх пісьменнікаў са студэнтамі Гомельскага дзяржуніверсітэта, выступае А.Слесарэнка.*

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

# НАЗОЎ НАШАЕ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ РАМАНТЫЧНАГА ПРАГМАТЫКА

Амаль штомесяц пошта «ЛіМа» выплёскваецца на старонкі газеты матэрыяламі аб гістарычнасці наймення нашага краю. Вось загаловак аднаго з вераснёўскіх чытацкіх допісаў: «Беларусь — частка Літвы». У ім спадар Сяржук Васіленка слушна даводзіць, што толькі карыстаючыся саманайменнем «Літва» наша краіна зможа давесці сусвету адвечную праўду аб нашай гістарычнай спадчыне...

А як жа інакш? У жыцці дзяржаў усё гэтак жа, як і ў жыцці людзей. Бо ў сітуацыі, калі нават родная дачка згубіла бацькоўскае прозвішча, дык «першы-лепшы» прыблуда, сваяк гарбузовы, можа /як у Дуніна-Марцінкевіча ў «Пінскай шляхце» / «по указу всемилостивейшей государыни Елисаветы Петровны 19 апреля 1893 года и всемилостивейшей Екатерины Великой от 23-го сентября 1903 года, а равномерно в смысле Статута литовского раздела 8-го, параграфа 193-го» давесці сваё права валодання нашай спадчынай, прыпісаць сабе нашу гісторыю, прэтэндаваць на нашыя гістарычныя скарбы і нават тэрыторыі... І зрабіць гэта «на законных падставах», з паперкамі ў руках.

Няма зараз ужо, мусіць, свядомага ліцвіна-беларуса, які б не разумеў усяе жыццёвае неабходнасці вяртання Бацькаўшчыне ейнага імя.

Усе ведаюць, што трэба зрабіць, але ніхто не прапануе сур'ёзнага спосабу — як зрабіць гэтую справу. Прапазіцыя звярнуцца да міжнароднага арбітражу ў Гаазе — шлях рамантычнага ідэаліста, які лічыць, што палітыкі /а яны будуць вырашаць гэтае пытанне/ зацікавяцца гістарычнымі выкладкамі і спасылкамі на творы Пушкіна ды Лермантава. Вяршыня наіўнасці! Рашэнне, якое мроіцца нашым рамантычным ідэалістам: адабраць назоў краіны ад Летувы-Жмудзі і перадаць Літве-Беларусі абсурднае нават з прычыны таго, што стварае неверагоднага маштабу прэцэдэнт, які зараз пакуль што тлее-выспявае толькі ў адным-адзіным выпадку ўзаемадачыненняў Грэцыі з Македоніяй. Але ўжо які рэзананс!

Калі нават уявіць неверагоднае, што ў гаагскім арбітражы сабраліся спрэс аматары вершаў Пушкіна і твораў нашых рамантыкаў-ідэалістаў, што дасылаюць такія прапановы да «ЛіМа», і яны прынялі б такую пастанову аб гэткім нечуваным «чэйнджы». Хто б прымусіў нашых суседзяў-жамойтаў адмовіцца ад імя, якое яны з гонарам пранеслі ў барацьбе за сваё адраджэнне і прыняць на сябе назоў, які для іх выбралі сябры-беларусы, якія калі сваё адраджэнне яшчэ не праспалі, дык маюць шанц яго праспаць канчаткова? Няўжо ёсць надзея ў рэалізацыі гэтага «плана стагоддзя» на «блакітныя каскі ААН»? Смеху варта... і жалю.

І яшчэ: які б водгук гэтае фантастычнае і недарэчнае рашэнне мела б у свеце? Чаму б не ўявіць, што Лацінаамерыканскія краіны на наступны ж дзень не запатрабуюць ад Злучаных Штатаў, каб тыя ўрэшце прыдбалі сабе хоць якое-небудзь «прыстойнае» собскае імя, а не выкарыстоўвалі назоў абедзвюх Амерык як уласны.

А ці ж ведаем мы, што Дагамея, якая ў свой час прыўлашчыла сабе назоў старажытнаафрыканскай імперыі Бенін, добра калі межавала з гэтым славутым у свой час царствам. А як хто таксама займее прэтэнзіі да гэтае назвы?

А ці заўжды памятаем мы, рамантычныя аматары гісторыі, што юрысты карыстаюцца сваёй вельмі спецыфічнай і вельмі жорсткай /штыўнай/ сістэмай прыярытэтаў дзеля вырашэння юрыдычных казусаў?

Першынство заўсёды захоўваецца за пісаным правам, а калі яно адсутнічае — разглядаюцца прэцэдэнты, альбо аналогіі. Першыя два варыянты загадзя трэба прызнаць бясплённымі. А трэці? Калі ласка: паўсюдна вельмі дакладна выпрацавана працэдура рэестрацыі фірмаў, вырабаў, таварных знакаў. Кожнаму, мусіць, будзе няцяжка звярнуць увагу на маленькую лацінскую літарку R, якая сціпла прытулілася ў маленечкім колцы пад кожным «Снікерсам» ці «Баўнці». Гэта і ёсць — Registred Trade Mark, знак таго, што ніхто, акрамя гэтай фірмы, не мае права не толькі карыстацца запатэнтаванай тэхналогіяй вырабу, але нават і ўжываць гэтую назву.

Таму гэтая аналогія наводзіць нас /ліцвінаў-беларусаў/ на сумную думку, што мы трохі спазніліся, бо Рэспубліка на Окштах і Жмудзі зарэестравалася пад назвай Літва трохі раней /яшчэ ў Лізе Нацый/, так што ніхто гэтага ейнага права ані ў Гаазе, ані ў ААН аспрэчваць не будзе. Тут ужо пануе не гісторыя, тут за аналаг узята будзе камерцыйнае права.

Дык няўжо ўсё так сумна для нас? Не! Проста /па-першае/ не трэба рабіць аніякіх спроб давесці летувісам-жамойтам, што яны не ліцвіны. Гэты накірунак, мякка кажучы, непрадуктыўны.

Ёсць іншы шлях. Шлях цывілізаваны, крочачы якім, мы не абражаем годнасць нашых адзінакроўных братоў-жамойтаў, не выклікаем подзіву і незразумення «люду паспалітага», які нашых гістарычных выкладак не чытае / які, дзякуй Богу, нарэшце ўцяміў, што ён не «тутэйшы», а беларус, а тут — на табе — ліцвін/.

Трэба, каб абраны праз нас шлях быў зразумелы сусвету: палітыкам, юрыстам, гісторыкам і нават школьнікам.

Гэта натуральны шлях, які векавечна цягнецца з цемрадзі стагоддзяў, і яго асвятляюць словы: «Нам няма чаго дзяліць у гісторыі з жамойтамі».

Ужо нават амаль афіцыйна нашымі гісторыкамі прынята канцэпцыя аб агульным беларуска-жамойцкім характары Вялікага княства Літоўскага. Так, мы, два народы, з'яўляемся спадкаемцамі Вялікай Літвы. І адразу ж адшукаецца процьма карысных для нас гістарычных ці нават юрыдычных аналагаў: так, шматлікія арабскія дзяржавы з'яўляюцца пераемнікамі традыцый некалі магутнага Арабскага Халіфата. І як нікога не дзівіць, што існуе Арабская Рэспубліка Егіпет побач з Арабскай Рэспублікай Сірыяй і мо тузінам іншых арабскіх дзяржаў, дык нікога, ані ў цэлым свеце, ані на нашай Літве, не павінна дзівіць існаванне Літоўскай Рэспублікі на Окштах і Жмудзі, так і Літоўскай Рэспублікі Беларусь.

Якая з іх будзе мець большы аўтарытэт у свеце — пакажа час...

Таму застаецца толькі пачакаць, пакуль сапраўдны беларускі сойм прыме пастанову аб удакладненні назвы нашай краіны: Літоўская Рэспубліка Беларусь.

**Віталь КОШАЛЕЎ,**
**лекар-тэрапеўт, дацэнт Мінскага медычнага інстытута, сябар гарадской Рады ТБМ**

З пошты "ЛіМа"

## ТАК СКАЗАЦЬ, КАНТАКТНЫ...

Нямала змен прынесла ў наша жыццё так названая перабудова, і чым далей адыходзіць яна ў гісторыю, тым больш прыкметны яе негатыўныя бакі. Нават у лінгвістыцы. Колькі было паламана калісьці дзідаў у барацьбе са «словамі-пустазеллем», накшталт «разумееш», «так сказаць», «ну, гэта»... І на якой глебе вырас новы від пустазелля — словазлучэнне «скажам так»? Адкуль яно ўзялося? Паслухайце радыё: іншы раз дзесяткі разоў, асабліва ў прамым эфіры, у матэрыялах, інтэрв'ю радыёкарэспандэнтаў гучыць гэтае «скажам так» менавіта з іх вуснаў, засмечваючы мову. Больш дарэчы быў бы выраз на беларускай мове «так бы мовіць», хоць прырода яго — тая ж, пустазельная, але мілагучней, мякчэй гучыць... Або выраз «кантактны тэлефон». Таксама — параджэнне перабудовы і, па сутнасці, тое ж пустазелле. Што яно дае, якую большую ступень шчырасці ці даверу — цяжка сказаць. Той самы тэлефон, ці тэлефон для даведак. І ніякі ён не кантактны. Чаму менавіта кантактны — ніхто не растлумачыць, можна нават падумаць — канструкцыя яго такая, у ім ёсць нейкія дэталі — кантактныя, як, напрыклад, радыётэлефон, ці галагенная лямпачка. Як пісалі аднойчы дасціпныя чытачы ў штотыднёвіку «Аргументы и факты», калі хто ведае хоць адзін не кантактны тэлефон, просьба паведаміць яго ў рэдакцыю. Між тым, больш правільна было б у крайнім выпадку сказаць — тэлефон для кантактаў. І зноў грашыць гэтым бяссэнсавым выразам Беларускае радыё ў сваёй назойлівай, як нахабная паразітка-муха, мала каму патрэбнай рэкламе, але — трэба зарабляць капейчыну на рэкламе. А радыё ж спрадвеку несла ў масы культуру мовы. І тут, выходзіць, перабудова зрабіла свой адмоўны ўплыў у імкненні радыёдзеячаў нечым вылучыцца ад мінулага, застойнага /чуў і такі выраз — «застольнага» / часу...

**В. ФЕРАНЦ**

## НЯЎЖО ЦЯЖЭЙШАЯ ЗА АРАБСКУЮ?

З кожным днём узрастае аўтарытэт беларускай мовы. Асабліва цікава, што тон у гэтай справе задаюць грамадзяне замежных краін. Так, на пачатку лістапада газеты паведамілі, што Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Мінску Тан су Акандан сваю прамову на прыёме, наладжаным у гонар 70-й гадавіны з дня абвяшчэння Турэцкай Рэспублікі, сказаў на беларускай мове. Але ўсё гэта ў большай ступені датычыцца або туркаў, або японцаў ці амерыканцаў. А вось з грамадзянамі Рэспублікі Беларусь нярэдка адбываецца зусім супрацьлеглае. Так, у той жа дзень у тэлевізійнай праграме «Педагагічны экран» разглядаліся задачы і перспектывы гістарычнай адукацыі ў школе. Удзельнікі перадачы — аўтары школьных дапаможнікаў, настаўнікі мінскіх школ, супрацоўнікі Міністэрства адукацыі выказвалі свае меркаванні на беларускай мове. У адных гэта атрымлівалася лепш, у другіх — горш. Вось толькі кіраўнік аўтарскага калектыву па напісанні падручнікаў па сусветнай гісторыі У.Кошалеў даваў свае тлумачэнні на расейскай мове. Недасведчанаму гледачу можа здацца, што доктар гістарычных навук і прафесар проста не мае здольнасцей да філалагічных навук. Лёгка і я б паверыў у гэта, каб не адна акалічнасць. Яшчэ са студэнцкіх часоў на маёй кніжнай паліцы стаіць манаграфія паважанага Уладзіміра Сяргеевіча з яго ўласным аўтографам, напісаным прыгожай арабскай вяззю. У сувязі з гэтым у мяне і ўзнікае пытанне: няўжо беларускую мову вывучыць цяжэй, чым арабскую? Або прычыны гэтага «няведання» беларускай мовы зыходзяць з зусім іншай сферы?..

**Л.ДЗІКЦЯРОЎ,**
**настаўнік гісторыі**

*г.Гродна*

# ДЗЕ Ж ЯНА, ПЕРШАЯ ПЕСНЯ КРАІНЫ?

## ЯКІМ БЫЦЬ ДЗЯРЖАЎНАМУ ГІМНУ: РАЗМОВУ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЧЫТАЧЫ

Жыццё — гэта пошук лепшага варыянта. Ці то прафесійнага выкарыстання дадзенага прыродай, ці то спосабу харчавання, пабудовы сям'і, дзяржавы... ці то гімна. Хістанні, блытаніна з конкурсам на гімн Беларусі-Літвы перацяклі ў рашэнне Журы конкурсу — яго можна зразумець, але прыняць... Пераможцам станецца той, хто першы стоміцца ад высвятлення ісціны і ў межах сваіх магчымасцей здолее схіліць суддзяў у пажаданы бок? На жаль, давядзецца пагадзіцца з В. Скорабагатавым у ягонай публікацыі: прапанаваны тэкст няўдалы, добрага тут не атрымаецца і не стане сённяшні беларус-ліцвін укладаць у прапанаваны «апошні варыянт» гімна свой уздым душы і палёт пачуццяў. Сам В. Скорабагатаў дае на ролю гімна песню «Лёс выпрабоўваў цябе, Беларусь». Здаецца, гэта самая ўдалая песня з «удзельнікаў спаборніцтва». За выключэннем «Магутнага Божа». Тое, што рэлігійныя канфесіі зрабілі яго агульным гімнам веруючых, а ў нас ёсць яшчэ й атэісты, не павінна перашкаджаць разуменню ісціны, чалавек у сваім жыцці заўсёды шукае апору ўласным імкненням, справам. Будзе тая апора Богам, партыяй, Космасам, жончыным каханнем, — усё гэта, па сутнасці, ёсць для канкрэтнага чалавека ягоны Бог. І досыць баяцца гэтага слова, трэба да яго прывыкаць. Мо ёсць сэнс даць «дабро» некалькім апошнім варыянтам гімна Беларусі-Літвы, і няхай жыццё, людзі дадуць з часам адказ, **што** ж лічыць першай песняй нашага Краю?

**А. КАТЛЯНІК,**
**ліцвін з Менска**

●

З вялікай цікавасцю пазнаёмілася на старонках вашай газеты з публікацыяй В. Скорабагатава «Варыянт, варты ўвагі» /«ЛіМ» за 12.11.93 г./. Сталая грамадзянская пазіцыя аўтара, яго высокапрафесійныя, аргументаваныя меркаванні, пад якімі хочацца паставіць і свой подпіс, прымусілі напісаць вам. Я не музыкант і не паэт, а гісторык па адукацыі, працую ва ўпраўленні культуры, і бывае балюча глядзець, як справа Адраджэння стрымліваецца не толькі «бюракратамі ад культуры», але і самой творчай інтэлігенцыяй, яе пасіўнасцю, асабістымі амбіцыямі. Яскравымі прыкладамі гэтага могуць служыць шматгадовыя, часта бясплённыя конкурсы — на помнік Ф. Скарыне ў Мінску, К. Каліноўскаму і М. Багдановічу ў Гародні і г. д. І таму мяне вельмі парадавала тое, што спадар В. Скорабагатаў не толькі крытыкуе прапанаваны тэкст, але і прапануе іншы, на мой погляд, вельмі дастойны варыянт гімна. Незразумела толькі, чаму гэта засталося па-за ўвагай журы конкурсу. І вельмі шкада, што з'явілася сама публікацыя з вялікім спазненнем, і магчыма, давядзецца нам «паднімацца з нізін» усё астатняе жыццё...

**Тэрэза СІДАРЭВІЧ**

*г. Гродна*

●

Ад колькіх ветэранаў УС Случчыны. Аб гімне. Верш Я. Купалы «Маладая Беларусь» цудоўны, але занадта доўгі: а цяпер скажыце, толькі шчыра, хто з вас ведае поўны тэкст цяперашняга гімна? Мяркуем: трэба прыняць, без слоў, твор М. Кл. Агінскага «Развітанне з радзімай» альбо «Магутны Божа» — музыка М. Равенскага, словы Н. Арсенневай.

Жыве Беларусь!

**Анатоль САЗОНАЎ,**
**ветэран УС**

*г. Слуцк*

## ЗА ЖЫЦЦЁ, ВАРТАЕ ЧАЛАВЕКА

Сёння, калі наша дзяржава перажывае цяжкі эканамічны і палітычны крызіс, кожны сумленны чалавек павінен вызначыць сваю грамадзянскую пазіцыю адносна дзеянняў беларускага ўрада і ў першую чаргу Старшыні Савета Міністраў РБ сп.В. Кебіча, палітыка якіх, фактычна, накіравана на знішчэнне незалежнасці і суверэнітэта Бацькаўшчыны.

Немагчыма болей спакойна чытаць і слухаць іх пустыя абяцанкі паклапаціцца пра дабрабыт беларускага народа шляхам далучэння да грашовай і фінансавай сістэм Расіі, да «калектыўнай бяспекі».

Пракамуністычны ўрад, страціўшы пад сабой глебу рэальнасці, раскідаўшы налева і направа дабро народа, нажытае цяжкай працай, чапляецца за «старэйшага брата», прыніжана заглядаючы ў пустую кішэню суседа. А тым часам непрадказальнае павышэнне цэн кідае народ у бездань жабрацтва, выйсця з якога не бачна.

У невыносна цяжкім стане апынулася наша культура, мастацтва, а найперш адукацыя — уся нацыянальная школа. Мы, настаўнікі, у першую чаргу адчуваем гэта. Вось чаму мы з тымі прагрэсіўнымі і дэмакратычнымі сіламі рэспублікі, якія дбаюць пра дабрабыт і шчасце народа Беларусі, прапануюць шляхі яе нацыянальнага адраджэння, палітычнага і эканамічнага росквіту. Мы выступаем за адстаўку ўрада, каб адстаяць сваё неад'емнае права на жыццё, вартае чалавека, на права мець Радзіму.

**А. КАЖЭРА,** настаўніца сярэдняй школы N 38, член выканкама БСДГ; **Л. ШЛЕПЕРАВА,** настаўніца сярэдняй школы N 177; **А. САЛАМЕВІЧ,** выкладчыца беларускай мовы БДПУ; **Г. ЛОЙКА,** настаўнік Беларускага ліцэя мастацтваў і інш. Усяго 24 подпісы.

Рэпліка

# «РЭЗКІМ СЛОВАМ АЧЫСЦІЦЬ ПАСТВУ»!?

Гэтая «ісціна», якая традыцыйна выкарыстоўваецца як крайняя форма перасцярогі святаром сваіх вернікаў ад спакус нячысціка, успомнілася мне 7 лістапада, калі я слухаў радыёінтэрв'ю першаіерарха Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы мітрапаліта Філарэта. Сцішаная мажорнасць выступлення ўладыкі з нагоды асвячэння яшчэ адной праваслаўнай царквы ў нашай краіне ўтрымлівала ў сабе як вялікую ўзнёсласць з прычыны гэтага, так і скруху з прычыны трагічных вынікаў для веры «краснага дня календара». Але танальнасць гутаркі памянялася, калі першаіерарх «благаславіў» на выступленне «способного молодого священника» з г.Жодзіна А. Шынкевіча. Мусіць, у каго-небудзь яшчэ захаваўся ў памяці вобраз палкага мітынговага «прамоўцы ў расе», які імкнуўся, спалучаючы беларускую мову і хрысціянскія каштоўнасці, «дастукацца» да камуністычных «упаўнаважаных», а таксама да грамадскай свядомасці ў падтрымцы яго захадаў па пабудове царквы ў Жодзіне.

І вось, слухаючы выступленне айца Шынкевіча ў жывым радыёэфіры, я пераканаўся, што ён не толькі здолеў узвесці новую царкоўную будыніну, але і адчуў я тое, што асобныя ягоныя палітычныя ацэнкі мяжуюцца са зместам прынцыпу палітычнага атэізму «хто не з намі, той супроць нас!» І ўсё гэта мяне не здзівіла.

Не здзівілі мяне таксама ні разважанні аб ролі праваслаўя на беларускіх землях у гістарычным і сённяшнім вымярэннях, ні працэнты праваслаўнага насельніцтва ў нашай краіне. Бо яны здаюцца «памяркоўнымі» ў параўнанні з прэтэнзіямі манапольнага праваслаўна-саборна-славянскага канфесіявання беларусаў з боку тых палітычных сіл, якія імкнуцца ўцягнуць Беларусь у рублёвыя зоны, вайсковыя саюзы, «новыя» адносіны з Расіяй і г.д.

Дзівіць іншае: ягонае жаданне «каапатаваць» сябе ў міфічныя дэмакраты на пачатку дзейнасці БНФ. Для чаго спатрэбіўся такі самаабгавор? Прычына тут вельмі простая. Каб «раскрыць сутнасць» БНФ сілаю не менш «міфічна-радыкальнага разрыву» сяброўскіх сувязей з ім. Таму нават неяк няёмка пераказваць «прычыну разрыву» духоўнай асобы з нарадафронтаўцамі. Тут і прага іх да захопу ўлады, і нацыяналізм, і нясцерпнасць да ўсяго рускага....і г.д. Але трэба адзначыць і вузка «цэхавы» інтарэс айца Аляксандра. Гэта абвінавачванні дэмакратаў у спрыянні уніяцтву і сектанцтву на Беларусі.

Уступаць у палеміку з годным айцом не прыстае. Але хочацца параіць і яму заглянуць у праграмныя і статутныя дакументы БНФ, успомніўшы вялікія высілкі дэмакратаў па ажыццяўленні, яшчэ нават падчас існавання ўсемагутных упаўнаважаных, верацярпімасці ў нашым краі. Адзінае, што трэба адзначыць, дык гэта тое, што сапраўды дэмакраты ўжо пры сваім старце адмаўлялі прынцыпы, накшталт выказаных на прэс-канферэнцыі /«ЛіМ» за 8.01.1993 г./ патрыяршым экзархам усяе Беларусі Філарэтам аб праваслаўнай царкве як царкве-лідэру на беларускіх землях, ці погляд на уніяцтва як на нешта чужынскае, штучнае, як на сродак абвастрэння міжканфесійных дачыненняў. Гэта хутчэй і сталася першапрычынаю «радыёзагаду» а.Аляксандра: ні адзін хрышчаны ў праваслаўнай царкве на Беларусі не павінен знаходзіцца ў БНФ. Якая аналогія з нядаўнім! «Не аддадзім... у рэлігійнае цемрашальства!»

Не думаецца, што сам дзень 7 лістапада, ці традыцыя быць падсправаздачнымі нават у сакральных таінствах людзям з «класавым падыходам», і нават не жаданне ўлад «применить все имеющиеся средства» падчас адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета «обольшевили» духоўную асобу, а стратэгія асобных аўтарытэтаў як у царкоўнай агароджы, так і па-за ёй. Гэта накіравана на выкарыстанне веры ў палітычным жыцці Беларусі. Азнаямленне з друкаванымі органамі тыпу «Царкоўнае слова» дае важкія падставы для такіх высноў. Тут і папярэджанні «прастадушным людзям» не ўступаць у сяброўскія дыскусіі на старонках «ЛіМа», «Нашага слова», «Звязды». Тут і атаясамленне асобных пісьменнікаў і журналістаў з чырвонымі д'ябламі /«ЦС», N 5, 1993 г./. Нехта Б.Пякучы параўноўвае шлях дэмакратаў са шляхам хлусні і вар'яцтва /«ЦС», N 1, 1993 г./. Нібыта духоўная асоба, якая рэдагуе «Царкоўнае слова», не ведае ісціны: «жесток поп, гордящийся своей святостью».

Аксіёма: у свецкай краіне любая палітычная сіла не знаходзіцца ў становішчы абязлічанага прыхаджаніна, які павінен атрымаць царкоўнае прычасце і благаславенне. Тым больш гэта актуальна ў шматканфесійнай Беларусі. Улік гэтага палажэння дазволіць пазбягаць выкарыстання анафемы як элемента стратэгіі замацавання палітычнай ці канфесійнай манаполіі ў нашай дзяржаве.

**Мікола АНЦЫПОВІЧ,**
**дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі**

Дыялогі

***«Я — не палітык! Я — пісьменнік!» — так заявіў нашаму карэспандэнту ў нядаўнім інтэрв'ю /«Літаратура і мастацтва» за 29 кастрычніка/ Іван Чыгрынаў, разважаючы аб складаных падзеях, што адбываюцца ў сучасным грамадстве, і ролі творчай інтэлігенцыі ў іх. Безумоўна, з шаноўным Іванам Гаўрылавічам нельга не пагадзіцца — у тым сэнсе, што літаратары, работнікі культуры, мастацтва, прадстаўнікі іншых «узвышаных» прафесій мысляць часам залішне эмацыянальна, а таму наўрад ці могуць заўсёды правільна зарыентавацца ў тым, што адбываецца на палітычнай арэне. Аднак ёсць і іншыя прыклады, калі, скажам, паэт не цураецца і дзяржаўнай службы, — згадаем тут хоць бы Генадзя Бураўкіна, прадстаўніка Беларусі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дарэчы будзе згадаць і другога нашага паэта і філосафа Леаніда Яўменава, які не адзін год знаходзіўся на дыпламатычнай службе. Дарэчы таму, што ёсць нагода пагаварыць з ім менавіта на палітычныя, прававыя тэмы: 10 снежня спаўняецца 45 гадоў з дня прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека; акрамя таго, у маі споўнілася 25-годдзе Першай Сусветнай канферэнцыі па правах чалавека, якая праходзіла ў Тэгеране; і нарэшце, Леанід Фёдаравіч быў членам афіцыйнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на Другой канферэнцыі, Венскай, якая адбылася сёлета.***

# Леанід ЯЎМЕНАЎ:
# «ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў РЭСПУБЛІЦЫ МЫ НЕ ЗАЙМАЛІСЯ ЎСУР'ЁЗ»

**— Леанід Фёдаравіч, вы — прафесійны філосаф, займаліся ў асноўным тэарэтычнымі пытаннямі дыялектыкі і праблемнай адчужанасці. Не кажу ўжо пра тое, што — паэт, у вершах якога моцная менавіта філасофская падсветка... І раптам вы, а не нехта іншы — напрыклад, правазнаўца, аказаліся ў «камандзе» Беларусі на такім адказным і вельмі спецыфічным форуме, якім з'яўляецца Сусветная канферэнцыя па правах чалавека?**

— Пра спецыфічнасць праблемы. Яна, перш за ўсё, заключаецца ў яе сінтэтычным характары, у яе ярка выражанай, так сказаць, міждысцыплінарнасці. Любая праблема правоў чалавека — гэта з'ява, што падуладная толькі абагульненаму інструменту філасофіі, сацыялогіі, эканомікі, права і этыкі. Пры гэтым у дадзенай «абагульненасці» філасофія павінна выконваць, бадай, ролю першай скрыпкі. Ну, а паэзія? Паэзія — ролю моцнага духоўнага рэактара.

Акрамя таго, гадоў восем, недзе з 1961-га і да канца шасцідзесятых гадоў, я настойліва вывучаў праблему адчужэння, пакуль яе афіцыйна не «закрылі» палітагітатары брэжнеўскага ЦК.

Справа ў тым, што з'ява адчужэння і паняцце правоў чалавека — практычныя і лагічныя антыподы: калі рэалізуецца працэс адчужэння, так сказаць, сыходзяць на нішто правы чалавека. І, наадварот: рэалізуючыся, сцвярджаючыся правы чалавека — сыходзіць на нішто працэс адчужэння. А мы, даследчыкі адчужэння, канкрэтна і выразна сцвярджалі: існуючы /«рэальны»/ сацыялізм увесь, цалкам пранізаны глыбокімі метастазамі адчужэння... Менавіта падобным чынам ад забароненай праблемы адчужэння я прыйшоў да правоў чалавека. Гэта навуковыя падставы майго маральнага права займацца праблемай правоў чалавека.

Аднак ёсць у мяне і практычныя набыткі: чатыры гады працы з гэтай праблемай у якасці міжнароднага чыноўніка- Сакратарыята ЮНЕСКА, тры гады — у якасці пастаяннага прадстаўніка Беларусі ў Камісіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па правах чалавека, з іх адзін год — у якасці старшыні гэтай камісіі.

Такім чынам, мяркуйце самі, чаму філосаф, а не правазнаўца, паехаў на Сусветную канферэнцыю па правах чалавека. Хоць я разумею, што навуковая Беларусь магла быць дастойна прадстаўлена на гэтым форуме любым іншым пасланцом.

**— Наколькі можна было меркаваць па друку, іншых сродках масавай інфармацыі, у ходзе падрыхтоўкі Другой Сусветнай канферэнцыі па правах чалавека мелі месца выказванні аб нездавальняючай рабоце ААН у гэтай галіне. Наколькі яны слушныя?**

— Па-мойму, падобныя выказванні ў нечым скажалі сапраўдную сітуацыю. Натуральна, ААН штосьці сур'ёзна недапрацоўвала. Тут можна адзначыць недастатковую распрацаванасць канцэптуальнага апарату правоў чалавека, што знайшло сваё адлюстраванне ў дыскусіях канферэнцыі. Напрыклад, па праблеме універсальнасці ці, калі дакладней, прынцыпе універсальнасці правоў чалавека, праве народаў на самавызначэнне. Недастатковасць дзейнасці ААН давала аб сабе знаць і ў некаторай неаператыўнасці і неэфектыўнасці яе практычных працэдур па заахвочванні і абароне правоў чалавека; у пэўнай долі бюракратычнасці і фармалізме некаторых механізмаў абароны правоў чалавека. Відавочна і палітызацыя гэтай галіны дзейнасці ААН, што прывяло да так званых «двайных стандартаў» пры ацэнцы падобных сітуацый у розных краінах. Гэтыя «стандарты» былі народжаны палітычнымі інтарэсамі некаторых «узносаплацельшчыкаў» ААН. Да ўсяго не выконваліся ратыфікаваныя пакты і канвенцыі ці яны блакіраваліся шляхам шматлікіх агаворак...

Разам з тым неаспрэчным набыткам, поспехам ААН у гэтай галіне з'яўляецца яе унікальная, калі можна так сказаць, заканатворчая дзейнасць: пакты, канвенцыі, рэзалюцыі; кодыфіцыраваныя асноўныя праілы і нормы «гульні» фактычна ва ўсіх галінах — ад права на свабоду думкі да права на жыццё — усіх дзяржаў-членаў ААН, якія ратыфікавалі міжнародныя акты па правах чалавека.

Чаго варта адна Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека, 45-годдзе якой святкуе сёння ўвесь свет, што змагаецца супраць тыраніі ды цемрашальства?! Гэта ж сапраўдная БІБЛІЯ свабоды, дэмакратыі і гуманізму!

**— Дарэчы, а калі ўсё ж узнікла ідэя Другой Сусветнай канферэнцыі і як міжнароднае супольніцтва нацый рыхтавалася да яе?**

— На Генеральнай Асамблеі ААН у 1989 годзе прадстаўнік Марока, прывабная жанчына і прызнаны ў міжнароднай супольнасці дыпламат Халіма Эмбарэк Варзазі ўнесла рэзалюцыю аб правядзенні Другой Сусветнай канферэнцыі па правах чалавека. З савецкіх членаў ААН толькі Беларусь падтрымала гэтую рэзалюцыю, што выклікала рэплікі незадавалення маскоўскай дэлегацыі.

Для каардынацыі і ажыццяўлення работы па падрыхтоўцы канферэнцыі Генеральная Асамблея назначыла спецыяльны Сакратарыят і Падрыхтоўчы Камітэт.

У рамках падрыхтоўкі Сусветнай канферэнцыі былі праведзены тры буйныя рэгіянальныя сустрэчы: Азія, Афрыка, Лацінская Амерыка і адна міжрэгіянальная /па сутнасці зменшаная мадэль сусветнай/ пад эгідай Савета Еўропы ў Страсбургу. Матэрыялы і дакументы рэгіянальных сустрэч ляглі ў аснову дыскусій і Падрыхтоўчага Камітэта, і самой канферэнцыі.

**— Нашых чытачоў, безумоўна, цікавіць, а хто ж уваходзіў у беларускую дэлегацыю? І чым канкрэтна яна займалася ў час такога прадстаўнічага міжнароднага форуму?**

— У друку, праўда, склад афіцыйнай дэлегацыі Рэспублікі Беларусь паведамляўся, але назаву яго яшчэ раз: міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, намеснік старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета па інфармацыі, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека Анатоль Вярцінскі, пасол па асобых даручэннях МЗС РБ Станіслаў Агурцоў, намеснік начальніка ўпраўлення інфармацыі, гуманітарнага супрацоўніцтва і правоў чалавека МЗ РБ Мікалай Бузо і я.

Работа? Каля двух месяцаў пайшло на вывучэнне і падрыхтоўку адпаведных дакументаў і пазіцый. У Вене кожны меў сваю сферу адказнасці і дзейнасці. Я вёў усю неабходную работу на пленуме канферэнцыі, дзе дакладваліся і абмяркоўваліся афіцыйныя пазіцыі дзяржаў па сучасных праблемах правоў чалавека. Мікалай Бузо працаваў у самым гарачым і самым адказным рэдакцыйным камітэце, дзе слова за словам, фраза за фразай у напружаных дыскусіях нараджаўся заключны дакумент. Станіслаў Агурцоў — у галоўным камітэце, дзе быў выбраны намеснікам старшыні. Там выпрацоўваліся важнейшыя канцэптуальныя рэкамендацыі да таго ж самага заключнага дакумента. Анатоль Вярцінскі імкнуўся ўнікнуць у работу ўсіх сфер канферэнцыі. Вярцінскі, Агурцоў і я выступілі на пасяджэннях галоўнага камітэта, Бузо — вёў неабходную работу на пасяджэннях рэдакцыйнага камітэта.

Наш міністр Пётр Краўчанка 16 чэрвеня выступіў ад імя беларускай дзяржавы двойчы: на пасяджэнні Спецкамітэта па супрацоўніцтве ў галіне бяспекі з выкладаннем пазіцыі РБ — па праблемах раззбраення і еўрапейскай бяспекі і на пленарным пасяджэнні Сусветнай канферэнцыі — па праблемах правоў чалавека. Характэрныя асаблівасці гэтых выступленняў — сур'ёзная аргументаванасць пазіцый і цвярозы рэалізм, палітычная ўмеранасць і дыпламатычная ўзважанасць зрабілі ў Вене прыемнае ўражанне, што асабліва падкрэслена ў прэс-бюлетэні інфармацыйнай службы ААН за 16 чэрвеня. Сапраўды, гэты чалавек, які валодае высокім узроўнем культуры, нацыянальнай самасвядомасці і адукаванасці, літаральна на вачах пераўтвараецца са здольнага палітыка пэўнай школы ў сучаснага прафесійнага дыпламата высокага класа, дастойнага прадстаўніка суверэннай дзяржавы Беларусь.

**— І ўсё ж, мабыць, былі і сярод іншых выступленняў такія, якія вам запомніліся? Гэтаксама, як запала ў памяць пазіцыя асобных палітычных дзеячаў?**

— Сур'ёзным прафесійным аналізам матэрыялаў канферэнцыі мы цяпер займаемся. Але ўжо можна сказаць з упэўненасцю: пустых, шэрых выступленняў на ёй амаль не было. Прамовы, прасякнутыя навізной пастаноўкі пытанняў і высокім прафесіяналізмам аналізу, былі прамоўлены многімі прадстаўнікамі аб'яднаных нацый, у прыватнасці, прэзідэнтам Аўстрыі Томасам Клейстэлем, Генеральным Сакратаром ААН, доктарам Бутрасам Галі, былымі прэзідэнтамі Карасан Акіно і Джымі Картэрам, удавой Андрэя Сахарава Аленай Бонар /апошнія трое былі запрошаны Сакратарыятам канферэнцыі асабіста/, лідэрам палесцінскага руху вызвалення Ясірам Арафатам, прадстаўніком Кітая і шэрагам іншых.

Аднак асаблівае ўражанне на мяне аказалі тры выступленні і тры асобы: Катрын Лялюм'ер — Генеральнага сакратара Савета Еўропы, міністра замежных спраў Босніі і Герцагавіны, міністра замежных спраў Кубы.

Першае — глыбінёй і самакрытычнасцю аналізу, выключна яркім аратарскім майстэрствам. А, магчыма, яшчэ і тым, што яно падмацавала маю ідэю аб недастатковай канцэптуальнай распрацаванасці праблемы правоў чалавека, у тым ліку і праблемы прынцыпу іх універсальнасці, аб немагчымасці звядзення яго да ідэі практычнай уніфікацыі ўсіх яго праяўленняў, падобна вопыту уніфікацыі нацыянальнага вульгарным механічным інтэрнацыяналізмам.

Аднак справа, відавочна, не толькі ў маім асабістым суб'ектыўным уражанні: гэтая прамова была сустрэта гучнымі воплескамі агромністай залы Аўстрыйскага цэнтра, у якім, зазвычай, збіраюцца знакамітыя палітыкі, дыпламаты, аратары. І справа не ў тым, што прамову страсна прамовіла прывабная француженка. Галоўнае — яе ідэі былі неардынарныя, у тым ліку і тая, пра якую я згадаў — аб асаблівасцях прынцыпу універсальнасці.

Другое выступленне /без паперкі, на выдатнай англійскай мове/ таксама літаральна ўскалыхнула ўсю залу. Але не столькі звыклай для гэтай залы яркасцю і глыбінёй аналізу. Хутчэй за ўсё — горам народа, якое можна выказаць толькі страшным паняццем — ГЕНАЦЫД. Мяне ўскалыхнула гэтае выступленне не само па сабе. Яно ўскалыхнула мяне маланкава народжанай думкай: гаворку неабходна весці не аб звыклым «аднабаковым» генацыдзе. ГАВОРКУ ТРЭБА ВЕСЦІ АБ ЯГО САМЫМ ЖУДАСНЫМ ПРАЯЎЛЕННІ — АБ УСВЯДОМЛЕНЫМ І СПЛАНАВАНЫМ УЗАЕМАГЕНАЦЫДЗЕ, самым бязлітасным і масавым праяўленні самазнішчэння чалавецтва.

Трэцяе выступленне выклікала магільнае маўчанне і кароткі ўсплёск рэдкіх воплескаў рэдкіх сёння адкрытых і шчырых аднадумцаў. Прадстаўнік Кубы гаварыў аб навязванні іншым чужых сацыяльна-палітычных мадэляў, стратэгіі абмежавання нацыянальна-дзяржаўных суверэнітэтаў, апраўдання ўмяшальніцтва ў эканамічныя і палітычныя правы дзяржаў, аб «двайных стандартах» у галіне правоў чалавека. Але не проста аб праяўленнях «двайных стандартаў» — ён гаварыў аб ПАЛІТЫЦЫ ДВАЙНЫХ СТАНДАРТАЎ у аднапалярным /цяпер ужо/ міжнародным супольніцтве нацый. Адна гэтая ідэя сама па сабе ўцягнула ў стан моцнага маральна-псіхалагічнага дыскамфорту. Яе, гэтую ідэю, узмацняла не зусім выразнае, усвядомленае, вызначанае ўнутранае пачуццё, якое нараджае і стан згрызоты сумлення, і безвыходнасці. Асабліва пры сустрэчах з нядаўнімі сябрамі, кубінскімі дыпламатамі. Безвыходнасці блукання ў лабірынтах палітычных варыянтаў паняццяў ВЕРНАСЦЬ і ПРЫСТОЙНАСЦЬ, АДДАНАСЦЬ І ЗДРАДА... Паняццяў, якія сталі надзіва актуальнымі ў цяперашнім палітычным жыцці. Пакуль я не знайшоў яшчэ сваю «нітку Арыядны» ў гэтым беспрасветным лабірынце. Аднак пры любых абставінах, дай Бог, каб гэты прыгожы і гордынарод, яго самаахвярны ўрад, які паўстаў супраць кашмараў тыраніі і бяспраўя, выстаялі, выжылі, знайшлі сябе.

**— І ўсё ж, Леанід Фёдаравіч, давайце яшчэ ўдакладнім, якія ідэі на канферэнцыі былі галоўнымі? Якія з іх, наадварот, былі сустрэты, як кажуць, у штыкі? І ўвогуле, ці можна вылучыць самыя прыярытэтныя з іх, калі гаварыць аб агульным настроі канферэнцыі?**

— Амаль ва ўсіх выступленнях узнімаліся праблемы універсальнасці, непадзельнасці, роўнасці ўсіх асноўных груп фундаментальных правоў чалавека, непарыўнасці феномена развіцця з дэмакратыяй і правамі чалавека, недапушчэння «двайных стандартаў» пры ацэнцы сітуацый у асобных краінах. Непазбежна востра паўставала пытанне аб абароне ад масавых парушэнняў правоў жанчыны і дзіцяці, правоў карэннага насельніцтва. Можна сказаць, што менавіта гэтыя праблемы і былі пануючымі ў дыскусіях на Сусветнай канферэнцыі.

З гэтага пераліку я б вылучыў ідэю аб непадзельнасці і роўнасці асноўных груп фундаментальных правоў чалавека: сацыяльных, эканамічных і культурных, з аднаго боку, і грамадзянскіх, палітычных — з другога. Чаму? Менавіта гэтую пазіцыю пры жорсткім супрацьстаянні многіх заходніх дыпламатаў раней настойліва адстойвалі дэлегацыі сацыялістычных краін «савецкага ўзору». Цяпер гэтая ідэя, што суправаджаецца элементамі самакрытыкі, актыўна праводзіцца ў жыццё «заходнікамі», яркімі прыхільнікамі дэмакратыі і правоў чалавека. Што гэта? Жарты гісторыі? Для мяне важна, што гэта адзін з яе неаспрэчных фактаў.

Розныя падыходы /нярэдка на ўзроўні антаганістычнага супрацьстаяння/ мелі месца па праблеме універсальнасці правоў чалавека. Тут даволі часта выказвалася перасцярога, што пад прыкрыццём тэарэтычна слаба распрацаванага, а значыць, невыразна вызначанага і па-рознаму вытлумачанага прынцыпу народам з рознай палітычнай, духоўнай, светапогляднай культурай могуць навязаць пануючыя ў пэўных рэгіёнах /ці нават у асобным рэгіёне/ мадэлі заахвочвання, рэалізацыі і абароны правоў чалавека. Гэта ў сваю чаргу можа паслужыць мастком і для звычайных рэцыдываў абноўленага каланіялізму, і для рэалізацыі адкрытага палітычнага ціску, які зусім нядаўна вызначаўся як імперыялістычны. Ды справа не ў паняццях. Словы-паняцці могуць быць і іншымі. Скажам, «звышдзяржаўны» ціск. Справа ж у... справе.

Востра дыскусіравалася і праблема права народаў на самавызначэнне ў яго ўвязцы з прынцыпам тэрытарыяльнай цэласнасці; праблемы дзяржаўнага суверэнітэту і параўнальна маладога /вельмі нязвыклага/, што фарсіруецца тэарэтыкамі ААН і еўрапейскай супольнасці нацыі, права на ўмяшанне ў імя абароны правоў чалавека.

«Нязвыклае» не само па сабе паняцце права на ўмяшанне ў імя абароны правоў чалавека — яно даўно, як кажуць, наслыху, а зноў жа яго нявызначаная, неканкрэтная, а таму і выклікаючая ўнутранае супраціўленне трактоўка. У сувязі з гэтай групай ідэй нярэдка выказвалася апасенне, што народы, нацыі могуць быць пазбаўлены права на «выступленне» супраць любой тыраніі, права на барацьбу за сваю свабоду і незалежнасць, свой лад і сваё разуменне жыцця, калі ў імя прынцыпу тэрытарыяльнай цэласнасці пазбавіць іх абяцанага ім двума галоўнымі пактамі права на самавызначэнне. Выказвалася апасенне, што, з'яўляючыся кодыфіцыраваным, права на ўмяшанне можа ўзарваць усю міжнародную сістэму стрымання «права сілы», што распрацавана на сённяшні дзень.

Думаецца, што і блізкая і зусім «сённяшняя» гісторыя, мякка кажучы, не дае падстаў катэгарычна запярэчыць і супраць падобных апасенняў, асабліва, калі новы элемент міжнароднага права на ўмяшанне ва ўнутраныя справы дзяржавы, рашуча пераступіць меру палітычнай маралі і ўвойдзе ў чыста практычную палітыку, у прыватнасці, у галіну яе ваенна-палітычнага праяўлення. Тады правы міжнароднага супольніцтва нацый сапраўды могуць пераўтварыцца ў права таго, хто, аплачваючы львіную частку ўтрымання аркестра, нязменна і настойліва заказвае толькі сваю музыку.

*(Працяг на стар. 12)*

Адраджэнне

# ВЯРТАННЕ «НАШАГА КРАЮ»

Хаця існуе меркаванне, што кожны этап беларускага адраджэння развіваўся без непасрэднай сувязі з папярэднім, але, як адзначыў гісторык П. Церашковіч, «...мы традыцыйна шукалі кропкі апоры... у мінулым» /«ЛіМ», 1991, 20 снежня/. Сучасная хваля шукае такія кропкі ў адраджэнскім руху 20-х гадоў. Асабліва гэта тычыцца краязнаўства, якое ў гады застою амаль не развівалася, у той час як паслярэвалюцыйны перыяд адзначаўся значнымі набыткамі краязнаўчага руху. Прыкладам таму можа служыць часопіс «Наш край».

Нацыянальная бібліятэка Беларусі, маючы на мэце дапамагчы ўсім, хто займаецца ці збіраецца заняцца краязнаўчай працай, змясціла на старонках бюлетэня «Новыя кнігі Беларусі» /1993, N 4. Дадат.; N 5, с. 23—31/ агляд зместу гэтага выдання пад назвай «Краязнаўчыя матэрыялы на старонках беларускага друку 20-х гг. XX ст.»

«Наш край» выходзіў з 1925 па 1930 год. У перадавым артыкуле апошняга нумара адзначалася: «Часопіс «Наш край», пачынаючы ад сваёй бяскласавай назвы, павінен змяніць свой твар. Ён павінен стаць органам барацьбы за марксісцкую ідэалогію ў краязнаўчым руху, мабілізуючы масы вакол сацыялістычнага будаўніцтва». І ён змяніў і назву, і «твар». «Наш край» пачаў называцца «Савецкая краіна» і змяшчаў у асноўным матэрыялы аб сацыялістычным спаборніцтве, калгасным будаўніцтве, «класавай барацьбе» нават у школе. На старонках «Савецкай краіны» нават «Наш край» выкрываўся як «трыбуна нацдэмаў для публічнай прапаганды і агітацыі контррэвалюцыйных поглядаў».

Для нас жа артыкулы, надрукаваныя ў «Нашым краі», надзвычай цікавыя. Рэдакцыя змяшчала ў кожным нумары парады, рэкамендацыі, метадычныя распрацоўкі. Прапаноўваліся прыкладныя статуты раённых краязнаўчых таварыстваў, накірункі працы, ставіліся пэўныя задачы, друкаваліся падрабязныя інструкцыі па збіранні рознага роду матэрыялаў. Публікаваліся справаздачы як Цэнтральнага бюро краязнаўства, так і мясцовых органаў. Знаходзілі адлюстраванне назіранні за прыроднымі з'явамі, надвор'ем і г. д.

На жаль, надзвычай абмежаваны аб'ём бюлетэня «Новыя кнігі Беларусі» не дазволіў раскрыць змест усіх гэтых матэрыялаў. Увага звярталася на артыкулы, што нясуць фактычную інфармацыю: апісанні населеных пунктаў, помнікаў гісторыі і археалогіі і г. д. Яны размеркаваны па абласцях, прычым тагачаснае адміністрацыйна-тэрытарыяльнае дзяленне пераводзілася на сучаснае. Асобна ў дадатку выдзелены публікацыі, змест якіх тычыцца ўсёй Беларусі. Да кожнага артыкула даецца анатацыя, дзе адзначаны найбольш важныя даты, указваюцца населеныя пункты, пра якія ідзе гаворка.

Каштоўнасць публікацый з часопіса «Наш край» яшчэ і ў тым, што ў іх можна знайсці апісанні, а іншы раз і фотаздымкі помнікаў, якія не захаваліся да нашага часу. У публікацыях пра тое ці іншае мястэчка нярэдка прыводзіцца яго план, пералік назваў вуліц, як дарэвалюцыйных, так і больш позніх.

Вялікая ўвага ў часопісе ўдзялялася бібліяграфіі. Падаюцца бібліяграфічныя матэрыялы ў дапамогу вывучэнню як усёй Беларусі, так і асобных яе частак: Віцебшчыны, Полаччыны, Гомеля і Гомельшчыны, Мазыршчыны, Магілёўшчыны, Ігуменшчыны. У той час разумелі, што бібліяграфія адыгрывае вельмі значную ролю ў развіцці культуры.

Бюлетэнь «Новыя кнігі Беларусі» ёсць у кожнай масавай бібліятэцы, яго можна набыць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Гэта дазваляе чытачам без перашкод азнаёміцца са зместам часопіса. Але гэтага, мабыць, недастаткова.

У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваецца поўны камплект «Нашага краю». Магчыма, ён ёсць і ў іншых бібліятэках, аднак, напэўна, гэтага мала для патрэб рэспублікі. Вядома, чытачы з іншых абласцей, раёнаў могуць звярнуцца ў Нацыянальную бібліятэку, каб зрабіць копію патрэбнага матэрыялу, ды гэта працэс доўгі. Таму было б цудоўна, каб нашы выдаўцы, якія зацікаўлены ў адраджэнні Беларусі, зрабілі факсімільнае выданне часопіса.

**Т. МАЦВЕЕВА,**
**супрацоўніца навукова-бібліяграфічнага аддзела Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

Анкета "ЛіМа"

***Гэтай анкеце папярэднічала гутарка з дырэктарам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы В.Каваленкам, дзе абгрунтоўвалася неабходнасць стварэння новай гісторыі беларускай літаратуры /глядзіце нумар за 19 лістапада/. Памятаючы, што «чалавечы фактар» у значнай меры вызначае поспех любой задачы, мы звярнуліся і да непасрэдных выканаўцаў, да ўсіх, на чые плечы кладзецца непад'ёмны цяжар задуманага. Праўда, на пытанні, прапанаваныя аддзелам крытыкі і бібліяграфіі, падахвоціліся адказаць нямногія, што само па сабе паказальна. А пытанні сфармуляваны наступным чынам:***

***1. Якой, на ваш погляд, павінна быць новая гісторыя беларускай літаратуры XX ст. у адносінах зместу, падыходаў і персаналіяў?***

***2. Над якім раздзелам /тэмай/ працуеце вы асабіста? Ці маеце пэўнасць па ўсіх пазіцыях?***

Пятро ВАСЮЧЭНКА

# ЁСЦЬ ПАДСТАВЫ ДЛЯ ПАДАГУЛЬНЕННЯ

Гісторыя не пераробліваецца, не перапісваецца, нават не пераасэнсоўваецца, — а падагульняецца, штораз на новым, багацейшым грунце. Таму, на мой погляд, трэба пісаць не «Гісторыю на пераходны час», а «Гісторыю-падсумоўванне», якой хапіла б пакаленню-другому, перш чым нарасце новы часавы пласт.

Але падагульняць — што?

Гадоў дзесяць таму такога пытання не паўстала б. «Гісторыя» на той час магчымая была хіба ў адным варыянце — як падагульненне спроб марксісцкага /матэрыялістычнага, вузка сацыялагізаванага/ спасціжэння літаратурнага руху. Так было з маскоўскай «Историей всемирной литературы», якая заканамерна захлынулася на сёмым томе, не здолеўшы пракаўтнуць аграмадны літаратурны матэрыял XX стагоддзя. Мы на Беларусі не паспелі распачаць аналагічнай працы — і яно, напэўна, да лепшага.

А падагульненне мажлівае нават на хісткім, дрыгвяным грунце навуковых спекуляцый, спрашчэнняў, пераскокаў з літаратуры ў сацыялогію і палітыку, грубых тэарэтычных хібаў — калі пералічанае бачыцца ў святле строгага навуковага аналізу як штось пройдзенае, абвергнутае часам. Айчыннае літаратуразнаўства мае і пазітыўны досвед — суму назіранняў за паэтыкай, стылем, мовай, жыццяпісам нашых класікаў. Маем тэксты — у тым ліку і тэксты вернутай /да часу забытай або забароненай/ спадчыны. Яшчэ — тэрыконы фактаграфіі, дзякуючы нястомным высілкам далакопаў-архівістаў.

Такім чынам, ёсць падстава для падагульнення. А яно на сёння можа мець два варыянты.

Першы: «Гісторыю» піша адзін аўтар. Крытэрыямі тут будуць перадусім аўтарскі густ, светагляд, эрудыцыя, разуменне харастава. З'явіцца «гісторыя», зітаваная аўтарскай суб'ектыўнасцю, споўненая ўнутранай палемічнасці і, мажліва, міфалагемаў, якія ў гэтым варыянце цалкам дапушчальныя. Зрэшты, ёсць і класічны ўзор такое працы — «Гісторыя беларускае літаратуры» М.Гарэцкага.

Другі варыянт: «Гісторыя» пішацца супольнай аўтараў, і тут першая праблема — уніфікацыя, пры розных густах, светапоглядах, стылях, навуковай кваліфікацыі.

Найгоршы спосаб уніфікацыі — праз агульную ідэалагему, хай гэта нават вельмі прывабная ідэалагема — беларускае Адраджэнне, беларускі шлях і да т.п. Мэтай даследавання станецца падгонка матэрыялу пад схему, і вынікам будзе новая старая, па-старому тэндэнцыйная, хай сабе і перакуленая, гісторыя.

Пакуль што мне бачацца некалькі рэчаў, на якіх можна дамовіцца без пагрозы збэсціць працу. Фармальная логіка, строгасць, аргументаванасць высноў. Выверапая фактаграфія. Арыентацыя на неаспрэчныя ўсялюдскія і нацыянальныя каштоўнасці.

Цяпер — прыватнасці. Акадэмічная «Гісторыя» пачынае складвацца як гісторыя беларускага пісьменства XX стагоддзя.

Ясна, што аптымальным варыянтам была б цэласная праца, якая ахоплівала б увесь 900-гадовы шлях беларускай літаратуры. Шлях, у якім можна прасачыць як агульнаеўрапейскую парадыгму /сярэдневечча — Рэнесанс — Рэфармацыя — Контррэфармацыя — Асветніцтва — эпохі рамантызму і рэалізму — мадэрнізму і постмадэрнізму/, так і чыста беларускія асаблівасці гэтага шляху. Ёсць, скажам, загадка беларускага рамантызму, які ў сваёй эвалюцыі расцягнуўся ажно на два стагоддзі, ёсць эстэтычны феномен «нашаніўства» і «ўзвышанства» — інтуіцыя

Павел ДЗЮБАЙЛА

# ЯШЧЭ МОЦНЫЯ СІЛЫ ІНЕРЦЫІ

Якой павінна быць новая гісторыя беларускай літаратуры? Вядома ж, больш аб'ектыўнай, больш поўнай за ўсе гісторыі, якія пісаліся. Павінна быць уключана беларуская літаратура замежжа, літаратура рэпрэсіраваных пісьменнікаў, а таксама творы, якія доўгі час не друкаваліся або замоўчваліся. Што ж датычыцца самога зместу і кампазіцыі, я застаюся традыцыяналістам: у гісторыі павінны быць агульныя раздзелы, дзе можна шырока паказаць літаратурны працэс, раскрыць важнейшыя тэндэнцыі і заканамернасці літаратурнага развіцця, а таксама раздзелы ці, можа, невялікія «медальёны», прысвечаныя творчасці лепшых пісьменнікаў, чые творы істотна ўплывалі на літаратурны працэс, сталі этапнымі ў нашай літаратуры. І апошняе: не варта драбніць літаратурны працэс, дужа цесна прывязваючы яго да сацыяльна-палітычнага жыцця. У беларускай літаратуры XX стагоддзя, зыходзячы з уласна эстэтычных, гісторыка-літаратурных заканамернасцей, можна вылучыць этапы: пачатак веку — канец 20-х гадоў, 30-я — сярэдзіна 50-х гадоў, сярэдзіна 50-х гадоў — сённяшні час.

Пішу я для гісторыі раздзелы аб сучаснай беларускай прозе. Прыходзіцца пераадольваць значныя цяжкасці. Перыяд вялікі — з сярэдзіны 50-х гадоў, чатыры дзесяцігоддзі. Былі ў літаратуры тут і свае падэтапы — «адліга» /сярэдзіна 50-х — сярэдзіна 60-х гадоў/, так званы час застою /сярэдзіна 60-х - сярэдзіна 80-х гадоў/ і час перабудовы /апошнія гады/. Калі проза 50 — 80-х гадоў больш-менш асэнсавана, ацэнена, хоць, вядома, неабходна і тут новае прачытанне многіх твораў, новы погляд на агульны літаратурны працэс, то сённяшняя проза па сутнасці сур'ёзна не даследавалася.

Ды і ў час так званага застою літаратура развівалася часта не ў адпаведнасці з афіцыйнымі пастановамі і прадпісаннямі, а насуперак ім ствараліся творы значнай ідэйна мастацкай вартасці, узровень якіх і сёння не пераўзыдзены. Гэта перш за ўсё творы І. Мележа, А. Куляшова, У. Караткевіча, А. Макаёнка, П.Панчанкі, В. Быкава і інш.

Пэўныя змены адбываюцца ў літаратурным жыцці і літаратурным працэсе і сёння, хоць задужа марудна і з вялікімі цяжкасцямі.

Якія ж выяўляюцца новыя тэндэнцыі? Пачала перайначвацца самасвядомасць літаратуры і крытыкі. У літаратараў стала нараджацца і складвацца новае ўяўленне, новае разуменне ролі і месца літаратуры ў духоўным жыцці народа, а таксама тых актуальных задач, якія пастаўлены перад ёй у сувязі з нацыянальным адраджэннем. Паступова пісьменнікі прыходзяць да разумення таго, што ў літаратуры найважнейшым з'яўляецца не пастаноўка актуальных, вострых праблем жыцця — сацыяльных,

Люба ГАРЭЛІК

# КОЖНЫ ШУКАЕ СВАЕ ПАДЫХОДЫ

Думаецца, што пры напісанні «Гісторыі беларускай літаратуры XX ст.» неабходна кіравацца перш за ўсё наступнымі прынцыпамі:

1. **Універсалізму,** гэта значыць, імкнуцца да паўнаты даследавання літаратурнага працэсу, яго ўсебаковага і глыбокага асвятлення. Пры гэтым грунтоўнага вывучэння патрабуе літаратура беларускага замежжа, якая аказвала і аказвае непасрэдны ўплыў на адраджэнне нацыянальнай свядомасці;

2. **Цэласнасці** /без усталяванага дзялення на дакастрычніцкі і паслякастрычніцкі перыяды/. У аглядных артыкулах будуць асноўныя тэндэнцыі і некаторыя заканамернасці развіцця літаратуры першых дзесяцігоддзяў, дваццатых-трыццатых гадоў, пасляваеннага і сучаснага перыядаў;

3. **Аб'ектыўнага** крытыцызму. Толькі зыходзячы з агульначалавечых каштоўнасцей, можна вызначыць ролю і месца літаратурных набыткаў таго або іншага пісьменніка, справядліва ўзважыць яго ўклад у літаратурны працэс.

Ступень максімальнай набліжанасці пісьменніка да сучаснасці вызначаецца здольнасцю яго па-майстэрску адлюстраваць у мастацкай форме гуманістычныя ідэалы, што з'яўляецца адным з найважнейшых крытэрыяў пры ацэнцы яго творчых падрахункаў. Найбольш сучаснымі ўяўляюцца тыя творы, аўтарам якіх удалося ўзняцца над вузкапартыйнымі, класавымі, групавымі інтарэсамі. Чым больш раскаваны і незалежны погляд мастака ў адносінах да аб'екта яго адлюстравання, тым шырэйшыя далягляды адкрываюцца чытачу.

Даследуючы літаратурны працэс, нельга абмінуць літаратуру сацыялістычнага рэалізму, з яе абмежавана дагматычнымі, класавымі і партыйнымі ўяўленнямі. Нельга па той прычыне, што гэта старонка гісторыі літаратуры і летапісу жыцця народа, якая мае эпахальнае значэнне. З ёй непарыўна звязана шмат таленавітых і па-грамадзянску неабыякавых мастакоў. Важна вылучыць тыя эстэтычныя дасягненні, якія і сёння па-сапраўднаму хвалююць трывалай народнай асновай, уменнем аўтара дакрануцца і перажыць чужыя радасці і гора, як свае, уласныя.

Агульная панарама развіцця паэзіі, прозы, драматургіі бачыцца ў крытычным пераасэнсаванні не толькі асноўных, але і другарадных з'яў і фактаў літаратурнага жыцця, якія, аднак, аказвалі ўплыў на фармаванне грамадскай думкі. У сувязі са сказаным асаблівую вагу набывае грамадзянская мужнасць таго або іншага пісьменніка. Адны, напрыклад, прытрымліваючыся памяркоўна-марыянетачнай пазіцыі і мыслячы заідэалагізаванымі катэгорыямі, усё жыццё спачывалі на лаўрах. Другія ж за сваю неардынарнасць поглядаў, смеласць і прынцыповасць хоць і не былі ў пашане ў высокіх чыноўнікаў, але затое заставаліся самімі сабой, і калі было патрэбна, маглі выступіць у абарону апальнага сябра па пяры /прыгадаем мужнасць В.Быкава, У. Караткевіча, У. Дамашэвіча, А. Карпюка, выступленне Ф. Яфімава ў абарону А. Салжаніцына/.

Асаблівая адказнасць ускладаецца на аўтараў манаграфічных раздзелаў, ад якіх патрабуецца новае, па-сапраўднаму сучаснае прачытанне і крытычнае пераасэнсаванне творчасці пісьменнікаў і іх грамадзянскай пазіцыі.

Калі працуеш над манаграфічнымі раздзеламі пра творчасць Сяргея Грахоўскага, Максіма Лужаніна, Анатоля Вялюгіна, на жаль, не ўдаецца лёгка і проста знайсці падыходы да вывучэння іх індывідуальна-непаўторнага вопыту і шляхоў мастацкага перастварэння рэчаіснасці. Для мяне заўсёды асабліва цяжкім і марудным бывае першапачатковае «ўжыван-

падказвае, што шыфр да гэтых таямніц агульны.

Выхапіўшы з літаратурнай гісторыі XX стагоддзе, мы рэжам па жывому, і трэ будзе яшчэ думаць і думаць, як давесці на гэтым адрэзку непарыўнасць і агульную накіраванасць руху.

Стагоддзе таксама кроіцца на перыяды... Размова пра кампазіцыю, структуру рэчы непазбежна выклікае асацыяцыю з хірургіяй — маем справу з жывым, але трэба рэзаць, дзяліць, знітоўваць... Кожнаму з класікаў адмяраецца адзін-два-тры аркушы тэксту, і давядзецца вырашаць, хто больш заслужыў — Ластоўскі або Ядвігін Ш., Гартны альбо Лынькоў. Гэтая дзяльба можа дапоўніцца пікантнай сітуацыяй: хтосьці з жывых класікаў не атрымаў ні аркуша, і вось ён абрывае тэлефонны дрот, рукамі і нагамі стукаецца ў «Гісторыю»...

Мне думаецца, што падставай для асобнага раздзела павінен быць не стукат-грукат, не званы ў тэлефоны, не званні і не колькасць выдадзеных кніг, нават не гучнасць літаратурнага імя, а — мастацкі свет творцы. Маем выразны хранатоп, збудаваны паводле законаў мастакоўскага «я» — маем і падставу ўвайсці ў гэты мікракосм, у сумоўе з «я». Мне проста ўявіць мастацкі свет Гаруна, Мележа, Пысіна, М.Стральцова, а вось свет Гартнага,Цёткі, Глебкі ўяўляецца штосьці цьмяна, прыблізна, хаця і гэтыя імёны выбітныя. Тут ёсць пра што падумаць.

Яшчэ адна праблема, над якой стаміліся думаць, хоць і трэба, — «сацрэалізм». Адразу выкажу сваю думку, што гэты метад /калі ён метад/ так і не прышчапіўся на беларускай глебе, не спарадзіў ніводнага шэдэўра ці выбітнага пісьменніка — ні пралетарскага /як Горкі/, ні прыдворнага /як А.Талстой/. Была, аднак, беларуская «саўковая» літаратура і класічныя адпіскі /накшталт ліста бацьку ўсіх народаў ад беларускіх літаратараў/. І тое, што ёсць, — таксама варты ўвагі аб'ект для новай «Гісторыі». Тое, чым сёння можа займацца тая ж сацыялогія, герменеўтыка, псіхалогія творчасці /праблемы: творца і тыранія, творчасць у варунках жорсткае цэнзуры/, заўтра можа стацца аб'ектам для халоднай эстэтыкі. Але ў тым і рэч, што і сёння трэба пісаць, як заўтра і для заўтра.

эканамічных, экалагічных /гэта задачы навукі і публіцыстыкі/, а што мастацкая літаратура — найперш чалавеказнаўства, для яе самая галоўная сфера гуманістычная, маральная, духоўная.

Так, ёсць зрухі і паглыбленне, хоць хацелася б, каб яны былі больш істотнымі, карэннымі. Літаратура рашуча павярнулася да «лагернай» праблематыкі, да чалавечых лёсаў, якія не адбыліся, не спраўдзіліся, не здзейсніліся ў сувязі з народнай драмай, народнай трагедыяй — калектывізацыя, рэпрэсіі, вайна, Чарнобыль... Адраджаецца і паглыбляецца нацыянальная самасвядомасць літаратуры: цікавасць да гістарычнай тэматыкі, да народнага характару. Зварот да падзей вайны выклікаецца перш за ўсё антываеннай скіраванасцю літаратуры, яе гуманістычным пафасам. Аднак справядліва і тое, што яшчэ вельмі моцныя ў літаратуры сілы інерцыі — сацыялагічнай ілюстрацыйнасці, белетрыстычнай павярхоўнасці.

Але ж нельга сядзець і чакаць, пакуль новыя тэндэнцыі выявяцца выразна і акрэслена. Новая гісторыя літаратуры вельмі патрэбна сёння.

не» ў прадмет даследавання, калі даводзіцца пераадольваць пэўныя псіхалагічныя бар'еры, звязаныя з неадпаведнасцю жадаемага і існага. Скажам, творчасць Сяргея Грахоўскага, асабліва апошніх гадоў, выйшла далёка за рамкі звыклых стэрэатыпаў і схем. А як жа быць з вершамі і паэмамі Максіма Лужаніна, амаль цалкам адэкватнымі ўсталяваным вымярэнням літаратуры сацыялістычнага рэалізму, літаратуры супярэчлівай, у многім заідэалагізаванай і разам з тым таленавітай, не пазбаўленай жывых чалавечых пачуццяў, моцнай народнай асновы. Часам адчуваеш сябе няўпэўнена, асабліва калі задумваешся над тым, як найбольш бяскрыўдна адкінуць усё запалітызавана-кан'юнктурнае і аналітычна, непрадузята перачытаць эстэтычна каштоўнае, вартае ўвагі. Нейкай вялікай асалоды, захаплення ці рамантыкі ад любімай працы не адчуваецца, і гэта зразумела. Стан няўпэўненасці, разгубленасці, нават адчаю абумоўлены не столькі суб'ектыўнымі прычынамі, адносінамі да запланаванай тэмы, колькі агульнай грамадскай атмасферай, неўладкаванасцю быту, зняважлівым стаўленнем да навукі, у сувязі з чым узнікае адчуванне непатрэбнасці працы навукоўцаў сучаснаму грамадству. Гэта не значыць, аднак, што мы павінны сядзець склаўшы рукі і чакаць нейкай дапамогі збоку.

Кожны шукае свае падыходы да пераасэнсавання творчасці таго або іншага пісьменніка. Напісанне гісторыі літаратуры патрабуе максімальнай засяроджанасці і найбольшай канцэнтрацыі духоўнай энергіі.

*/Працяг у наступным нумары/*

# ЖЫЦЦЁ — ЯК ЖЫЦЦЁ...

## ЧАСОПІСЫ Ў КАСТРЫЧНІКУ

ВЫПАДАК апошнім часам рэдкі: часопіс «Полымя» апублікаваў творы для дзяцей. Пайшоў насустрач аднаму з патрыярхаў нашай літаратуры В. Вітку: «Авалодаць мовай, дасканаласцю слова можна толькі, калі яно гучыць у дзіцяці на слыху, як музыка, вабіць і дзівіць чарадзействам усёй сваёй сілы і хараства. Вось чаму і свой слоўнік для дзяцей я пісаў у вершах. Ні ў адным з дзіцячых часопісаў цалкам яго не надрукуеш. Нездарма ж я звярнуўся да «Полымя», з удзячнасцю памятаючы, што і мой дэбют у дзіцячай літаратуры блізка паўвека таму назад адбыўся якраз на яго старонках, дзе былі надрукаваны мае першыя казкі».

Яшчэ адно пацвярджэнне, што новае — добра забытае старое. Вершаваны ж слоўнік В. Віткі, несумненна, зацікавіць самых розных чытачоў — як малых, так і сталых, найперш выхавацеляў садкоў, а таксама настаўнікаў малодшых класаў. З досціпам піша В. Вітка, умее заінтрыгаваць, пачынаючы з першага ж верша «Ад А да Я», які з'яўляецца свайго роду ўваходзінамі ў свет слоўніка:

**Не спасцігнеш ураз,**
**Што ў адзін і той жа час**
**Я, я, я — і значыць: Аз,**
**А між імі слоў сям'я**
**І апошняе ў ёй — Я.**
**Колькі ўсіх іх у жыцці?**
**Як да Я мне дарасці?**

Далей у «слоўніку» прадстаўлена кожная літара. Адпаведна падабраны словы, што пачынаюцца на тую ці іншую з іх — «Ананас», «Бычок», «Вецер пад носам», «Выжал», «Гаў, гаў», «Гыля, гыля, гусяняткі» і г. д. Дарэчы, часопіс «Беларусь», які больш-менш рэгулярна адрасуе маленькім спецыяльныя падборкі твораў, гэтым разам на каляровым развароце апублікаваў комікс «Меч князя Вячкі». А чаму б і іншым нашым часопісам не практыкаваць падобныя публікацыі? Па-мойму, на тое ёсць дзве важкія прычыны. Па-першае, «Вясёлка» з-за свайго невялікага аб'ёму можа ўзяць далёка не ўсё, што прапануецца аўтарамі, па-другое, з-за высокай падпісной платы не кожны можа дазволіць сабе выпісаць некалькі выданняў. У такім стане «дарослы» часопіс можа стаць сябрам і для бацькоў, і для дзяцей.

Але гэта, як кажуць, пажаданні. Пагаворым жа пра тое, што ёсць. Дзённікавыя запісы змясціў у «Полымі» Я. Брыль. Праўда, яны не новыя, а ўзятыя, так сказаць, з запаснікоў: «прапануецца тое з запісаў, што ў свой час не пабачыла свету з меркаванняў ад аўтара не залежачых». Чытаючы гэтыя матэрыялы, здзіўляешся назіральнасці пісьменніка, яго здольнасці падаць факт так, што ён адразу ж прыцягне да сябе ўвагу і адначасова выклікае цэлую асацыяцыю разваг. Адначасова ўзнікае і іншае здзіўленне. Наколькі ж «пільна» прыглядаліся ідэалагічныя цэнзары да ўсяго, што з'яўлялася з-пад пяра творцаў, каб, барані Божа, не прайшло ў друк што-небудзь «недазволенае»?! Як падумаеш, дык у гэтай публікацыі, цвяроза разважыўшы, нічога такога і няма. А, бач ты, знаходзілі! Хутчэй за ўсё таму, каб паказаць і даказаць, што не марна елі свой хлеб...

Апавяданне А. Федарэнкі «Галя» знешне не вылучаецца. Сюжэт, я б сказаў, звычайны, факты, пакладзеныя ў аснову твора, будзённыя: «Ігар Снарскі ажаніўся на апошнім курсе, у канцы мая, — ажаніўся, як сам ён тлумачыў, нібы апраўдваўся, свайму сябру, рэдактару інстытуцкай сценгазеты, — «проста каб ажаніцца, каб неяк інакш пажыць...» Але нашто трэба было тлумачыць, апраўдвацца?»

Дзеянне ў апавяданні разгортваецца спакваля, нават мо крыху і замаруджана. Але ў гэтай звыклай плыні пісьменнік вылучае моманты, якія дазваляюць усебакова раскрыць характар і Снарскага, і, як процілегласць яму, той, з кім ён ажаніўся. З аднаго боку, — голы практыцызм, калі чалавек думае толькі пра сябе, неаднойчы ідзе на кампраміс з уласным сумленнем, абы лепей уладкавацца ў жыцці. З другога, — душэўнае хараство, што кампенсуе сабой фізічную недасканаласць. Праўда, пісьменнік не прамінае падкрэсліць у паводзінах Галі і пэўную інфантыльнасць, але такі ўжо яна чалавек, якога не перайначыш.

Акрамя твораў В. Віткі, паэзія ў «Полымі» прадстаўлена вершамі М. Аўрамчыка, У. Скарынкіна, Г. Каржанеўскай. «Важкай» атрымалася другая палова часопіса. У раздзеле «З літаратурнай спадчыны» У. Казбярук прадстаўляе аднаго з нямногіх аўтараў другой паловы 80-ых гадоў мінулага стагоддзя. Як вядома, для нашай літаратуры гэта быў цяжкі і складаны перыяд. «Як бы мы сёння ні намагаліся, — сведчыць У. Казбярук, — пасля паўстання 1863 г. дашуквацца паўнапраўнага літаратурнага працэсу — з развіццём еўрапейскіх напрамкаў, з зараджэннем адных мастацка-вобразных, стылёвых, жанравых форм, з адыходам у нябыт іншых, — мы нікуды не схаваемся ад факта, што ў другой палавіне 60-х, у 70-ыя і амаль да канца 80-х гадоў усяго гэтага на беларускай мове амаль што не было». І дадае: «У такіх умовах асаблівую каштоўнасць набываюць тыя адзінкавыя творы, якія ўсё ж такі прабіваліся на старонкі перыядычных выданняў, календароў або нейкіх зборнікаў».

Адно з гэтых выданняў — «Календарь Северо-Западного края» на 1889 год пад рэдакцыяй М. Запольскага, што выйшаў у свой час у Маскве. У ім і было змешчана апавяданне Н. /а магчыма, і М./ Шахава «Из жизни», якое цяпер перадрукавала «Полымя». Апавяданне цікавае тым /на гэта звяртае ўвагу і У. Казбярук/, што паказвае жыццё такім, якім яно было. Да нядаўняга ж часу ў нас было прынята высока ацэньваць толькі тыя творы, у якіх «лаялі памешчыка, чыноўніка або жандара», «плакаліся, жаліліся».

У раздзеле «Новыя пераклады» — творы У. Самійленкі /пераклаў з украінскай і напісаў прадмову А. Траяноўскі/ і Д. Папкавакава /пераклад з сербскахарвацкай І. Чароты/.

І, урэшце, публікацыя, якая прыцягне ўвагу многіх і многіх чытачоў — «Полымя» пачало друкаванне знакамітай «Хронікі Быхаўца», гістарычнага помніка, з якога можна пачэрпнуць цікавейшыя звесткі пра тое, хто мы і адкуль.

Увайшоў нарэшце ў графік і часопіс «Маладосць» /яшчэ нядаўна яго нумары запазняліся/. І гэта тым больш прыемна, што дзесятая кніжка часопіса адрасуе чытачам нямала змястоўных і цікавых матэрыялаў.

Найперш гэта — вершы В. Зуёнка /імі нумар і адкрываецца/. Слынны паэт, які апошнім часам праяўляе зайздросную творчую актыўнасць, пільна ўглядаецца ў наш супярэчлівы час, не забываючы, вядома, і на вечныя маральныя, духоўныя каштоўнасці — балазе, мы да іх пачалі па-сапраўднаму вяртацца.

Паэтычны «сшытак» «Маладосці» — гэта і вершы Я. Кужоўнік /яна дэбютантка/, М. Лукшы, А. Бібіцкага, М. Панковай.

Анатоль Казлоў зарэкамендаваў сябе як празаік-эксперыментатар, які ўводзіць у моўную тканіну твора элементы фантастычнага, умоўнага, быццам тым самым падкрэсліваючы: наша жыццё настолькі складанае, што часам цяжка разабрацца, што і да чаго ў ім. Новая аповесць А. Казлова «Распяцце, альбо Ці ж баліць галава ў вароны...» — не выключэнне. У ёй усё, здавалася б, вельмі проста і разам з тым складана. Так і хочацца сказаць: як у жыцці. Але А. Казлоў не застаецца абыякавым фіксатарам падзей, спрабуе напоўніць твор псіхалагічным аналізам, у ім шмат значыць не толькі тэкст, а і падтэкст, тое, пра што як быццам і не гаворыцца, але да чаго абавязкова прыйдзеш, калі ўважліва прачытаеш аповесць.

Як фантастычныя апавяданні вызначыла жанр сваіх новых твораў, аб'яднаных назвай «Некалькі гісторый з жыцця Руніты Магі», Л. Сом. Пры дэфіцыце гэтага жанру ў нашай літаратуры гэтая спроба маладой аўтаркі выклікае цікавасць, тым больш, што спроба гэтая — зусім не бездапаможная.

Дзённікавыя запісы В. Адамчыка пад назвай «На крыллях смутку і адзіноты», прымеркаваныя да 60-годдзя творцы, нясуць у сабе нямала інфармацыйнага матэрыялу. Прыцягваюць яны ўвагу і тым, што дазваляюць зазірнуць і ў творчую лабараторыю слыннага творцы.

«Маладосць» пачынае друкаваць раздзелы з другой часткі кнігі М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь», гэтым разам звязаныя з віленскім перыядам, і працягвае публікаваць «Гісторыю Беларусі ў ілюстрацыях» М. Чарняўскага. Раю чытачам не прамінуць падарожных запісаў Г. Пашкова «Прыпяцкія вандроўкі» і пазнаёміцца з артыкулам А. Ліса «На вятрах часу», у якім ці не ўпершыню гэтак аб'ёмна пададзены партрэт мастака П. Сергіевіча.

Традыцыйна публіцыстыкай моцны і часопіс «Беларусь». Праўда, у дзесятым нумары я ўсё ж бы вылучыў дакументальную навелу Н. Гілевіча «Юзік» з будучай кнігі пісьменніка «Беларускія былі». Слынны паэт, як вядома, да жанру прозы звяртаецца не ўпершыню. Прынамсі, чытачы знаёмы з яго кнігай «Перажыўшы вайну...» Але ў ёй Н. Гілевіч у асноўным ішоў ад уласна перажытага. У гэтай жа навеле, пры ўсёй відавочнасці дакументальнай асновы, адчуваецца і свабодны палёт аўтарскай думкі. Але цікавасць да твора яшчэ і таму, што ў ім надзіва псіхалагічна выведзены вобраз галоўнага героя, маленькага хлапчука, які ў трохгадовым узросце /падумаць толькі, акурат у дзень свайго нараджэння!/ памёр у гады вайны.

У «Нёмане» — пераўвасобленыя па-руску «Пункціры» А. Разанава, вершы В. Макарэвіча, аповесці І. Шамякіна, В. Гігевіча, апавяданні У. Сцяпана... Акрамя іх, не магу не назваць напісаны з болем і адначасова з удзячнасцю нарыс Н. Цыпіса «Спасающий — спасется» і ўспаміны З. Мелкіх пра І. Замоціна.

**М. АНДРЭЭНКА**

Друк

## «ТЭАТРАЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ», N 6

Апошні ў сёлетнім годзе нумар часопіса адкрываецца п'есай П. Палітыкі «Начны госць, або Двое ў адной лодцы». А. Савіцкая /«У пошуках навагодняга свята»/ дзеліцца думкамі пасля наведвання спектакляў, адрасаваных дзецям.

Змешчаны працяг спецвыпуску /пачатак у папярэднім, пятым нумары/, прысвечанага Беларускаму міжнароднаму фестывалю тэатра лялек, што праходзіў летам /артыкулы Г. Алісейчык, З. Лысенкі, Т. Сабалеўскай, Л. Гаробчанкі/.

Т. Гаробчанка /«Гастролі коласаўцаў»/ разважае пра іх гастрольныя спектаклі. Г. Куляшова /«Гістарычнае мінулае ў сучасным прачытанні»/ аналізуе спектакль «Князь Наваградскі» ў тэатры оперы і балета. Л. Кваткоўская /«Сцэну я любіла заўсёды»/ знаёміць з колішняй актрысай Н. Шкалярэнкай, чалавекам няпростага лёсу. І. Стадольнік /«Сціпласць дружбе не перашкода, але...»/ вяртае да фестывалю «Славянский базар». М. Макарцоў /«Баркалабаўскае Купалле»/ знаёміць са святам, што прайшло ў Быхаўскім раёне.

А. Марціновіч рэцэнзуе кнігу І. Навуменкі «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч». У раздзеле «Пасля спектакля» — гумарыстычныя вершы П. Прыходзькі і М. Алтухова.

## «ТАДЫ ЎСІМ БУДЗЕ ХОРАША...»

Газетна-выдавецкая фірма «Белая Русь» асобным выданнем выпусціла казку Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб». Прыгожая атрымалася кніжачка, з густам аформленая, малюнкі мастака Ю. Рыжыкава дакладна хораша падсвечваюць сэнс таго, што перадаў гэтым сваім творам наш знакаміты пісьменнік. Глыбокі сэнс набываюць сёння хоць бы гэтыя радкі Уладзіміра Сымонавіча: «Ні ў кога нічым не кідай і нікога не дражні. Тады ўсім будзе хораша на гэтай прыгожай Зямлі, што ляжыць крышку бліжэй да Сонца і крышку далей ад Месяца».

## «ПОЛАЦАК»: НОВЫЯ СТАРОНКІ

У чарговым, сёмым нумары часопіса «Полацак» за сёлетні год апублікаваны артыкулы Ю. Штыхава «Аб вонкавай палітыцы Полацкага княства ў X—XIII стст.», Ю. Лабынцава «Бібліятэка Супрасьлеўскага манастыра», В. Герасімава «Бібліятэкі на беларускім шляху Адраджэння», У. Брылеўскага «Гістарычная мінуўшчына Горадні і Горадзеншчыны», працяг артыкула М. Белемука «Тапаграфія знаходак манет і аздобаў».

У сувязі з гадавінай з дня смерці М. Ткачова — згадкі Л. Калядзінскага. «Блакіт Леаніда Шчамялёва» — нарыс С. Белай. Часопіс віншуе з 80-годдзем М. Сяднёва. У прыватнасці, змешчаны развагі юбіляра «Вечная непрымірымасць», артыкул А. Мемуса «Мудрасць таленту», тэкст і ноты песні «Не і так» /словы М. Сяднёва, музыка Г. Смоляк/.

Чытач знойдзе працяг рамана М. Кавыля «З агню ды ў полымя», творы Я. Юхнаўца, С. Явар, В. Супруна, працяг «Успамінаў Яўгена Ціхановіча», іншыя матэрыялы.

Ты ж падыміся.
Князь на зямлю кладзецца толькі мёртвым.

*Князь Вітаўт падымаецца.*

Знядужыўся, няшчасны. Як не брыдка!
Жанаты муж і бацька. Як блазнюк,
Аддаў сябе дзікунскаму абраду!

ВІТАЎТ

Купалу бачыў я...

КЕЙСТУТ

Пакуль ты сніў Купалу,
Твой брат Ягайла, мой пляменнік любы,
Што прысягнуў прад Богам на крыжы
Сядзець спакойна ў Віцебску і з намі
Жыць у любові і ў братэрскай згодзе,
Сабраў сабак тэўтонскіх, неспадзеўкі
Напаў на Вільню.

ВІТАЎТ

Быць таго не можа!

КЕЙСТУТ

Не можа? Ёсць ужо! Вось толькі
Ганец прыбыў з адсечанай рукой!
Яе адсек Ягайла сам, сказаўшы,
Што такое ж з табой і мною будзе,
Калі толькі мячы свае падымем на яго!

ВІТАЎТ

Дык крыжакі ўжо топчуць нашу Вільню?!
Хутчэй у Трокі!

КЕЙСТУТ

Позна! Ён і Трокі
Здабыць паспеў. І гэта сын Альгерда,
З якім мы будавалі родны край,
Які лічыў каштоўнасцю вышэйшай
Спакой, любоў і лад ў Вялікім княстве.
Быў першым сярод роўных. А нашчадак
Стаў братам ворагу і люты вораг брату.
Чаго маўчыш?

ВІТАЎТ

Не ведаю, што й думаць.

КЕЙСТУТ

Дарэмна я цябе паслухаў, даўшы
Пачвары гэтай Віцебскі пасад.
Для злодзея пасад — турма. Карона — краты.
Хто мне крычаў: я веру, веру брату!
Не можа быць братэрства між братамі,
Калі адзін з іх воўк.

ВІТАЎТ

Дазволь мне
На перамовы ў Вільню зараз ехаць.

КЕЙСТУТ

Дазволю войска найхутчэй сабраць
І выгнаць з Вільні выблюдка, што здрадзіў
Зямлі літоўскай, хто братам жадае
Пагібелі. Шчаслівы князь Альгерд!
Ты ў час памёр. Да гэтага дажыўшы,
Ты б дужа шкадаваў, што нарадзіўся.
Збірай дружыны. Руш хутчэй на Трокі.
Я ж да Андрэя ў Полацк. Мы ўсе разам
Хрыбціну зломім рыцарам тэўтонскім,
Змяцем і ваўкалака-сваяка.

ВІТАЎТ

Дык гэта ж кроў.

КЕЙСТУТ

Калі б не выпадковасць,
Твая з маёй сцякла б з мячоў крыжацкіх
Яшчэ ўчора. З імі дамаўляўся
Даўно Ягайла.

ВІТАЎТ

Гэта мне вядома.

КЕЙСТУТ

Якой жа ты спалохаўся крыві?

ВІТАЎТ

Брат супраць брата — страшны грэх прад Богам!

КЕЙСТУТ

Перад якім? Тэўтонскім? Рымскім? Нашым?

ВІТАЎТ

Перад Хрыстом!

КЕЙСТУТ

Ягайле гэта скажаш,
Адбіўшы Трокі з Вільняй у яго
І выгнаўшы з зямлі дзядоў чужынцаў!
Дагэтуль хай Хрыстос глядзіць з нябёсаў
На тое, як ліцьвін грызе ліцьвіна!
Я падстаўляў шчаку пасля удару,
Ён зноў ударыў! Што ж мне падстаўляць?!
Усё! Размову скончым пасля бітвы.
Я ў Полацк. Ты ж з дружынаю — на Трокі!

*Разыходзяцца. З'яўляецца Купала.*

КУПАЛА

З любові гэты створаны Сусвет,
Любові ж творца — будаўнік Сусвету.
Калі нянавісць, ганарлівасць, зло
Не знойдзе месца ў сэрцы чалавека,
Сыйдуцца разам цемра і святло,
Цяпло і холад. Заўтра і учора.
Жыццё і смерць. Пачатак і сканчэнне.

*Купала ўваходзіць у адно з вогнішчаў і згарае.*

Паэзія



Люба ТАРАСЮК

# ВЫЗНАЧЫЦЬ СЭРЦАМ

## ДА ГЕРБА М.

**На пляц дазволенае незалежнасці**
**Ўзыходзіць голас мой паволі.**
**А болей —**
**волі ці падлегласці —**
**У гэтай долі?..**

**Каб жа пачуць магла**
**узрушана**
**Яго і ў самым сэрцы места —**
**На друзе ратушы раструшчанай —**
**Бяздомная Мадонна Менска!**

## АЛЕНА КІШ

**Той рай**
**на дыванах Алены Кіш**
**Не ўсцерагуць і львы жывыя.**
**Той свет халоднай хваляй змые,**
**Як сон, які ў маленстве сніш.**

**Не наталяешся хацець**
**Красы**
**жывой сваёй прыродай.**
**А лёс пазначыцца — наводдаль,**
**Нібы ад поўні — белы цень.**

**І мара здоўжыцца даўжэй,**
**Непадуладная настрою.**
**Табой, асуджанай красою,**
**Трагічны пішацца сюжэт.**

●

**Раўнінная палеская душа**
**Раўніва ловіць небасяжны клёкат.**
**Злятае дзень з разгорнутых аблокаў,**
**Сьвятло спявае ў горле гладыша.**

**І да яе на ясную зару**
**Яшчэ ідуць святыя нашы рэкі,**
**Яшчэ плывуць. І паўтарае рэха**
**У сіняй далечы,**
**якую як завуць.**

**Яна паводкай вольнаю імкне**
**Размыць усе апрыклыя аковы.**
**Але ў пасажным куфры, што з Агова,**
**Ад злыдня скарб вясны сваёй замкне.**

**Яна знарок адкажа неўпапад**
**Ці пазаве да высненых галактык...**
**Яшчэ й таму ніводнае з граматык**
**Непадуладны нашай мовы лад.**

## МАТЫЎ

*Останься пеной, Афродита.*
*О. МАНДЕЛЬШТАМ.*

**Аслепіш хваляю адкрытай.**
**Ды пракляне цябе, аднак:**
**«Застанься пенай, *Афрадыта*», —**
**Табой адрынуты юнак.**

**І быць да берага прыбітай —**
**Такі прысуд і долі знак.**
**«Застанься *пенай*, Афрадыта», —**
**Табой нацешацца усмак.**

**А мора сцішыцца, нібыта**
**Ў прaяве творчасці мастак.**
***Застанься* пенай, Афрадыта.**
**І, можа, выратуйся так.**

## ІНШАСВЕТ НАПАЛЕОНА ОРДЫ

**Там замак быў,**
**а тут — тужыў паэт,**
**І на гравюры гэтай штосьць імгліцца...**
**Мастак малюе свету —**
**іншасвет:**
**Шляхецтва гнёзды, гожыя капліцы.**

**Усё, што сэрцам вызначыць паспеў...**
**Паспеў. Але ж якія орды**
**Прайшлі наскрозь праз памяці пастэль**
**На літаграфіі Напалеона Орды?**

**Яшчэ гучаў расстання паланез —**
**Як лёс выгнанца пры жывой айчыне.**
**І на сядзібе роднай сіні бэз**
**Глядзеў у свет вільготнымі вачыма.**

●

**Усё брыду нязнанаю дарогай.**
**Што гэты сон? адкуль яго павой?..**
**Ты той,**
**Хто мне пасланы быў ад Бога.**
**О, як я размінулася з табой!**

**Праз паўжыцця, праз гэты бег прасторы**
**Вачамі дапытаюся таго,**
**Як твой агонь**
**З маім агнём гаворыць.**
**І плача сіратлівы мой агонь.**

## ЖУРБОТНАСЦЬ

1

**І адракліся белыя снягі**
**Ад гэтае зімы няўлежнай,**
**Ад гэтае зямлі няўцешнай, —**
**І ветразь белых дзён знялі.**

**А ўслед — наўсцяж — маўчаць палі,**
**Дзе голы лёд і шэры камень**
**Прабіў кастлявымі рукамі**
**Сухі чарнобыльскі палын.**

**Застыне ўсіх пачуццяў шлак...**
**Якая ж доля — звышнагрузка —**
**Яшчэ любіць па-беларуску,**
**Яшчэ самой прайсці свой шлях!**

2

**І воблакі найшлі і шчыльна сталі,**
**Ажно глушэе самы зычны гук.**
**Глыток свабоды заміраe каля губ**
**У атачэнні небахмарнай сталі.**

**І доўжыцца адзін цягучы дзень,**
**Яму бязгучныя іграюць трубы.**
**А той, хто так неспадзявана любы,**
**Са мной маўчанку здрадную вядзе.**

**Сышлося ўсё ў адным няскрутным часе,**
**Які са мною толькі і міне.**
**І нехта шэпча страшна да мяне:**
**— Перастуні праз немагчымасць шчасця!**

## РАЗВІТАННЕ З ПЕРАДКАЛЯДНЫМ КРАКАВАМ

**Пыха беднасці і багацтва,**
**о трунак тамтэйшасці!**
**Сэрцу не ўратавацца**
**ад дзіўнай бянтэжнасці.**

**На ялінцы зялёнай —**
**ах, пшэпрашэм, пшэпрашэм —**
**бліcне позірк замглёны**
**ўсхваляванасці нашай.**

**Што яму адзавецца**
**хваляй чыстае Свіцязі?**
**Спіць натхнёнае сэрца**
**свіцязянскага віцязя.**

**У спакоі малення**
**нібы ўсе — каралевічы.**
**Там цвітуць габелены**
**з нашых Карэлічаў.**

**Там на пляцы Касцюшка**
**найпершым жаўнерам**
**прысягаў сваёй мужнасцю**
**пані Польшчы на вернасць.**

**Мы паверым, паверым**
**толькі годнасці нашай.**
**І дадому павернем.**
**Ах, пшэпрашэм, пшэпрашэм!..**

Іван ЧЫГРЫН



●

**Нат абрысаў няма ад нажа!**
**Гэтак нож патачыла іржа.**
**Паспрабуй, дапытайся ў нажа,**
**Колькі ён у зямлі праляжаў?**

**Мой народ з незвычайных народ.**
**Смерці ў рот не глядзіць мой народ.**
**Толькі дзе размясціў яго звод?**
**Прамаўчыць, не адкажа народ.**

**Мо праз сотню гадоў ад ляза**
**Не заўважыць ніхто нават зводу.**
**Не праліецца ніводна сляза**
**Над магілай такога народа.**

●

**Элітарна-мудрая вярхушка**
**Засталася сярод поля з пужкай**
**На распрэжаным з размаху возе.**
**Конь падох нягадана ў дарозе.**

**Ні вады, ні ежы. Дом да-лё-ка...**
**І каб дзе кругом адзін хоць лёкай.**
**Стэп... Якое поле? Нат пустыня.**
**Мо Сахара. У вачах аж сіне.**

**Развучыліся даўно яны хадзіць.**
**То не жыць. Цяпер, вядома, ім не жыць.**
**Гібель!**
**Варання крыклівы лопат.**
**Здохлы конь. Ды іхні немы клопат.**

●

**Збіраем уласныя косці —**
**Чужой, не сваёй маладосці.**
**Ды косці свае. Настолькі свае,**
**Што слёзаў аплакваць іх не стае.**

**Знаходзім ў рыштоках**
**Праз нейкіх пяць крокаў.**
**Бяром ля дарогаў —**
**Іх вельмі там многа.**

**Прывозім з далёкіх краінаў,**
**Збіраем на ўласнай зямлі.**
**Прадзедава? Сынава. Сына!**
**Прабабкі? Нарэшце, знайшлі.**

**Навошта, не скажаш адразу,**
**Але найбарджэй для наказу**
**Самім і такім, як мы самі,**
**Каб меней трусілі касцямі.**

●

**Аддзяляў вас прастор,**
**Даль сібірская, бор,**
**Гнюс, мядзведзі, мароз,**
**Нары голыя, лёс,**
**Дрот калючы ды плот,**
**Вышка ды кулямёт.**

**Нам было не лягчэй.**
**Сухарэбры Кашчэй**
**Жыў на волі. Таму**
**Мы служылі яму.**
**Можна жыць ці не жыць,**
**Але мусіш служыць.**

**Мы кармілі яго,**
**Як не кормяць багоў,**
**Мы паілі яго**
**Сокам сэрца свайго.**
**Праслаўлялі яго**
**Славай без берагоў.**

**Хоць ты круць, хоць ты верць —**
**Не ўратуе і смерць.**
**Смерць прыдушыць хутчэй,**
**Чым вас спусціць з вачэй.**
**Мог ён есці і піць**
**І любіў «набузіць».**

●

**Мат тады павагі варты,**
**Калі гутарка ідзе пра труп,**
**Што ляжыць на лаве сіні**
**І над ім раяцца мухі.**
**У кутку смаркаты хлопчык**
**Чорным кулачком па твары**
**Ціха расцірае слёзы.**
**Трэцца рыжы кот ля ног.**
**На дварэ сто год сцякота,**
**І навокала нікога,**
**Толькі ноч**
**Стаіць на ганку**
**І у хату**
**Насцеж**
**Дзверы.**

Тэлебачанне

***Два допісы — мастацтвазнаўцы, крытыка Н. Агафонавай і глядачкі А. Хоцінай спаткаліся ў пошце аддзела тэатра, кіно і тэлебачання, пазначыўшы сабою два бакі медаля пад назваю «Беларускае тэлебачанне», — два допісы, блізкія адзін да аднаго і меркаваннямі, і высновамі, і нават часам свайго з'яўлення. Своечасовасцю...***

# ЛЕТАРГІЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

Як ні ўглядайся сёння ў беларускі тэлеэкран, цяжка знайсці там прыкметы новага, — часу, эпохі, мастацтва... Хіба толькі... танная пена замежных «мыльных опер». Не, я не адмаўляю гледачу ў праве на тэлесерыялы. Шкада толькі, што яны застаюцца адзінай «прынадай» БТ.

Ні для каго не сакрэт: на Беларусі тэлебачанне пакуль не здолела замацаваць камунікатыўны код для сувязі з уласным гледачом, якога больш вабіць «Астанкіна» ці РТР. БТ так і засталося непаваротлівым, пужлівым і, ўрэшце, — проста сумным. Як і раней тут усё «схоплена» банальнасцю, шэрасцю, якая скасавала жывыя пачуцці і духоўную гармонію, ператварыўшы БТ у... маўзалей! Будынак існуе, тэлебачанне — на рахунку дзяржавы, але разам з тым яго быццам няма. Такая вось атрымліваецца фантасмагорыя: сродак масавай інфармацыі — без інфармацыі. Сродак мастацкай творчасці — без творчасці.

Паспрабуйце, напрыклад, абмежавацца на некалькі дзён навінамі з праграмы «Панарама», і вы рызыкуеце страціць уяўленне аб рэальных падзеях у свеце і ва ўласнай дзяржаве. Бо рэпартажы, якія прапануе БТ, у большасці сваёй прэсныя, недакладныя, а галоўнае — пазачасавыя, неаператыўныя. Іх можна «выдаваць» у эфір сёння ці праз тыдзень. Актуальнасці не дадасца.

Што датычыць мастацкай сферы БТ, то тут я — глядач уважлівы і невыпадковы — маю магчымасць супастаўлення. Сёння наша тэлебачанне робіць стаўку на рэпрадуктыўныя формы: транслюе фільмы, канцэрты, святы, час ад часу — тэатральныя спектаклі. Усё гэта неабходна рабіць. Аднак трэба ўлічваць, што тэлебачанне — не проста універсальны сродак тыражавання разнастайных відовішчаў, але і механізм аховы культуры /агульначалавечай, нацыянальнай і тэлевізійнай таксама/. У гэтым сэнсе рэпрадуктыўны рэпертуар БТ патрабуе сур'ёзнай карэкціроўкі і асобнага аналізу.

А зараз мне б хацелася засяродзіць увагу на тым, што завецца ўласна тэлевізійным мастацтвам. Здольнасць тэлебачання да самастойнай арыгінальнай творчасці праявілася з першых крокаў. Доказ таму — сотні тэлеспектакляў, тэлефільмаў, тэлеперадач. Абшырную картатэку сваіх твораў мае таксама БТ. Толькі яно не ўспрымае ўласныя мастацкія здабыткі як каштоўнасці культуры. І замест таго, каб берагчы, памнажаць скарб, раўнадушна адкідае досвед сваіх пасынкаў-рэжысёраў. Між іншым, на беларускім тэлеэкране былі цікавыя /а часам непаўторныя!/ эстэтычныя адкрыцці: «Крах» В. Карпілава, «Людзі на балоце» А. Гутковіча, «Па шчасце, па сонца» В. Раеўскага, «Ладдзя роспачы» і «Апошняя ноч Алаізы» Л. Тарасавай, «Калі б на тое мая ўлада» У. Бокуна, «Тыдзень капітанаў» В. Мацюшэўскага, «Вячэра» Н. Гаркуновай, «Калі імгненню я скажу...» і «Лісты так доўга ідуць» Н. Арцімовіч, «Музы палацаў і замкаў старадаўніх» Г. Нікалаева... Спыню доўгі пералік менавіта тут, бо, з майго пункту гледжання, апошні твор як найлепш адлюстраваў мастацкія магчымасці тэлебачання наогул і канкрэтныя здольнасці беларускага тэлеэкрана.

Аўтары распавядаюць пра тэатральную культуру Беларусі XVIII ст. Непаўторныя, але разрозненыя «смальты мінулага»: гравюры, архітэктурныя дэталі, фрагменты драматургічных сюжэтаў, музыка Гайдна, Глюка, Бакерыні, Ванжуры — усё гэта далікатна зведзена ў адзіную пластыка-рытмічную кампазіцыю. Аўтар сцэнарыя, навуковец Г. Барышаў выступае ў ролі апавядальніка-экскурсавода, але — не нашага сучасніка, а сучасніка той эпохі, аб якой вядзе гаворку. Такім чынам узнікае зусім новае прасторава-часавае вымярэнне: герой-аўтар у парыку і камзоле XVIII ст. быццам пераходзіць з мінулага ў сучаснасць, каб правесці гледача па знакамітых мясцінах Нясвіжа, Слоніма, Ружанаў і паведаміць аб Музах, якія некалі там панавалі. Збіраючы аскепкі былога, герой-аўтар аднаўляе чароўны тэатральны свет.

Тэатразнаўца Г. Барышаў актыўна рэалізуе камунікатыўныя магчымасці свайго персанажа. Жывыя, імправізацыйныя маналогі, шчырыя звароты да гледача /«Прашу Вас...», «Давайце разам», «А Вы ведаеце?» і інш./ дазваляюць яму лёгка «пераадольваць» Час і Рэальнасць. Такая ўмоўнасць — што вельмі важна — не проста дэкларуецца /як бывае на БТ часцей/, а становіцца эстэтычным грунтам тэлетвора... На маю думку, можна было б стварыць цыкл /серыял/ падобных «мастацтвазнаўчых» спектакляў, аб'яднаных знойдзенай прывабнай формай. Між тым, «Музы палацаў і замкаў старадаўніх» змоўклі, згаслі, зніклі ў службовых лабірынтах БТ.

На жаль, сёння беларускае мастацкае тэлебачанне вымагае настальгічнай танальнасці. Хоць ёсць тут моцныя прафесіяналы, якія валодаюць сакрэтамі тэлевізійнай творчасці. Ды вось апошнім часам яны практычна не здымаюць. Нічога. Адметнага — таксама...

К. Занусі калісьці адзначыў, што тэлебачанне — забава для бедных. Польскі рэжысёр, праўда, меў на ўвазе гледача. У нашым выпадку гэта можна сказаць і пра тых, хто «цешыцца» з другога боку тэлеэкрана. Няма апаратуры, не стае сродкаў і г. д. Але «закадравыя» праблемы дзяржаўнага тэлебачання не вырашыць адной матэрыяльнай дапамогай! Тут неабходны лідэры — адміністратыўныя і творчыя.

А пакуль? Ці ёсць у БТ шанц «пратрымацца»? Магчымы самы просты спосаб — крок сабе насустрач: рэтраспектывы ўласных мастацкіх твораў /тэлеспектакляў, тэлефільмаў/, цыклы тэлепартрэтаў сваіх майстроў /рэжысёраў, аператараў, мастакоў/, — тых, хто працуе, і тых, каго ўжо няма...

Можа, так, нарэшце, БТ пераадолее летаргічнае здранцвенне?..

**Наталля АГАФОНАВА**

# ЛЯ «САЛОДКАГА РУЧАЯ»

Да ліста мяне падштурхнула перадача, прысвечаная памяці Галіны Макаравай. Я належу да таго пакалення, якое магло свядома ўспрымаць Галіну Кліменцеўну хіба што толькі ў «Паўлінцы», «Вечары», «Пара розе», але аб яе ролях-шэдэўрах у спекталях «Лявоніха на арбіце», «У мяцеліцу» і большасці астатніх можа меркаваць толькі зыходзячы з крытычнай літаратуры. Крыўдна, што не змаглі ў поўнай меры атрымаць задавальненне ад таленту такога маштабу! Не пабачылі мы і Б. Платонава, І. Ждановіч, Г. Глебава, В. Пола, Л. Рахленку... На маю думку, у гэтай сітуацыі магло б дапамагчы тэлебачанне, калі толькі «макараўскія» спектаклі не напаткаў той жа лёс, што «Рамэа і Джульету» ў пастаноўцы купалаўцаў. Бо калі ў фільм аб Платонаве хацелі ўставіць урывак з гэтага спектакля, высветлілася, што п'есу так і не знялі на стужку!..

Мяне заўжды здзіўляла стаўленне нашага тэлебачання да тэатра. Што гэта за недарэчная перадача «Аб'ектыў-тэатр» і на каго яна разлічана? Альбо перадача для школьнікаў — «Ці любіце вы тэатр?», пасля якой можна любіць што заўгодна, толькі не тэатр. Незразумела мне было і апошняе «захапленне» тэлебачання паказам спектакляў, якія ішлі год-два таму альбо ідуць і зараз у цэнтральных беларускіх тэатрах і /за рэдкім выключэннем/ з'яўляюцца далёка не лепшымі. Вынік такой практыкі даволі сумны.

Час цяпер цяжкі і мне, аспірантцы, даводзіцца падзарабляць у школе. Дык вось, уявіце сабе сітуацыю. Урок гісторыі ў адзінаццатым класе /з гуманітарным ухілам/ звычайнай мінскай школы, «праходзім» культуру. Прашу: «Пералічыце, каго з дзеячаў беларускага тэатра вы ведаеце?» У адказ — цішыня. Не губляючы апошняй надзеі, задаю менш «складанае» пытанне: «Ну хоць Станюту, Макараву ведаеце?» Амаль ужо дарослыя людзі разгублена паціскаць плячыма і робяць «круглыя» вочы. Эксперымент я працягвала яшчэ ў трох класах. Вынік сумны. Дык аб якім жа нацыянальна-культурным адраджэнні можа ісці размова?

Мне дакладна вядома, што існуюць не толькі шматлікія запісы старых спектакляў, але і спецыяльныя тэлеспектаклі, накшталт «Брамы неўміручасці», «Хто смяецца апошнім». А колькі гадоў там іх паказвалі? Можаце запярэчыць: маўляў, яны састарэлі, шмат у чым сталі наіўнымі. Так, адбылася змена акцэнтаў. Напрыклад, у той жа «Лявоніхе на арбіце» былы адмоўны персанаж аднаасобнік Лявон будзе цяпер успрымацца ледзь як не эталон сапраўднага гаспадара. Але ці гэта галоўнае? Нас цікавіць перадусім мастацкі бок! Ёсць жа на БТ рубрыка «Кінанастальгія», дзе паказваюць старыя і задужа наіўныя фільмы, якія і без таго часта падае ЦТ. Чаму б тады не зрабіць нешта накшталт «Тэатранастальгіі», бо ж нават сьбачыя фанаты маюць тэлеклуб «Гаўгаў»! Калі на тое пайшло, то было б больш карысці, калі б на тэлезанятках для школьнікаў па беларускай літаратуры **паказалі** «Трыбунал», напрыклад, а не развагі якога-небудзь літаратуразнаўцы, які са сваім светаўспрыманнем ды густам намагаецца раскласці твор «па паліцах». Навошта? Вучні павінны разважаць самі, — і менавіта прагляд дапамог бы гэта зрабіць. А для астатняга ёсць даволі неблагі падручнік і тлумачэнні настаўніка.

Увогуле наш беларускі тэлеканал забруджаны розным, прабачце, глупствам і смеццем. Ці трэба столькі часу аддаваць штодня нецікавым абласным навінам? Для гэтага, бадай, ёсць газеты. Навошта шматлікія тэлесерыялы без пачатку і канца? Іх хапае на ЦТ, а яго трансляцыі на Беларусь пакуль што, дзякуй Богу, не спынены. А шматлікія фільмы-канцэрты штодня штурхаюць мяне да думкі, што няма чым запоўніць эфірны час...

Чаму ж хоць зрэдку не паказваць фільмы кшталту «Развітання» са Стэфаніяй Станютай, «Удоў», «Адналюбаў» з Галінай Макаравай — фільмы такога маштабу, дзе бачны «буйны план» таленту актрыс. Не памылюся, калі скажу, што многія паглядзелі б іх з большым захапленнем, чымсьці «кінашэдэўр» «Салодкі ручай»...

Прабачце за рэзкасць, але чаго яшчэ можа вымагаць абыякавае стаўленне да таго, што маем, чым багатыя? Ды і патрабую я не чагосьці звыш магчымага, а ўсяго толькі магчымасці зрэдку атрымліваць асалоду ад сапраўднага сцэнічнага мастацтва. Думаю, што многія былі б са мной згодны. Ва ўсім свеце тэатралы могуць набыць відэакасету з запісам патрэбнага спектакля. А што застаецца рабіць нам?

**А. ХОЦІНА**

Мастак

# ДАРОГА ДЗЯЦІНСТВА



У рэдакцыі часопіса «Мастацтва» група мастацтвазнаўцаў прымала... варажскага госця. Толькі знаёмства выйшла вельмі неафіцыйнае, сагрэтае шчырасцю пачуццяў і радасцю сустрэчы. Ды й ці назавеш госцем чалавека, які праз дзесяцігоддзі прыехаў на Радзіму?

Ян Кузьміцкі ўжо 21 год жыве ў Швецыі, у вядомым універсітэцкім горадзе Упсале. А нарадзіўся ў 1934 г. у сялянскай каталіцкай сям'і ў вёсцы Багданаўцы Жалудоцкага раёна Гродзенскай вобласці. Хаця прафесійнай адукацыі ён не атрымаў, але творы мастака вельмі папулярныя ў скандынаўскіх краінах, дзе яны знаходзяць і прыхільнікаў, і пакупнікоў.

Мастак распавёў пра сваё жыццё, незвычайнае і драматычнае. Рана згубіўшы бацькоў, хлопчык у пасляваенныя гады аказаўся сам-насам з жорсткай рэчаіснасцю. У вёсцы, каб выжыць, даводзілася рабіць самую цяжкую і няўдзячную работу, бадзяжнічаць, зведаць пабоі і здзекі. На жаль, надта мала добрых людзей сустрэў ён тады. І цяпер, немалады ўжо чалавек, госць не можа стрымаць слёз, успамінаючы дзяцінства. Беспрытульных дзяцей у той час накіроўвалі ў ПТВ. Ян Кузьміцкі трапіў у Калінінградскую вучэльню. І тут зноў — варожыя адносіны, крымінальныя парадкі хворага савецкага соцыуму. «Білі толькі за тое, што размаўляю па-беларуску. Трэба было пераву чвацца думаць і гаварыць». У выніку няшчаснага выпадку падлетак згубіў нагу.

«Але Бог кіраваў маім жыццём, ратаваў мяне...» У час хрушчоўскай адлігі Ян Кузьміцкі здолеў эміграваць у Польшчу, жыў у Ізраілі, потым — у Даніі, іншых краінах. Цяпер — у Швецыі, дзе расце двое ягоных дзяцей. Прыкладна палову года ён праводзіць у сваёй майстэрні ў Фінляндыі.

На Беларусь яго прывяла не толькі настальгія, але й канкрэтная гуманітарная справа: жаданне ўдзельнічаць у кастрычніцкіх мерапрыемствах, прысвечаных творчасці інвалідаў, іх рэабілітацыі.

Творы мастака заўважыў і набыў Мастацкі музей Беларусі, на 17 лютага наступнага года прызначана і адкрыццё яго персанальнай выставы. А зараз творы Яна Кузьміцкага экспануюцца на радзіме — у Лідзе і Жалудку, мяркуецца выстава у Гародні.

Драўляныя скульптуры Яна Кузьміцкага сваёй стылістыкай нагадваюць дахрысціянскую пластычную традыцыю славян. Істоты-знакі маюць нейкую містычную сілу, стрыманую экспрэсію. Толькі жывы колер дрэва надае ім чалавечае дыханне. Жывапіс гучны і адназначны па колеравай гаме, выразна халоднай, або гарачай. Мастак верны ў іх жывапіснай ментальнасці прымітывізму.

На наша пытанне аб уражаннях на радзіме спадар Ян прызнаўся: «Усё жыццё я насіў у душы крыўду за нядолю і чалавечае зло. А прыехаў, убачыў сваю вёску, зямлю, людзей і — палягчэла, выбачыў усё і ўсім. І пазнаю і не пазнаю былога. Вось наш вясковы гасцінец здаваўся ў дзяцінстве такім шырокім, вёў у далёкі свет. А зірнуў цяпер — гэта ж вузенькая прасёлачная дарога...»

**Валеры БУЙВАЛ**



*Развага*



*Мысліцель*

# ВЯЛІКІ БАЛЕТНЫ СХОД

На базе Дзяржаўнага харэаграфічнага вучылішча Беларусі прайшла сустрэча вядучых балетных крытыкаў краін СНД. Удзельнічалі таксама крытык з ЗША Э. Кендал ды швейцарскі харэограф А. Бернар. Мінск невыпадкова стаўся месцам гэтага трохдзённага збору. 20 гадоў тут, на сцэне Акадэмічнага тэатра оперы і балета, творча працуе адзін з выбітных балетмайстраў сучаснасці В.Елізар'еў. Дарэчы, у адзін з дзён сустрэчы адбылася навукова-практычная канферэнцыя «Беларускі балет і В.М.Елізар'еў», бо з ім звязана трэцяя частка гісторыі нашага дзяржаўнага балета. Гераіняй сустрэчы была народная артыстка СССР Г.Комлева, якая правяла на вялікай сцэне вучылішча майстар-клас з навучэнкамі старэйшых класаў. Былі таксама адкрытыя ўрокі, даклады па праблемах сучаснай харэаграфіі, класічнага танца і інш. Удзельнікі сустрэчы выказалі ўдзячнасць адміністрацыі вучылішча за гасцінны прыём і добрую арганізацыю гэтага вельмі карыснага мерапрыемства, якое завяршылася вялікім канцэртам навучэнцаў Беларускага харэаграфічнага.

**Э. ЭЛЬКСІН**

Музыка

***Кампазітар Аляксандр ЛІТВІНОЎСКІ — сярод лідэраў маладзейшага пакалення беларускіх творцаў. Улетку мы паведамлялі пра ягоны ўдзел у Міжнародным фестывалі кампазітараў у Кіеве. А сёння А. Літвіноўскі дзеліцца ўражаннямі пра адметную музычную падзею, удзельнікам якой яму не так даўно пашчасціла быць.***

# «КАЛІ ЁСЦЬ ШТО СКАЗАЦЬ...»

Існуе думка, яе выказаў французскі рэжысёр Жан Рэнуар, што чалавецтва, магчыма, падзяляецца зусім не паводле нацыянальных, узроставых, рэлігійных альбо іншых прыкметах, а паводле прафесійных заняткаў. Гэтая думка мае слушнасць. Дзе б вы ні былі, з кім бы ні сустракаліся, калі гэта — людзі адной з вамі прафесіі, вам заўсёды знойдзецца што сказаць адно аднаму. Лёс даў мне магчымасць яшчэ раз упэўніцца ў гэтым, калі я наведаўся ў Польшчу, каб сустрэцца з падобнымі да сябе — тымі, хто займаецца стварэннем музыкі: мяне запрасілі ўдзельнічаць у міжнародных курсах для маладых кампазітараў у Казімежы Дольным.

Казімеж — невялікі гарадок эпохі Рэнесанса, размешчаны ў пойме Віслы недалёка ад Варшавы. Калі выходзіш на цэнтральную плошчу, быццам трапляеш у нейкія тэатральныя дэкарацыі. Добра захаваная аўтэнтычная архітэктура, брукаваныя вуліцы, гатычныя касцёлы, вежы старадаўняга замка, — усё гэта робіць уражанне чагосьці нерэальнага. Але толькі на першы погляд. Праз нейкі час пачынаеш разумець, што Казімеж — не музей, а жывы арганізм са сваім характарам, абліччам, пульсам. Што ў ім жывуць сімпатычныя і добразычлівыя людзі. Што гэта не правінцыя, а своеасаблівы культурны цэнтр, куды адзін раз на год, у верасні, з'язджаюцца музыканты з усёй Еўропы, і нават не толькі з яе.

Сёлета былі кампазітары з Польшчы, Нарвегіі, Францыі, Германіі, Галандыі, Англіі, з Парагвая і Бразіліі. Прадстаўляць Беларусь пашчасціла мне.

Казімежскія курсы існуюць з 1980 г. Сярод майстроў, якія на іх выкладалі, — такія славутасці, як Ксенакіс, Пусэр, Нона, Лютаслаўскі, Хубэр, Калытман, Мэнінг і шмат іншых. Асноўнай тэмай сёлетніх курсаў была кіна- і відэамузыка. Праграма — вельмі насычаная, літаральна распісаная па хвілінах: сустрэчы з майстрамі, прэзентацыі кожнага ўдзельніка, семінары і прагляды кінастужак. Нейкі марафон уражанняў і інфармацыі! Увесь час працавала электронна-камп'ютэрная студыя «мідзі», дзе жадаючыя маглі паспрабаваць свае сілы ў стварэнні музыкі да кіно. Для мяне гэта быў першы вопыт, і трэба сказаць, неблагі. На фінальным праглядзе фільм, прапанаваны персанальна мне для музычнага агучвання Акадэміяй кінематаграфіі ў Лодзі, быў высока адзначаны. Адзін з важных момантаў у жыцці кожнага кампазітара — непасрэдная эмацыянальная рэакцыя аўдыторыі на ягоны твор: асабліва прыемна, калі спачатку — цішыня, а потым чуецца «брава».

Добрае ўражанне выклікала музыка польскай моладзі, якая не мае аніякіх комплексаў і поўная здаровых амбіцый. Шмат з нашых праблем для іх не існуе. Напрыклад, праца ў камп'ютэрнай студыі, валоданне рознымі электроннымі праграмамі. Гэта для іх — традыцыйна. Іх гэтаму вучаць. І калі сутыкаешся з такімі супермашынамі і разумееш, наколькі яны могуць зрабіць працу кампазітара больш лёгкай, засмучаешся ад таго, што, на жаль, у нас гэта толькі пачынаецца. Дый ці пачынаецца?

У большай колькасці п'ес, якія я чуў, выкарыстоўвалася электроннае гучанне, асабліва ў спалучэнні з натуральнымі тэмбрамі. Здаецца, гэта — ужо нейкі стандарт сучаснасці, пра які трэба ведаць і нам. Яшчэ я быў здзіўлены высокай тэхнічнай якасцю фанаграм маіх маладых калег з замежжа, якая, безумоўна, залежыць ад класа апаратуры для запісу. Калі касеты, дык пераважна лічбавыя /найвышэйшай якасці/ і, канешне, кампакт-дыскі. Калі Фрэдырык, кампазітар з Парыжа, запытаўся, ці можна дзе набыць кампакт-дыскі з маімі творамі, я не ведаў, што і адказаць і як яму нашу сітуацыю растлумачыць. Усё роўна, не зразумеў бы.

Як заведзена, у праграме курсаў удзельнічалі майстры найвышэйшага ўзроўню.

Кшыштаф Пендэрэцкі... Цэлая эпоха ў мастацтве XX стагоддзя! Вялікі наватар, сёння ўжо класік. Здаецца, у сучаснасці няма іншага кампазітара, у чыёй творчасці так наяўна ўвасобіліся амаль што несумяшчальныя супрацьлегласці: прарыў да нязведанага, жаданне выказацца па-новаму і ўнутранае адчуванне арганічнай сувязі з традыцыяй, заглыбленай у пласты стагоддзяў.

Гэтыя якасці ягонага таленту мне асабліва блізкія, бо таксама імкнуся пераасэнсоўваць глыбокую традыцыю, карыстаючыся сродкамі выразнасці сённяшняга дня. Палову свайго жыцця я слухаю музыку Кшыштафа Пендэрэцкага, ведаю яе, захапляюся ёю. Яна зрабіла на мяне магутны ўплыў. Некаторыя асаблівасці і аспекты ягонага творчага метаду я, здаецца, ужо магу асмеліцца лічыць маімі таксама.

Ягоная асоба, якую я ўжо даўно кананізаваў, для мяне існавала ў іншым вымярэнні, у алімпійскім царстве багоў. І калі ўласнымі вачамі бачыш гэтага вялікага майстра, разумееш, што ён — жывы чалавек, са сваімі зямнымі праблемамі. Вельмі далікатны, высакародны. З мудрым і добрым паглядам вачэй казачнага чараўніка. Ён рэканструяваў свой маёнтак XIX ст., захаваўшы яго старадаўні дух і вытанчаную прыгажосць. Ён — гаспадар у сваім «англійскім» парку, дзе ўласнымі рукамі пасадзіў мудрагелістыя лабірынты раслін і цяпер будуе маленькую капліцу.

У адзін з вечароў у казімежскай старадаўняй сінагозе, якую цяпер выкарыстоўваюць як канцэртную залу, адбыўся канцэрт Шлёнскага квартэта, аднаго з лепшых у Еўропе. У праграме быў Пендэрэцкі. Мне пашанцавала сядзець літаральна ў метры ад інструменталістаў. Я апынуўся ў эпіцэнтры выканання, быццам сам у ім браў удзел. Гэта дзівосныя імгненні, калі, здаецца, адчуваеш і разумееш кожны жэст, кожны штрых, кожны нюанс! Стравінскі зусім слушна сказаў, што музыку трэба не толькі слухаць, але трэба і бачыць, як яна нараджаецца. Асабліва гэта важна, калі твор авангардны, драматургія якога складаецца з камбінавання нетрадыцыйных гучнасцяў і санорных эфектаў. Дзе так цікава сачыць за падзеямі ў гэтым «інструментальным тэатры», прадстаўленым выдатнымі «акцёрамі».

Пану Кшыштафу было прыемна пачуць, што ягоную музыку ведаюць і любяць на Беларусі. Дарэчы, некалькі гадоў назад Іван Манігеці, які выконваў віяланчэльны канцэрт Пендэрэцкага ў Мінску, расказваў мне пра іх сумесную працу над сольнай партыяй, наогул, пра тое, як жыве кампазітар, пра ягоны характар. Мне цікава было ведаць усё. І вось я сам у гасцях у Майстра... Пан Кшыштаф запрасіў яшчэ і на свой канцэрт у фестывалі «Варшаўская восень», дзе гучала віяланчэльная версія альтовага канцэрта, а дырыжыраваць меўся ён сам. Але, на вялікі жаль, абставіны не дазволілі мне застацца ў Варшаве яшчэ на некалькі дзён. А пра сустрэчу з Маэстра нагадвае цяпер гэты фотаздымак — на жаль, не лепшай, «аматарскай» якасці. Хачу спадзявацца, што гэты здымак — не апошні...

«Кампазітар мусіць пісаць музыку, патрэбную людзям, знайсці кампраміс паміж складаным і простым. Не замыкацца ў асабістых пошуках, разлічаных на некалькіх аматараў, як Штакхаўзен. Але ж і не скатвацца да элементарнасці Уэбэра». Гэтыя словы належаць галандскаму майстру Льюісу Андрысену. Кампазітар, якога шмат выконваюць у Еўропе. Чалавек надзвычайнай шчырасці і адкрытасці, якія захаваліся ў ім яшчэ з часоў дэмакратычных рухаў і студэнцкіх бунтаў 60-х. Яго музычныя ідэалы звязаныя з джазам, але не ў сэнсе «джаз-камфорт», а джаз як «арт»-мастацтва, джаз-авангард. Ён мадэлюе кампазіцыі, поўныя дынамізму і энергіі, якія чымсьці нагадваюць амерыканскія опусы Стравінскага, асабліва з удзелам духавых інструментаў. Пра Стравінскага ён жа і напісаў кнігу.

Яшчэ Андрысен займаецца кіна- і відэамузыкай. Асабліва цікавае ягонае супрацоўніцтва з апалагетам англійскага постмадэрнізму Пітэрам Грынуэем. Я бачыў іх фільм «Чалавек для Моцарта». Нават не фільм, а паўгадзінны кліп са спевамі, пластыкай і пантамімай. Фантастычны ўзровень спалучэння відэа- і музычнага шэрагу! Нейкі новы жанр сінтэтычнага мастацтва. Зараз яны пачынаюць рэалізацыю новага праекта — сапраўднай оперы.

Таксама Андрысен — прафесар Каралеўскай кансерваторыі ў Гаазе, таму мне было цікава пачуць яго «настаўніцкі» каментарый. Калі маэстра пазнаёміўся з партытурай маёй містэрыі «Францыск», то зрабіў на ёй надпіс: «Дзякуй за тваю музыку!» Гэты аўтограф я захаваю на ўсё жыццё...

Падобна Андрысену, англічанін Майкл Найман імкнецца разбурыць бар'ер паміж культурай папулярнай і акадэмічнай. З першых нотных тактаў стыль Наймана — простыя мелодыі і прагрэсіі акордаў, настойлівы рытм, паўтарэнне нот і гучная дынаміка — адсылае слухача да поп-музыкі. Але Найман многім абавязаны і іншым кампазітарам, у прыватнасці Кей-джу і Уайту, якія дазваляюць трактаваць музыку мінулага як... сыравіну, якую апрацоўваюць даволі адвольна. Напрыклад, магчыма ўкладаць адну музычную фразу «пад мікраскоп» і павялічваць да памераў кампазіцыі.

Нам паказвалі фільм хвілін на 20, відэашэраг якога складаецца з розных планаў футбольнага матча і суправаджаецца скерцознай і легкадумнай музыкай Наймана — толькі ў адной танальнасці, у выкананні саксафона і струннага квартэта. Наўмыснае абмежаванне сродкаў, але як вытанчана! Ён першы ўжыў слова «мінімалізм», якое ў выніку стала азначаць цэлы напрамак у мастацтве. Найман — музычны сааўтар практычна ўсіх фільмаў Грынуэя, ад самых ранейшых — да «Кніг Праспэра». Добры прыклад арганічнага творчага тандэма, дзе буйная фантазія аднаго адценьваецца прастатой і лёгкасцю другога.

У прыватных размовах ён цікавіўся музычным жыццём на Беларусі, становішчам беларускіх кампазітараў, асабліва ў эканамічным сэнсе. Расказваў, што ў Англіі прафесійнаму кампазітару жывецца не так проста. Шмат праблем, усё тых жа, матэрыяльных. Яму было цікава даведацца, што на Беларусі таксама было «барока». Ён улюбёны ў гэты стыль...

Франсуа Бернар Маш — парыжскі мэтр, рацыяналіст аскетычнага выгляду, сапраўдны нашчадак эпохі Асветніцтва. Пасля некалькіх дзён знаёмства — вельмі далікатны і сціплы. Ягоныя творы — рэалізацыя ўласных навуковых канцэпцый. Напрыклад, ператварэнне лінгвістычных мадэляў у музычныя. Ён захоплены семіётыкай, знакавымі сістэмамі. Я прапанаваў увазе масье Маша сваю п'есу «Збег», структура якой складаецца з паслядоўнасцей розных лічбаў і літар алфавіта. Аказалася, яму гэта блізка.

Яшчэ Маш цікавіцца міфалогіяй. Займаецца ўзнаўленнем старадаўніх мёртвых культур. Як сапраўдны этнограф ён шукае вытокі некаторых сваіх твораў у глыбокім і маляведомым мінулым. Калі мы размаўлялі пра французскую музыку, праблемы выхавання кампазітара, ён назваў толькі адно імя: Аліўе Месіян. Ягоны настаўнік...

Вельмі цёплыя адносіны склаліся ў мяне з цудоўным і непаўторным Яўгеніюшам Руднякам. Ягоны лёс — гэта лёс электроннага авангарда ў Еўропе. З 50-х гадоў ён працуе ў эксперыментальнай студыі польскага радыё, таксама рэалізоўваў праекты са Штакхаузенам, Цымерманам і Катоньскім у Кёльне. З Пендэрэцкім яго звязвае ўвасабленне «Экіхерыі» ў Мюнхене. Кожная з ягоных кампазіцый — падзея ў галіне электроннага авангарда. Ён прызнаны чалавекам дваццацігоддзя на «конкурсе конкурсаў» у Буржэ. У яго афарыстычных думках, здаецца, заўсёды прысутнічаюць парадокс ды іронія. «Мае творы — гэта сума вопытаў, прыхільнасцяў, абсцэцый і маньерызму, а народнае ганчарства — маё «альтэр эго», — кажа Яўгеніуш Рудняк.

Кампазітар для яго — зусім не музыкант, які мае справу з музычнымі гукамі, з тэорыямі, што дапамагаюць прывесці гэтыя гукі ў рацыянальную сістэму. Кампазітар для яго — гэта майстар па вырабе гучанняў, якім кіруе прыродная інтуіцыя, а кампазіцыя — акустычныя стасункі з усім светам. «Мастацтву навучыць немагчыма», — гаворыць ён.

Адзін з першых электроншчыкаў Еўропы, Рудняк лічыць, што сінтэзатары забілі самую ідэю электроннай музыкі. Таму ён імкнецца выкарыстоўваць пераважна канкрэтныя гукі навакольнай рэчаіснасці. Апрацоўваць іх, спалучаць з голасам, музычнымі і электроннымі элементамі, ствараючы фантастычныя калажы. Спектр ягонай фантазіі сапраўды невычарпальны і неаглядны...

Безумоўна, было яшчэ мноства сустрэч, знаёмстваў з іншымі цікавымі асобамі, што таксама спрыяла цёплай атмасферы, якая панавала на курсах. Але ж галоўнае — гэта разуменне прыналежнасці да агульнай унікальнай справы, пацвярджэнне асабістай запатрабаванасці, адчуванне ўласнай творчасці ў кантэксце еўрапейскай культуры. І — магчымасць упэўніцца ў гэтым не пры дапамозе кніг альбо іншых інфармацыйных каналаў, а пры непасрэдных кантактах з жывымі людзьмі. Можна знаходзіцца ў ізаляцыі і ствараць «шэдэўры», але мне больш даспадобы рэнуараўскі варыянт: «Калі сустракаюцца людзі адной прафесіі, ім заўсёды ёсць што сказаць адно аднаму!»

З удзячнасцю зазначу, што казімежскія курсы наладзіла польская секцыя «Інтэрнацыянальнага таварыства сучаснай музыкі» на чале з Зігмунтам Краузе пры дапамозе розных міжнародных фундацый. А непасрэдна ў Казімежы Дольным усёй працай кіравала чароўная Гражына Дзюра, дзякуючы якой на працягу ўсёй імпрэзы не было ніводнага збою ці недарэчнасці. Насычаная праграма была пунктуальна і дасканала выканана, што заўсёды прыемна і што сведчыць пра высокі арганізацыйны ўзровень. Застаецца толькі марыць пра тое, што калі-небудзь і на Беларусі будзе імпрэза кшталту казімежскай. Мы жывём так блізка, ёсць у каго пераймаць вопыт...

**Аляксандр ЛІТВІНОЎСКІ**



*А. Літвіноўскі ў гасцях у маэстра К.Пендэрэцкага.*

Віншуем!

# Казіміру КАМЕЙШУ — 50

***4 снежня лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Казімір Камейша сустракае свой поўдзень веку. Паэт прыйшоў да яго з важкімі творчымі набыткамі, сярод якіх кнігі паэзіі «Восеньскія позвы», «Мембрана», «Нектар», «Кубак блакіту» і іншыя, а таксама зборнікі для дзяцей. Плённа працуе ён і ў галіне перакладу, часта выступае з нарысамі, рэцэнзіямі, літаратурна-крытычнымі і краязнаўчымі артыкуламі.***

***Віншуем Казіміра Вікенцьевіча, аднаго са сталых лімаўскіх аўтараў, з юбілеем, зычым яму і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!***

# ВЕРАСОВАЯ КНІГА

**...птушкі былі галодныя —**
**Нават зоркі ў небе дзяўблі.**

Гэта ўспамінае аднагодак вайны, паэт, які нарадзіўся на пачатку снежня 1943 года. Гэта пра блакаду ў Налібоцкім краі. Недзе каля возера Кромань, што надта ўжо да Свіцязі падобнае, як ад бацькі аднаго. Сказам з апокрыфа гучаць радкі паэзіі. Ці не тады «шаравая маланка слова заляцела... ў душу» Казіміру Камейшу. Пакаленне беларускае паэзіі, ахрышчанае філалагічным, амаль да нашых дзён усё яшчэ жыве ў вайне, у адгалосках ейных, прынамсі. І таму асабліва ўсцешна чуць у вершах і паэмах аднагодка вайны радасць жыцця, у меру ацененую сумам.

Уважліва перачытаў я ўсе дзесяць кніжак свайго маладзейшага ледзь не на дзесяць гадоў сябра, з кім некалі надта ж добра было ўзяць поўную чарку, паехаць суправаджаць украінскіх гасцей /я — паэтку, а Казімір — аж трох сясцёр спявачак/, наведацца ў Наднямонне.

Ужо ў сваёй першае кніжцы «Восеньскія позвы» пытаўся малады Казімір, сын Вінцука, «у дзеда з Налібоччыны, ці прывёз Налібоцкага ветру ў бочцы». Заўважце, як прыродны пушчанец, нібы тую бочку купец, слова на гук правярае. Крутабока перагукваюцца Налібоччына з бочкаю. І пазней, у кнізе «Сябрына» паэт падкрэсліць сваю сувязь, сваю повязь з лесам:

**Я таксама — лесавічанін,**
**І лясное мне ўсё баліць.**

І штогод баліць балючэй і шчымлівей. Бо ад Налібоцкае пушчы бадай што толькі назва адна засталася. Адно па традыцыі высечаныя, вытралеваныя, перадыбленыя як пасля атамнага выбуху прагаліны, танцпляцоўкі для скокаў д'ябла, выстраляны, выбіты свет звяроў і птушак хоча называцца пушчай. Тое, што не дасеклі палякі, давяршылі саветы. Бо, пачынаючы з 1946 года, пілуюць, сякуць, крадуць. І калі на пачатку паэтычнае дарогі верны сын пушчы даваў вясёлы, кірмашовы загаловак вершу «Едзе пушча на базар», бачыў толькі, як «у кашоў разыходзяцца рэбры — цяжка дыхаюць баравікі», дык па часе сумна зазначае:

**Лес гэты сячэш ты сягоння,**
**А трэскі ў заўтра ляцяць.**

Не даюць спакою, поўняцца адчаем «лесасекі памяці», бо «голас ракі перасох», «звер падабрэў, пазласнеў чалавек». І сумна гучыць усмешка, калі дзеткі за бацькоўскія кажухі вядуць «вялікую аўчынную вайну». Яны з гэтае лесасекі, цені, якія паўсюль бачацца паэту. А, калі ўдумацца, дык усе мы — толькі цені на снежыне, на мураве вечнасці. І людства ўсё — пушча, ад якой скон дазваляе на момант затрымацца хіба ценем. Самое прозвішча Камейша гучыць лясіста, пушчаніста. Тут і камель, і мох, і шаты, і межы, і як сувязь з небам і з лёсам — камета. Цені ў Камейшы з лесу, з пушчы. Калі ласка:

**Спіленай елкі ценем**
**З коміна цягнецца дым...**

**Арэлямі закалыханы,**
**Заснуў халодны цень сасны...**

Вока пушчанца пазнала ў сталіцы зямлячку /дарэчы, гэта факт — ліпы ў Менску ў асноўным былі пасаджаны па вайне з Налібоцкае пушчы/:

**Службу ценю ёй даверыў горад,**
**А яна ўцякае да святла.**

І на Апшэроне каля храма вогнепаклоннікаў паэт падкрэслівае, што ён — лясны вогнепаклоннік. Толькі лясны вогнепаклоннік мог заўважыць: «Згарыць прамень — пакіне цень».

Ды няхай не складзецца ўражанне, што Казімір Камейша жыве толькі ценямі, бачыць толькі цені. Аднагодак вайны пратэстуе супроць вайны, смуткуе па ахвярах своеасабліва, па чалавечай сутнасці адзіна слушна — любіць жыццё ва ўсіх праявах, ва ўсіх abліччах, ва ўсіх формах. Быў малы, пасвіў статак, бачыў «лася лясны пагляд», выглядзеў, як спяць птушкі «у вянок склаўшы мокрае крылле», як «пчала чытае кнігу верасовую». Адрастаў разам з пушчай, зяб разам з пушчай, таму й чуў, як «косці маразоў трашчаць», чуў «снегу рып сарочы». І ўжо ў сталіцы станістым і прыгажавітым дзецюком, пра якіх кажуць, што такія могуць пароду паляпшаць, пасвіў прыгажунь — вынікова! Хоць і канстатаваў маркотна, што «ёсць красуні ў сталіцы, ды няма чараўніц», памятаў: «маладому пеўню сорам спаць». Таму, відаць, спыняла ўвагу пушчанца «наіўная спаднічка», не палохаў «на гузікі ўсе... зашпілены страх» і нават медсястра гучала як мёд-сястра. Не спыняла й згодлівая ўпірлівасць маладзічкі з асцючынкай, з гуллівінкай:

**Скрыпучы якісьці зусім кавалер.**
**Баюся, ты мне надакучыш.**
**І боты са скрыпам**
**і нават намер,**
**І ложак таксама скрыпучы.**

У пушчы да скрыпаў прывык. А пільнае вока заляцанца заўважыць «...чужых акуркаў паўстога ў папяльнічцы». Хоць:

**Цёмна было,**
**не заўважыў, калі**
**Рукі твае ў мае заплылі.**

Наглядзеўшыся ў пушчы на маланкі, потым пушчанскі кавалер як бы згадае:

**Мы з табой, як дзве зямных маланкі,**
**У адзін зніваемся клубок.**

З гадамі прыйдзе выснова, што «не кожнаму мулкі чужы пухавік». І яўна не да чужога пухавіка адрасавана назіранне: «Верабей пагрэецца ў следзе цёплага чужога капыта», асабліва калі ёсць ласкавы прымус:

**Аржаное моцы кварту**
**Агародам закусі!**

Яна з асалавелага застолля, з расчулення прыйдзе «чарачка з вясёлаю смугой», з паўднёваўзбярэжжаў ускалыхнецца марская хваля «гранёным глытком залатога віна». І зразумела толькі жыццялюб можа ведаць, што

**Гэтак лёгка цурчыць,**
**Гэтак весела п'ецца.**

Той, хто піў гора нагбом і каўшом, нагбом п'е радасць, стараецца піць. Казімір Камейша п'е «Кубак блакіту» /гэтак ахрысціў сваю нядаўнюю кнігу паэзіі/, а на дне бачыць водцень хмурынкі смутку й тугі. Без чаго не можа быць жыцця. Ён ведае:

**Як ні станавіся, чалавеча,**
**Да кагосьці будзеш ты спіной.**

І спіной становіцца паэт да гора, да адчаю. Але цень заўсёды з ім.

І колькі спакусаў ні было, колькі варункаў ні рознаабліччылася, паэт Казімір Камейша застаўся верны сваёй пушчы, шум якое пранёс з сабою паўсюль; сваім бацькам, чые вобразы адухавіў словам; беларускай мове, якую збярог і пасынняму бароніць. Гэта хутчэй за ўсё пра сябе пісаў зоркі й чуткі пушчанец:

**Ставілі прынаду з канюшыны,**
**Ставілі прынаду з барышоў.**
**Зайча мой,**
**А ўсё ж ты малайчына,—**
**Ты на іх прынаду не прыйшоў.**

Паэт убачыў, як пчала чытае верасовую кнігу. А мне здаецца, што ўсе вершы й паэмы Казіміра Камейшы якраз і ёсць тая верасовая кніга, якую нашаптала, нагаманіла, наскрыпела, настагнала, нагула Налібоцкая пушча.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

# НАПЯРЭЙМЫ І ДНЯМ, І ГАДАМ

*Казіміру КАМЕЙШУ*

**З наднёманскай ты парадnёны зямлёй,**
**Стаўбцоўскай, такой знакамітай!**
**Ты з Кроманя-возера лепшай парой**
**Душою зачэрпнуў блакіту.**

**Не мог ты пабачыць пушчанскую рацъ.**
**І час адышоў той далёка.**
**Ды чую, народнаю думай шумяць**
**У вершах тваіх Налібокі.**

**Твой голас заўжды пазнаюць землякі,**
**Да іх не забыта дарога.**
**Твая Дзераўная, твае Навікі —**
**Крыніца натхнення жывога.**

**Хапае ў цябе не прыземленых слоў —**
**Крыштальных, крамяных, не посных.**
**У сталасць не з кайстрай пустой**
**цябе вёў**
**Натхнёны Драздовічаў *Посах*.**

**Радок твой *мембранай* гучыць праз гады,**
**Даносячы водар *нектару*.**
**І ты ў «Маладосці» заўжды малады,**
**І змрочнасць табе не да твару.**

**Я рады, мой дружа, што выпала нам**
**Асвойваць паэзіі поле.**
**І ты *напярэймы і дням, і гадам***
**Ідзі, не стамляйся ніколі.**

**Юрась СВІРКА**

# «ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў РЭСПУБЛІЦЫ МЫ НЕ ЗАЙМАЛІСЯ ЎСУР'ЁЗ»

*(Пачатак на стар. 5)*

Хоць не выклікае ніякага сумнення сама думка аб тым, што гонар, свабода і правы чалавека — гэта транснацыянальная з'ява і абавязак міжнароднага супольніцтва абараняць іх паўсюдна, дзе б яны ні знаходзіліся ў небяспецы.

Выклікае вострую неабходнасць вырашэння толькі адвечная праблема МЕРЫ. МЕРЫ ПРАВА НА ЎМЯШАННЕ. МЕРЫ САМОГА ЎМЯШАННЯ.

І, нарэшце, прыярытэты. Па-мойму, каронным і кансенсуснымі адначасова былі для Венскай Сусветнай канферэнцыі наступныя тры ідэі: чалавек — вышэйшая каштоўнасць планеты Зямля; дзяржавам, асабліва членам ААН, і ў першую чаргу тым, якія ратыфікавалі асноўныя міжнародныя акты па правах чалавека, неабходна і сама час пераходзіць ужо ад дэкларацый і фармальнай кодафікацыі да пошуку найбольш эфектыўных механізмаў па рэалізацыі правоў чалавека, па ўзбагачэнні зместу кодыфікаваных, а глоўнае, рэалізоўваемых правоў чалавека. Неабходна прымаць канкрэтныя захады па іх рэальнай абароне. Недатыкальнасць дзяржаўнага суверэнітэту суб'ектаў міжнароднага супольніцтва нацый можа захоўвацца толькі тады, калі яны звязаны з дэмакратыяй, якая развіваецца, і эфектыўнай абаронай правоў чалавека. Іх масавыя і грубыя парушэнні і захоўванне правіл гульні, што патрабуе дзяржаўны суверэнітэт — рэчы не сумяшчальныя. Інакш кажучы, калі гаварыць карацей, то сутнасцю ўсіх дыскусій Венскай Сусветнай канферэнцыі, яе прыярытэтам можна назваць праблему ЭФЕКТЫЎНАЙ ПРАКТЫЧНАЙ РЭАЛІЗАЦЫІ правоў чалавека. Менавіта ў гэтым кірунку абмяркоўваліся пытанні аб удасканаленні механізмаў заахвочвання і абароны, аб рэзкім узмацненні работы Цэнтра ААН, аб неабходнасці ўвядзення пасады Вярхоўнага камісара па правах чалавека.

**— Вы гаварылі, што ўзніклі цяжкасці з выпрацоўкай заключнага дакумента канферэнцыі. Аднак гэты дакумент прынятты. Калі ласка, раскажыце, што ўяўляе ён сабой?**

— Каб даць разгорнутую ацэнку, гэты дакумент варта яшчэ сур'ёзна вывучаць. Нават сама канферэнцыя не паспела, на маю думку, зрабіць гэта, таму што апошнія яго «акорды» і само прыняцце рабіліся ў дзень закрыцця, недзе апоўначы. Натуральна, што ў гэты дакумент уключаны пазіцыі, да якіх яшчэ давядзецца вяртацца. Аднак нельга не пагадзіцца з думкай дэлегацый Расіі і ЗША, выказанымі ў парадку растлумачэння матываў галасавання, што гэта — моцны дакумент, бо ён яшчэ раз акцэнтуе ўвагу міжнароднага супольніцтва нацый на чалавеку, яго годнасці і свабодзе як вышэйшай каштоўнасці, бо ён упершыню робіць галоўную стаўку не на пракламацыю, а на РЭАЛІЗАЦЫЮ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА, імкнучыся стаць планам практычных мерапрыемстваў дзяржаў і ўрадаў у гэтай галіне. Зусім невыпадкова ён названы Дэкларацыяй і Праграмай дзеянняў.

**— На сённяшні дзень, Леанід Фёдаравіч, Венская канферэнцыя ўжо стала гісторыяй. Якія ж урокі для Беларусі вынікаюць з гэтага аўтарытэтнага міжнароднага форуму?**

— Думаю, што любая пазіцыя Сусветнай канферэнцыі — гэта ўжо і ўрок. Правамі чалавека ў рэспубліцы мы ніколі не займаліся ўсур'ёз. Міжнародны вопыт, добра вядомы нашым дыпламатам, па сённяшні дзень не рэалізуецца, знаходзіцца ў стане незапатрабаванага і нераспаўсюджанага груза. Гэта, бадай, галоўны ўрок.

Калі ж гаварыць больш канкрэтна, то, на мой погляд, неабходна сур'ёзна абмежаваць манаполію дзяржаўных /рэпрэсіўных/ органаў: суда, пракуратуры, МУС і г.д. на абарону правоў чалавека. Галоўныя шляхі гэтай дэманапалізацыі наступныя:

а/ увядзенне правачалавечнага вымярэння ва ўсе астатнія дзяржаўныя органы і акты;

б/ стварэнне спецыяльнай дзяржаўнай структуры тыпу Нацыянальнай камісіі па правах чалавека, якая б займалася цалкам і толькі праблемамі правоў чалавека ва ўсіх іх вымярэннях;

в/ усямернае заахвочванне ўсё больш актыўнага ўваходжання ў гэтую сферу сацыяльнага жыцця прафесіных саюзаў;

г/ стварэнне умоў для развіцця пазаўрадавых арганізацый правоў чалавека;

д/ стварэнне ў рамках МЗС спецыяльнага ўпраўлення правоў чалавека, яго сур'ёзнае кадравае ўмацаванне.

І яшчэ — фарміраванне нацыянальнай культуры правоў чалавека.

Гэта азначае, што неабходна стварыць навуку правоў чалавека. Ці ж не сорамна для суверэннай цывілізаванай дзяржавы, што ніводная нацыянальная навуковая ўстанова не займаецца даследаваннем гэтай праблемы!

Неабходна фарміраваць сістэму адукацыі ў галіне правоў чалавека. Бо пакуль што толькі ў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў чытаецца спецкурс па правах чалавека! І больш — нідзе! Нават на юрыдычным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Не кажучы ўжо аб сярэдніх спецыяльных навучальных установах.

Значыць, неабходна пранізаць усю сістэму выхавання і адукацыі праблематыкай правоў чалавека, падрыхтаваўшы спецыяльныя распрацоўкі для падлеткаў і юнакоў. Мы павінны падрыхтаваць сур'ёзную базу інфармацыі і дакументацыі, перавыдаць шматлікія публікацыі ААН па правах чалавека.

Плюс — інтэгрыраванне асноў міжнародных актаў па правах чалавека ў нацыянальнае заканадаўства і выпрацоўка механізма кантролю за рэалізацыяй асноў міжнародных актаў у рэспубліцы.

Самым жа надзённым урокам з'яўляецца неабходнасць рашучага супрацьдзеяння імкненню знізіць узровень кодафікацыі і збядніць змест рэальных правоў грамадзян Беларусі. Існуючыя праекты нашай Канстытуцыі, што гэтак цяжка нараджаецца, пакідаюць, на жаль, шмат пытанняў, на якія няма адказу. Можна, канечне, гаварыць і аб многім іншым, аднак выказаныя тут ідэі — гэта галоўныя ўрокі Вены.

**— Дзякуй, Леанід Фёдаравіч, за змястоўную і цікавую гаворку. Поспехаў вам і творчых, і навуковых.**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ЛіМ - часапіс

МУЗЫКА

## ЛАЎРЭАТЫ МІЖНАРОДНАГА

**Ансамбль флейтыстаў Беларускай акадэміі музыкі стаў лаўрэатам І Міжнароднага конкурсу выканаўцаў камернай музыкі «Залатая восень» ва ўкраінскім горадзе Хмяльніцкім. Удзельнікамі конкурсу былі музыканты Беларусі, Германіі, Казахстана, Расіі, Украіны. У поспеху беларускага квінтэта флейтыстаў, адзначанага 2-й прэміяй, вялікая заслуга яго мастацкага кіраўніка дацэнта акадэміі Ніны Аўраменкі ды канцэртмайстра Вадзіма Сідарава.**

**П. Г.**

ФЕСТЫВАЛІ

## «СЯБРЫНА», «ЦЕРНІЦА» І ІНШЫЯ



**Фестываль народнай творчасці «Спадчына» прайшоў у Мінску. У ім прынялі ўдзел ансамбль народнай музыкі «Церніца», фальклорныя групы «Сябрына» і «Калі ласка», дзіцячы ансамбль «Кураняты» і іншыя калектывы.**

*На здымку: выступае фальклорная група «Сябрына» НВА «Планар».*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

ТЭАТР

## «АБАРВАНАЯ ПЕСНЯ»

**Так названы другі ўрок у праграме тэатра-ліцэя, які нарадзіўся ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача ў мінулым годзе. Першы ўрок быў прысвечаны вялікаму песняру зямлі беларускай Янку Купалу. Гэты, як вызначана тэатрам, — трагедыі жыцця і творчасці Міхася Чарота. Пра лёс аднаго з таленавіцейшых прадстаўнікоў рэвалюцыйнага пакалення, нізавошта знішчанага ў час сталінскіх рэпрэсій, расказвае пісьменнік А. Вольскі. «Але як нельга забіць душу народа, так нельга забіць песню», — гаворыць ён, завяршаючы аповяд, і прапануе прысутным паглядзець спектакль па п'есе-жарце Міхася Чарота «Мікітаў лапаць».**

**Першыя слухачы і гледачы — настаўнікі і вучні старэйшых класаў — выказалі сваю ўдзячнасць тэатру за цікавы і змястоўны ўрок-спектакль.**

**Л. ГОРЦАВА**

## ЯШЧЭ АДНА ПРЭМ'ЕРА

**Месяц мінуў з пачатку новага сезона, а маладзечанскія прыхільнікі тэатральнага мастацтва змаглі ўбачыць ужо дзве прэм'еры — «Час, Сымоне, час» па п'есе Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» ў пастаноўцы Рыгора Баравіка і спектакль для дзяцей «Залатое кураня» па п'есе У. Арлова ў пастаноўцы Яўгена Лапцева.**

**19 лістапада адбылася прэм'ера яшчэ аднаго спектакля — камедыя «Жаніцьба Бальзамінава» па п'есе А. Астроўскага. Пастаноўку гэтай работы ажыццявіў Уладзімір Забэла. У спектаклі занята амаль уся трупа тэатра. Ролі выконваюць Дзмітрый Глазычаў, Таццяна Кавалеўская, Ірына Кляпацкая, Алена Павачка, Алена Доніна, Таццяна Юрык, Яўген Іўховіч, Барыс Донін, Ала Стэльмах.**

**Мікола КАПЫЛОВІЧ**

ВЫСТАВЫ

## НАСТАЎНІЦКІ ЭКЗАМЕН

**Упершыню ў Віцебску была зладжана выстава мастацкіх твораў тутэйшага настаўніцтва.**

**У абласным інстытуце ўдасканалення настаўнікаў трымалі своеасаблівы глядацкі экзамен педагогі школ Віцебшчыны. І здадзены ён на «выдатна»: у экспазіцыі былі прадстаўлены неблагія графічныя працы, акварэлі, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Прычым некаторыя выстаўленыя карціны аматар мастацтва мог «ацаніць» і ўласным рублём.**

**Ю. С.**

ЛІТКУР'ЕР

## СПРАВАЗДАЧА ПІСЬМЕННІКА-ФРАНТАВІКА

**Мастацка-літаратурны вечар, які стаў творчай справаздачай пісьменніка-франтавіка М. Шумава, прайшоў у Магілёўскай абласной бібліятэцы. Выступілі дырэктар бібліятэкі В. Баранава, сакратар абласнога аддзялення СП Беларусі І. Аношкін, пісьменнікі В. Карпечанка, П. Шасцерыкоў, прадстаўнік таварыства яўрэйскай культуры Н. Іофе і іншыя. Артыст абласнога тэатра У. Пятровіч прачытаў урыўкі з аповесці М. Шумава «Хроніка вуліцы Грушавай».**

**Прысутныя цёпла павіншавалі М. Шумава з 70-годдзем, уважліва слухалі яго аповяд пра час і пра сябе.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА СУСТРЭЎСЯ

**ў Доме ветэранаў у Мінску са сваімі чытачамі. Ён расказаў пра тое, як працаваў над кнігамі «Зямля бацькоў», «У родным краі», падзяліўся ўражаннямі ад вандровак па Беларусі, паведаміў, што цяпер працуе над новай кнігай «Крывічы» — героямі яе стануць жыхары аднайменных вёсак — а іх пятнаццаць.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

ДРУК

## «НАША НІВА», N 16

**Чарговы нумар віленскай «Нашай Нівы» прысвечаны тыповым нацыянальным рысам. Напрыклад, у Заходняй Еўропе для кожнага народа ёсць пэўнае «вулічнае» вызначэнне. Кожны шатландзец, кажуць, скупы, кожны паляк — легкадумны і гэтак далей. У спажывецкай масавай культуры гэтыя рысы выяўляюцца ў адметным смеху, сіле, каханні, а таксама — у гастранамічных прыхільнасцях. Агульнавядома, напрыклад, што пры сухім віне тыповы беларус звычайна аддае перавагу піву...**

**«Ці зменіцца што-небудзь, калі мы разам з іншымі атрыбутамі заходняй цывілізацыі «падхопім» і амерыканскую міфалогію пра звышлюдзей? — піша ў сваім артыкуле «Пра ідэалы» мастацтвазнаўца Антон Сіюль. — Што можа змяніцца ў беларускім светапоглядзе з заменаю саратаўскіх лыжкароў на экранах тэлевізараў на Супермэнаў? Беларускасці, прынамсі, нічога не пагражае, бо яе ў «mass media» як не было, так і няма дагэтуль. Што тады можа разбурыць заходняя маскультура? Чакаць ад гэтага патоку амерыканізацыі можна з той жа ўпэўненасцю, як і мексіканізацыі ад «мыльных» тэлесерыялаў, дзякуючы якім ці кінецца хто вывучаць іспанскую мову? Праблема ў іншым. Каб нешта бараніць, трэба ведаць, што».**

**Акрамя гэтага, у апошнім нумары «Нашай Нівы» друкуюцца новая аповесць Адама Глобуса, падарожныя нататкі Уладзіміра Арлова, новыя пераклады Гётэ, апавяданне фаварыта французскай моладзі і рэдкага госця на старонках беларускага друку Барыса Віяна, а таксама навуковыя артыкулы, рэцэнзіі, інтэрв'ю.**

## ВЫДАДЗЕНА ТАВАРЫСТВАМ «АДРАДЖЭННЕ»

**Факсімільныя выданні, якія вяртае шырокаму колу чытачоў беларускае кааператыўнае выдавецкае таварыства «Адраджэнне», ужо знаёмы рупліўцам на ніве беларушчыны. Самыя заўзятыя з іх, пэўна, ужо склалі з кніжачак, падрыхтаваных Святланай і Алесем Жынкінымі, сапраўдную бібліятэчку.**

**Чарговая кніжачка, вернутая з небыцця, — артыкул А. Бярозы «Расейска-польскі баль і беларускае пахмелле» /у падзагалоўку: «Куды ідзе беларускі шлях»/. Першавыданне, знойдзенае вядомым бібліёграфам Валерыем Герасімавым, ажыццёўлена ў друкарні «Haslo» ў Пінску ў 1921 годзе.**

**Ужо сама назва брашуры ў пэўнай ступені вызначае яе змест. Аўтар ставіць актуальнейшыя па тым часе пытанні: «Чаму Польшча пачала душыць беларускі рух? Чаму польская ўлада ў 1919 годзе разагнала беларускі ўрад у Менску і сяброў яго кінула ў турму? Чаму польская адміністрацыя зачыняе ў Гарадзеншчыне беларускія кааператывы, арыштоўвае кааператыўных працаўнікоў-беларусаў і канфіскуе склады тавараў, якіх так жадае беларуская вёска? З якой прычыны зачынены ў Горадні беларускі Нацыянальны камітэт і польскія жандары арыштавалі беларускіх дзеячаў і пасадзілі ў турму? Чаму ж арыштоўваюць беларускіх вучыцялёў і высылаюць у канцэнтрацыйныя лагеры? Чаму польская ўлада так перашкаджае адчыняць беларускія школы і польскія жандары так збіваюць тых сялян, якія выносяць пастановы аб адкрыцці ў іхніх вёсках беларускіх школ? Чаму, урэшце, польская ўлада зачыняе беларускія газеты і, наогул кажучы, не дае свабодна развівацца нацыянальным беларускім арганізацыям і не хоча існавання незалежнай Беларусі?»**

**Сучаснае выданне працы А. Бярозы мае наклад у 500 асобнікаў. А набыць брашуру пакуль што можна ў «Кнігарні пісьменніка».**

**А. КАРЛЮКЕВІЧ**

## «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», N 10

**У раздзеле «Духоўны свет» — нататкі дырэктара школы Б. Зубкоўскага «Патэнцыял духоўнасці», гутарка Я. Конева з кінарэжысёрам В. Туравым «У кадры і за кадрам», артыкул В. Тарасевіча і В. Ляшкевіча «Замок на вясковым клубе».**

**З выдатнымі гістарычнымі і культурнымі мясцінамі Навагрудчыны знаёміць І. Лісоўскі — «Жывілі ліру песні Наднямоння». Я. Паўлаў расказвае пра малавядомыя старонкі мінулай вайны — «Жыццё і смерць камдыва». «Камп'ютэрны варыянт» — раздзел з кнігі А. Усені «Аднойчы ў ціхім завулку...».**

**Прапануюцца палемічныя нататкі У. Глушакова «Тараканы ў... магнітафоне», развагі В. Гапановіч «Нам безумоўна не хапае свежага паветра культуры», інтэрв'ю В. Барысевіча з народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь Г. Карпенкам — «Нам трэба трапіць у каляіну цвярозага сэнсу».**

**Багаты раздзел «Культура Беларусі»: артыкулы Т. Шамякінай «Міфалогія. Жыццё і смерць, быццё і небыццё», А. Хатэнкі «Па прыступках лесвіцы вечнай», Т. Габрусь «Калі змоўкнуць і песні, і паданні».**

## «РОДНАЕ СЛОВА», N 9

**У сувязі з 80-годдзем С. Грахоўскага апублікаваны артыкул Л. Гарэлік «Люблю ўсе колеры жыцця» і вершы юбіляра. Змешчаны артыкулы В. Шчэрбіна «Слоўнікавая спадчына Максіма Гарэцкага», В. Емельяновіч «З гісторыі назваў Берасцейшчыны», А. Вішнеўскага «Я хацеў бы ізноў нарадзіцца...» /творчасць У. Клішэвіча/, заканчэнне артыкула Тамары Мушынскай «Ён умеў бачыць свайго ўлюбёнага чалавека /М. Зарэцкі, «Вязьмо»/, чарговыя раздзелы «Праграмы-праспекта па беларускай літаратуры для VII—XI класаў» /падрыхтавалі С. Лаўшук, М. Мушынскі, В. Каваленка, М. Арочка/, згадкі Т. Кахалоўскага «Паўліна. Паўлінка...»**

**Сяргей Панізнік знаёміць з Н. Арсенневай /«Загон і бязмежжа»/, Л. Тарасюк дзеліцца ўражаннямі ад творчасці Н. Мацяш /«Непадзельнасць»/, В. Мартыненка /«Ў парадзе падзей»/ працягвае агляд беларускай песні.**

НОВЫЯ КНІГІ

## ...І ЯГО «СЯДЗІБА МУЗАЎ»

**Доўгачаканая кніжка А. Цеханавецкага «Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме» далёка не ўсім трапілася на вочы. Толькі 7 тыс. экземпляраў гэтага унікальнага выдання выпусціла ў свет выдавецтва «Беларусь». Што ж, дзякуй і за тое... Нагадаем, што аўтар кнігі — нашчадак беларускіх княжацкіх родаў, мецэнат, жыве ў Лондане. Праца пра М. Каз. Агінскага, знанага гетмана Вялікага княства Літоўскага, упершыню пабачыла свет на нямецкай мове ў 1961 г. Пераклад на беларускую зроблены па гэтым выданні У. Сакалоўскім, а навуковае рэдагаванне перакладу — А. Мальдзісам, які напісаў і ўступны артыкул. Кнігай А. Цеханавецкага Міжнародная асацыяцыя беларусістаў распачала серыю выданняў пад рубрыкай «Свет — пра Беларусь».**

**Н. К.**

## ФІНАНСАВАЛА МІНІСТЭРСТВА

**Гісторыя развіцця беларускай оперы, балета, музычнай камедыі, музыкі для драматычнага тэатра ў паслярэвалюцыйныя, даваенныя і перадваенныя гады разглядаецца ў кнізе «Музычны тэатр Беларусі». Выйшла яна ў выдавецтве «Навука і тэхніка» дзякуючы фінансаванню Міністэрства культуры. Сярод аўтараў кнігі — І. Глушакоў, Т. Дубкова, Г. Куляшова, Т. Мдзівані, Ю. Чурко, Н. Юўчанка.**

## СТАНЕ БЛІЗКІМ ПАЛЕССЕ

**Серыя «Па родным краі», якую з 1985 года выпускае выдавецтва «Полымя», папоўнілася кнігай Юрыя Лабынцава «Старая казка Палесся», што мае падзагаловак «Турава-Пінская зямля». З выданнем гэтым некаторыя чытачы ўжо знаёмы. Пад назвай «У глыбінным Палессі» зборнік у 1989 годзе выходзіў у маскоўскім выдавецтве «Искусство». Цяпер жа ён з'явіўся ў перакладзе на беларускую мову М. Шорнікавай, прадмову да кнігі напісаў Г. Каханоўскі. Тыя, хто хоча болей ведаць пра мінуўшчыну краю, яго архітэктурныя помнікі, знойдуць для сябе ў «Старой казцы Палесся» нямала пазнавальнага матэрыялу. Ю. Лабынцаў знаёміць таксама з найбольш цікавымі населенымі пунктамі Палесся, расказвае пра народных умельцаў, знакамітых людзей, якія родам з гэтых мясцін.**

КУЛЬТУРА

## САБРАЛІСЯ ЮНЫЯ КРАЯЗНАЎЦЫ

**Упраўленне адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, абласны цэнтр дзіцячага турызму, абласны краязнаўчы музей правялі краязнаўчую канферэнцыю школьнікаў і навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішч. Працавалі секцыі, у тым ліку і літаратурнага краязнаўства, якой кіравалі сакратар абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Аношкін і загадчыца беларускага аддзела абласной бібліятэкі А. Катлёнак. Былі заслуханы даклады з месц, выступалі фальклорныя калектывы.**

**І. ГАЛІНОЎСКІ**

## АДНАЎЛЯЕЦЦА ЗАМАК

**Працягваецца рэстаўрацыя Лідскага замка. Гэтыя работы вядзе малое прадпрыемства «Дызайн». Зараз наладжваецца падача цяпла ў адрэстаўраваную вежу замка, каб і ў зімовы час прадаўжаць аддзелачныя работы і кладку сцен.**



*На здымку: аб'ём работ на будучае вызначаюць з работнікамі «Дызайна» дырэктар Рычард Груша /у цэнтры/ і архітэктар Алег Пуртаў /другі справа/.*

*Фота А. ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

ЛіМ - часапіс

Беларускае замежжа

# Кастусь МЯРЛЯК: «МЫ БЫЛІ ПАЛІТЫЧНЫМІ ЭМІГРАНТАМІ»

**— Спадар Мярляк, толькі што прачытаў вашу кнігу «Дзейнасць Кастуся Мярляка на эміграцыі». У ёй ваш лёс, ваша жыццё, ваша бачанне свету. Цікава, што падштрухнула вас узяцца за пяро?..**

— Падштурхнула тое, што ў эмігранцкім, а тым больш у савецкім друку мяне працяглы час залічвалі да тых дзеячаў, да якіх, як я ўважаў, мяне няможна залічваць... Я палічыў патрэбным сказаць, што і дзеля чаго я рабіў на самай справе. І разам з тым даць аналіз падзей, што адбыліся ў асяроддзі беларускай эміграцыі.

Уся мая дзейнасць на экзылі зыходзіла з таго, што яна мусіла быць на дабро нашаму народу, які ў той час быў паняволены. Мы былі палітычнымі эмігрантамі, якія ўзялі на сябе абавязак гаварыць у заходнім свеце за беларускі народ, вусны якога былі зачынены, які быў загнаны і не мог бараніць сябе.

**— На працягу амаль 40 гадоў сваёй грамадскай і палітычнай дзейнасці вы ніколі не таілі, што ўся ваша дзейнасць вялася з актыўных антыкамуністычных пазіцый і была антысавецкай...**

— Так, безумоўна. Таму ў застойныя часы на Беларусі мяне не раз абвінавачвалі ў тым, што я «клевещу» на савецкую ўладу, савецкі народ, што прадаўся за амерыканскія долары... А гэта ж няпраўда... Што тычыцца мяне, дык я ні ў якіх амерыканскіх установах ніколі не працаваў. Я быў на службе ў заходнееўрапейскіх цеплаходных кампаній. Другі накірунак дзейнасці палітычнай эміграцыі: усюды, дзе толькі можна было, сцвярджаць, што Беларусь ёсць акупаваная, што ўлада на Беларусі накінута зверху, што ў беларусаў забралі мову, гісторыю, свабоду, рэлігію... Сённяшні стан спраў на Беларусі сведчыць, да чаго давялі народ камуністычныя ўлады... Мы гэта бачылі некалькі дзесяткаў гадоў назад.

**— Мо таму ў аснову вашай палітыкі быў пакладзены тэзіс, што Беларусь павінна быць вольнай і небальшавіцкай...**

— З палітычнага пункту гледжання я, будучы чалавекам практычным, разглядаў справу так, што Беларусь можа быць і сацыялістычнай дзяржавай, але каб яна была незалежнай і каб ёй кіравалі беларусы. Калі ў верасні 1939 года на Заходнюю Беларусь зноў прыйшлі бальшавікі, я не пакінуў бацькаўшчыну. Чаго я маю ўцякаць за Буг, думаў я тады, я не кулак, не капіталіст, гэта мая зямля. Але да чэрвеня 1941 года я пераканаўся, што зрабіў памылку. Уцякаць трэба было...

**— Але ж уцякаць — значыць, развітацца, можа, назаўсёды, са сваёй радзімай, бацькамі, сябрамі...**

— Так, і ў 39-ым я да гэтага не быў гатовы. Наваградчына — мая радзіма, радзіма маіх бацькоў. Бацька мой быў настаўнікам. Служыў у царскім войску. У першую сусветную вайну быў інтэндантам. Па загадзе бальшавікоў ён не здаў ім эшалон з правіянтам, а адправіў яго на фронт — па прызначэнні... Яго арыштавалі, але бацька ўцёк з-пад варты і вярнуўся дадому. Ажаніўся, быў на гаспадарцы ў Ведамлі... Там я нарадзіўся і вырас... Бацька не быў багатым і нармальна вучыцца я не мог. Закончыў кааператыўную школу і працаваў бухгалтарам у кааператыве польскіх асаднікаў. Ужо тады я хацеў дастацца ў Амерыку. Там жылі бацькавы далёкія сваякі. Хацелі з сябрам нават украдкам ехаць... У польскай школе я стаў цікавіцца палітыкай, шмат чытаў. І зразумеў, што Беларусь несправядліва пакрыўджана як з боку палякаў, так і з боку саветаў. Я бачыў, як у 1939 годзе бальшавікі вывозілі з Заходняй Беларусі людзей — віноўных і невіноўных... Так я даходзіў да свядомасці і зразумеў, што Беларусь павінна шукаць свой шлях да волі... Яе нам не далі палякі, не дадуць і саветы...

**— А тым часам пасля палякаў і саветаў на Беларусь прыйшлі немцы...**

— Так, жыцця не было ад акупантаў розных масцяў. У вайну я спачатку быў у самапомачы, пасля мяне паслалі на курсы самааховы. Закончыў і паехаў у Ліду арганізоўваць батальён. Але немцы забаранілі гэта рабіць. Вярнуўся ў Наваградак, быў старшынёй трох паветаў. Сакратаром у мяне быў Валянцін Таўлай. Становішча тады было дрэннае. З аднаго боку — немцы, а з другога — партызаны. А цывільнае насельніцтва між імі. Трэба было неяк жыць... Я сабраў з кожнай вёскі па некалькі свядомых беларусаў і сказаў ім: калі немцы будуць патрабаваць паставак, давайце ім, прынамсі, дзве трэція, не болей. Калі будуць патрабаваць партызаны — давайце столькі ж сама. Але каб немцы не ведалі, што да вас прыходзілі партызаны... Так было да 1943 года, пакуль мяне не паклікалі ў эскадрон. Ён не меў нічога супольнага ні з самапомаччу, ні з Беларускай краёвай абаронай. Ён быў дадзены Барысу Ругулю проста з Берліна...

**— Спадар Мярляк, калі можна, раскажыце аб гэтым больш дэталёва. Пра дзейнасць эскадрона Барыса Рагулі на Беларусі вядома вельмі мала...**

— Я пісаў пра гэта і яшчэ буду пісаць... Спачатку колькі слоў пра самога Рагулю. Ён быў польскім афіцэрам. Калі Польшча капітулявала, трапіў у нямецкі палон... Неўзабаве немцы адпусцілі беларусаў дамоў, і Рагуля працаваў настаўнікам. Яго арыштавалі саветы, а вызвалілі немцы, калі занялі Менск. Каб не вайна, Рагуля сядзеў бы ў вядомай «Амерыканцы». Ён зноў вярнуўся ў Наваградак... Барыс ведаў нямецкую мову, быў чалавекам адукаваным. Ён разумеў, што з немцамі трэба працаваць. Рагуля стаўся перакладчыкам, а пасля мужам даверу. Ён даказваў немцам: хочаце, каб не было партызанаў, — дайце беларусам зброю, мы самі абаронімся ад бандытаў, а вы ваюйце з бальшавікамі... Немцы гэтага баяліся...

А эскадрон узнік так. Барыс Рáгуля, маючы падтрымку ў немцаў, паехаў у Берлін і дастаў дазвол — не ведаю ў каго, напэўна, ён сам скажа пра гэта калісьці, — на арганізацыю эскадрона кавалерыі. Мы будзем бараніць беларусаў, — заявіў Рагуля. Маладых хлопцаў, якія паканчалі семінарыі, забіралі на работы ў Нямеччыну. А калі арганізавалі эскадрон, яны сталі яго афіцэрамі і падафіцэрамі. Туды ж перайшлі і некаторыя дзеячы самааховы, якія закончылі першыя спецыяльныя курсы. Хоць тыя курсы былі зусім слабенькія, але пераважна ўсе слухачы мелі вайсковае дасведчанне польскай арміі ці, некаторыя старэйшыя, нават царскай арміі. Рагуля дастаў у немцаў абмундзіраванне, беларускія пагоны і зброю...

**— А чым быў выкліканы такі шырокі жэст з боку гітлераўскай Германіі? Гэта была звычайная падачка ці заігрыванне з беларусамі?**

— Асабіста я думаю, што ні першае, ні другое... І ў першую, і ў другую вайну немцы ўважалі Беларусь і яна мела як бы спецыяльны статус у іх экспансіі... Але так да нас адносіліся не ўсе немцы. І першыя поспехі іх арміі перакрэслілі такія адносіны да нас. А яны ж сцвярджалі, што Беларусь будзе вольнай краінай у Еўропе. Беларускія эмігранты таго часу думалі, што так яно і будзе. Немцы меліся даць нам аружжа і абмундзіраванне, а мы, беларусы, павінны былі забяспечыць харчаванне. Але гэта не здзейснілася. Пасля ўжо, па стварэнні Беларускай Цэнтральнай Рады, калі партызаны разышліся так, што не было ратунку, прэзідэнт Радаслаў Астроўскі аб'явіў мабілізацыю ў Беларускую краёвую абарону. А калі зрабілі БКА, немцы далі нам аўстрыяка, сувязнога афіцэра, каб ён кантраляваў нашы дзеянні. А ён толькі тым і займаўся, што дзень і ноч п'янстваваў. На гэтым заканчваўся ўвесь нямецкі кантроль...

Наваградак у вайну стаўся вялікім нацыянальным цэнтрам. Там працаваў народны дом, беларуская адміністрацыя, паліцыя, самапомач... Дзейнічалі настаўніцкія курсы і семінарыя... Беларускае жыццё пад немцамі зноў ажывілася...

**— Але ж яго ўдзельнікі пасля паплаціліся за гэта. Большасць беларускіх актывістаў перыяду акупацыі склала аснову паваеннай палітычнай эміграцыі...**

— Так, яны вымушаны былі падацца ў эміграцыю, бо ведалі: калі хто застанецца — скончыць жыццё ў Сібіры. Мушу зазначыць, што мы ў той час не зусім уяўлялі. што нясе нам нямецкая акупацыя. Але ж калі б Сталін не стаў брабтацца з Гітлерам, можа, і такой жорсткасці не было б, можа, вайна ўзяла б другі кірунак?.. Да чаго прывяла б расавая палітыка немцаў — невядома, але спачатку яны ішлі супраць камуністаў. А ўлада камуністаў была варожая беларускаму народу... Гэтым мы кіраваліся ў сваёй дзейнасці...

**— Інакш думалі людзі, якія пайшлі ў лес і сталі партызанамі...**

— А ім не было іншага выйсця, бо яны былі альбо сталіністамі, альбо чырвонаармейцамі, якія не паспелі ўцячы з войскам. Першы год вайны яны сядзелі па лясах. У 42-ім, пад канец, яны ўжо шумелі... У асноўным рабавалі мірнае насельніцтва. А немцы за дапамогу партызанам жорстка распраўляліся з тым самым мірным насельніцтвам. Больш прафесійна партызаны пачалі дзейнічаць з другой палавіны 1943 года, калі ў лясах з'явіліся вайсковыя камандзіры, закінутыя на парашутах. Немцы часта выязджалі на аблавы партызанаў. Палілі вёскі, забіралі людзей, жывёлу ў тых мясцовасцях, дзе дзейнічалі партызаны... Геройства, якое пасля прыпісалі партызанам, яны не паказвалі. Можа, і былі сапраўдныя народныя змагары, але іх было мала. Вобраз герояў стварыла савецкая прапаганда. Пасля вайны ў вёскі наехала пісьменнікаў, журналістаў, якія пазапісвалі фашысцкія зверствы, прозвішчы ўсіх, хто загінуў, і сказалі, што гэта ахвяры фашызму... А чаму ж не ўлічылі тых, каго знішчылі партызаны за тое, што яны сядзелі ў адміністрацыі, паліцыі і не ведалі, што рабіць? Ісці пад нямецкі кулямёт? Чаму не ўлічылі тых, каго забраў СМЕРШ, — гэта ж было вынішчэнне беларускага народа... Пра партызанскі рух на Беларусі яшчэ трэба сказаць праўду. Хопіць міфаў!

**— Спадар Мярляк, а ў якіх ваенных аперацыях эскадрона вы прымалі ўдзел?**

— Я вам скажу праўду: за ўсё вайну я ні разу не стрэліў у бок чалавека, нічога дрэннага нікому не зрабіў. Наадварот, дапамагаў і ратаваў людзей, шмат каго збавіў ад вывазу ў Германію... Асабіста я, напрыклад, выратаваў дзвюх маладых яўрэек. Вывез іх з Наваградка ў лес і дапамог уцячы ад аблавы... Я займаўся гаспадарскімі справамі эскадрона: дастаўкай зброі, харчоў і г. д. Усё гэта нам пастаўлялі немцы.

Апошняя акцыя эскадрона супраць партызанаў была ў раёне Глыбокага. Але партызаны пахаваліся, а фронт ішоў хутка, і мы мусілі адступаць. Прыехалі ў Наваградак, сталі разладоўвацца і праз пару дзён, 7 ліпеня 1944 года, выехалі ў Нямеччыну... Многія змабілізаваныя хлопцы пайшлі дадому. З 1200 чалавек засталося мо 200 з лішнім. Мы дабраліся да Беластока, але там ужо не было беларускага камітэта. Мы — на Варшаву. А эскадрон пайшоў на Ломжу і ўліўся ў дывізію «Беларусь». А я з Варшавы выехаў у Прусію, у Дальвіц. Там немцы рыхтавалі дэсантнікаў для закідкі ў тылы Чырвонай Арміі. Калі пачалі фарміраваць групы, я заявіў, што ваяваць за чужыя інтарэсы на чужой зямлі не буду і падаўся ў Кёнігсберг... Там яшчэ было беларускае прадстаўніцтва. Мне выраблі патрэбныя дакументы, і я хацеў выехаць у Францыю. Але туды мяне не пусцілі, і я рушыў на Вену. Па дарозе затрымаўся ў Берліне два тыдні. Паглядзеў, што да чаго... Дабраўся ў Вену, з Вены — у Верону, гэта ўжо ў Італіі. Трапіў у лагер, дзе рыхтавалі людзей для арганізацыі адмірала Канарыса — для «Абвера». Яны перакінулі мяне праз лінію фронту, і я трапіў да амерыканцаў. Амерыканцы кінулі мяне за дрот... У лагеры, дзе я апынуўся, былі людзі з усяго свету. Нас не называлі ваеннымі злачынцамі, але мы былі інтэрніраваны... Сядзелі там генералы, паслы, шпіёны, жонка і дачка Мусаліні... Сядзелі да тых пор, пакуль не высвятляўся наш далейшы лёс... Я прабыў там цэлы год, вывучыў ангельскую і італьянскую мовы, займеў шмат цікавых знаёмстваў... Больш губляць час я не хацеў, уцёк з лагера і падаўся ў Рым. З Рыма я апынуўся ў Аргенціне. Працаваў у гатэлі, пасля бухгалтарам у цеплаходнай кампаніі... Вакол мяне сталі збірацца беларусы, якія жылі ў Аргенціне. Мы заклалі беларускую арганізацыю... Там я напісаў кнігу «Беларусь і беларусы ў Аргенціне». Яна разышлася па ўсёй Паўднёвай Амерыцы. Якраз у гэты час савецкія агенты арганізавалі ў Аргенціне Славянскі Саюз і знішчылі ўсе нацыянальныя арганізацыі, у тым ліку і беларускія. Пачалася кампанія па вяртанні на радзіму. Людзі паддаваліся прапагандзе і выязджалі ў Савецкі Саюз. Мая ж даўняя мара была — дабрацца да Амерыкі. Туды я і падаўся ў 1954 годзе. Знайшоў добрую працу, уключыўся ў палітычную дзейнасць...



*Фота Анатоля КЛЕШЧУКА*

**— Мабыць, гэта было не проста, бо ў Амерыцы ў той час дзейнічала некалькі беларускіх груповак...**

— О, гэта так. Сёння я гэта разумею... Эміграцыя магла зрабіць больш, але лаянкі і закалоты ў беларускім асяроддзі, а яны былі тут заўсёды, не дазволілі... Спачатку людзі думалі, што будзе вайна і яны вернуцца дадому... Была створана Армія вызвалення...

**— Няўжо была такая надзея?**

— А няўжо ж! А вы думаеце, Астроўскі ці Абрамчык на гэта не спадзяваліся?! Ці Уладыка Тамашчык не спадзяваўся?! Ён не мог дачакацца, калі вернецца на Беларусь, будзе мець 8 коней на выезд і будзе Мітрапалітам Беларусі... Пасля палітыка вызвалення змянілася на паўстрыманне. А я казаў, мы не павінны чакаць, пакуль у Маскве скінуць камунізм і зробяць «Учредительное собрание», на якім яны будуць рашаць, што рабіць з Беларуссю... Беларусы ж вырашылі яшчэ ў 18-ым годзе, што іх дзяржава будзе незалежнай... На гэта мне ў Амерыканскім камітэце адказвалі: вось закончыцца халодная вайна, паб'ём бальшавікоў і вы, беларусы, паедзеце ў Менск і створыце Часовы ўрад, пакуль не адбудуцца выбары і 3-ці ўсебеларускі кангрэс...

**— Спадар Мярляк, што гэта за арганізацыя — Амерыканскі камітэт? Хто яе стварыў і якія мэты яна ставіла перад сабой?**

— Амерыканскі камітэт — гэта арганізацыя, створаная ў 1951 годзе Дзярждэпартаментам ЗША для палітычнага і практычнага кіраўніцтва дзейнасці паняволеных народаў за вызваленне. Афіцыйна ён называўся Камітэт вызвалення народаў Расеі і быў зарэгістраваны як прыватная карпарацыя ў штаце Дэлавэр, каб аддзяліць яго дзейнасць ад афіцыйнай палітыкі ЗША. Камітэт павінен быў палітычна падрыхтаваць эміграцыю для барацьбы за вызваленне сваіх краін. Амерыканцы далі грошы, стварылі радыё «Вызваленне», Інстытут вывучэння СССР... Але тут пачаліся падзелы ў асяроддзі самой эміграцыі... Камітэт пачаў фінансаваць апазіцыю. Наце вам грошы і маўчыце. Калі далі 17 тысяч долараў на выданне газеты, беларусы сталі сварыцца за гэтыя грошы... Амерыканцы паглядзелі, што такая сітуацыя, і прыпынілі іх выплату... А расейцы дасталі толькі мільён долараў на адно чэхаўскае выданне. Добрыя грошы атрымалі ўкраінцы, казакі, цюркскія народы... Амерыканцы хацелі мець аднаго прадстаўніка ад народа, а не па некалькі. На ролю беларускіх прадстаўнікоў тады прэтэндавалі БЦР і БНР. Іх варажнеча не спрыяла беларускай справе. Хоць я настойваў, што мы мусім дастаць грошы і будаваць у Амерыцы беларускія дамы, залы, школы... Беларусы ж нічога не мелі. Але мае калегі не пагадзіліся і мы разышліся ў думках. З таго часу я ў апазіцыі. Я не выйшаў з Рады БНР, хоць некаторыя нашы дзеячы імкнуліся адапхнуць мяне ад грамадскай дзейнасці. Але я шмат рабіў для беларускай справы па лініі рэспубліканскай партыі, дзе пэўны час займаў розныя становішчы.

Наша палітычная тактыка за 40 гадоў

эміграцыі пастаянна мянялася. Спачатку, як я казаў ужо, было вызваленне, пасля — паўстрыманне. За ўстрыманнем — суіснаванне, а пазней не толькі суіснаванне, але і ваенная раўнавага. У сувязі з гэтым мяняліся нашы лозунгі і прыярытэты. Нязменным было тое, што ўся гэтая дзейнасць была на карысць нашай бацькаўшчыны і мела на ўвазе беларускую дзяржаўнасць і самастойнасць.

**— Сорак гадоў вы былі адарваны ад Беларусі, але ў любых варунках заўсёды заставаліся беларусам...**

— Я даволі моцна перажываў расстанне. Вельмі хацеў паехаць на радзіму. Але сітуацыя са мной была складаная. Пра мяне хадзілі небыліцы. І я паехаў на Беларусь толькі тады, калі атрымаў гарантыі сваёй бяспекі. Сітуацыя на Беларусі зараз жахлівая. Урад пакуль што камуністычны. Многія беларусы зрабіліся большымі расейцамі, чым самі расейцы... Эміграцыя глядзіць з асцярогаю на падзеі, што развіваюцца на бацькаўшчыне. Так будзе, пакуль не адбудуцца новыя дэмакратычныя выбары. Хай сабе і камуністаў выберуць. Абы не тых, якія далезлі да ўлады па чалавечых касцях. Камуністы сваю справу на Беларусі зрабілі: яны развучылі людзей працаваць.

Тыдзень я прабыў у роднай вёсцы Ведамля. У вайну яна была спалена. Цяпер разбудавалася. Людзі збянтэжаны тым, што адбываецца ў былым Савецкім Саюзе. У вёсцы няма моладзі. Я сваіх равеснікаў не пазнаў. Такія яны старыя парабіліся. Пайшоў я на калгаснае поле, дзе людзі капалі картоплю. Адна з маіх каляжанак са слязьмі на вачах пажалілася: «Раней мы працавалі і нешта мелі, а сёння баімся заўтрашняга дня». У калгасе за ўсе гады яго існавання не было ніводнага мясцовага старшыні — усе прысланыя. Яны як жылі памешчыкамі, так і сёння жывуць. Дэмакратычная прэса ў вёскі не даходзіць. Моладзь, што прыязджае да бацькоў, размаўляе па-расейску. Тры такія дзяўчыны прыйшлі да сына і на поўным сур'ёзе прасілі, каб ён забраў іх у Амерыку...

**— Адразу траіх?**

— Так, згаджаліся ўсе разам...

Будучы ў Менску, я спатыкаўся і з дзеячамі Беларускага народнага фронту, і з партыйнай наменклатурай. Я вычуў адно: ёсць у наменклатуры беларусы, якія думаюць пра беларускую дзяржаўнасць, якія хочуць, каб Беларусь была незалежнай... І яшчэ пра адно, што я заўважыў у Менску. Камуністычная партыя аддзяліла інтэлігенцыю ад беларускага народа. І па сённяшні дзень інтэлігенцыя застаецца аддзеленай. У рэдакцыі «Літаратуры і мастацтва» я казаў: усё, што вы пішаце, вы пішаце для сябе, а хто напіша для народа?

**— Ці паўплывае візіт на Беларусь на вашу палітычную лінію? Як вы суадносіце сваю дзейнасць з падзеямі, што адбываюцца на бацькаўшчыне?**

— Безумоўна, паўплывае. І дапаможа выпрацаваць далейшую тактыку. Сёння мы вымушаны пераглядаць яе. Бо многія праблемы на бацькаўшчыне паступова рашаюцца. Раней мы дзе маглі баранілі Беларусь. Сёння нам не выпадае гэта рабіць. Беларусь можа гаварыць сама за сябе. Яна суверэнная дзяржава. Раней мы закідалі камуністычнаму рэжыму Беларусі, што ён праводзіць русіфікацыю. Сёння на Беларусі дзяржаўная мова — беларуская. Хоць на самай справе гэта не так! Віна народа, калі ён не гаворыць па-беларуску. Я, як амерыканскі грамадзянін, не магу сказаць, што ў беларусаў адабралі мову, калі яны самі на ёй не размаўляюць... Адпадаюць іншыя праблемы. Цяпер мы не ставім пытанні і не акцэнтуем на іх увагі грамадскасці, а імкнёмся падтрымліваць намаганні Беларусі ў міжнародных арганізацыях, кансультуем яе чыннікаў, займаемся іншай карыснай для бацькаўшчыны працай.

**— А як вам здаецца, ці ёсць у Беларусі рэальная палітычная сіла, якая можа ўзяць на сябе адказнасць за лёс Беларусі і дзеяць гэты лёс?**

— Аднаму БНФ гэта зрабіць будзе цяжка. Але калі прыйдуць новыя людзі, якія дбаюць аб долі Беларусі, то Адраджэнне павінна быць. Гэта будзе толькі тады, калі на Беларусі будзе беларускі ўрад, калі нармальна будзе развівацца эканоміка, якая дасць людзям свабоду дзеіць і думаць.

**— І ўсё ж: хто вы, спадар Мярляк?**

— Я ёсць беларускі палітычны эмігрант. Я не пайду супраць Амерыкі, але буду перасцерагаць, каб яна не зрабіла памылкі адносна Беларусі. Беларускі ўрад да таго баіцца беларускай эміграцыі, што да сённяшняга дня не запрасіў да супрацоўніцтва ніводнага дарадчыка з эмігрантаў. На бацькаўшчыне маглі б выкарыстаць нашы сілы, асабліва маладзейшых беларусаў, якія вывучаны і выгадаваны ў Амерыцы. Напрыклад, я маю трох адукаваных сыноў. Знаючы становішча ў Беларусі, яны не паедуць туды жыць, але ахвотна памаглі б радзіме сваіх бацькоў сваімі ведамі і талентам. Бо ўсе мы, беларускія амерыканцы, зацікаўлены, каб Беларусь была вольнай, незалежнай і багатай!

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК**

# АЛЕКСАНДРОВІЧ, ДУДАР, МІКУЛІЧ І «НАСТУПЛЕНИЕ»

## ПА СТАРОНКАХ «КРАЯ СМОЛЕНСКОГО»

Сёлета часопіс «Край Смоленский» /NN 1, 2, 1993/ пазнаёміў сваіх чытачоў з дакументамі, датаванымі 1937 годам, якія датычацца пісьменніцкай арганізацыі Смаленшчыны. Гэта пратаколы сходаў актыву пісьменніцкай арганізацыі г. Смаленска, пратаколы пасяджэнняў Бюро Смаленскага ГК ВКП/б/, дакладная Аблліта ўпраўленню дзяржбяспекі абласнога УНКУС. Асабліва яскрава захавалі адбітак узаемаадносін творчай інтэлігенцыі ў тыя гады пратаколы сходаў пісьменнікаў. Рашуча абвінавачваючы адзін другога ў памылках і класавай варожасці, былыя паплечнікі праз нейкі час самі рабіліся ахвярамі такіх «проработок». Гэта «правіла бойкі» было аднолькавым для ўсіх: для пачынаючага паэта, рэдактара абласной газеты або сакратара абкома партыі. Былі, аднак, пісьменнікі, якія змаглі ўстрымацца ад удзелу ў зладжаным пошуку ворагаў. Няма, напрыклад, у пратаколах абвінаваўчых выступленняў Аляксандра Твардоўскага. Такой самай мерай адмералася і яму. Начальнік Смаленскага Аблліта Уласаў у 1937-м дакладаў арганам бяспекі: «...Проработку ошибок Твардовского превратили на собрании писателей в триумф его. Может быть, случайно, но триумф разделял Александрович /Белоруссия/ — ныне разоблаченный как враг народа, на данном собрании читавший свои стихи...» Андрэй Александровіч быў не адзіным, хто з шэрагаў беларускіх пісьменнікаў стаўся па-братэрску ўцягнутым у гэтую калатнечу. У выпісцы з пратакола пасяджэння Бюро Смаленскага ГК ВКП/б/ N 17 ад 19.10.1937, на якім разглядалася апеляцыя былога рэдактара часопіса «Наступление» М. Заўялава аб скасаванні партыйнага спагнання, побач з іншымі памянёны прозвішчы Дудар, Александровіч, Мікуліч, «которые проводили явно троцкистскую линию на страницах этого журнала».

Пацікавімся гэтым выданнем. У Смаленскай абласной навуковай бібліятэцы захаваліся падшыўкі «Наступления». Першы нумар датаваны студзенем 1931, апошні — гэта выпуск 1-ы за 1936 год. Назва часопіса была выбрана невыпадкова і адпавядала павевам палітычных вятроў таго часу. Сваё крэда рэдкалегія новага выдання дакляравала на першай старонцы першага нумара набранымі тлустым шрыфтам словамі таварыша Сталіна, якія тлумачылі, што азначае «большевистское наступление... прежде всего, во-вторых, в-третьих...» Цікава, што бальшавіцкі наступ быў не чым іншым, як перабудовай /менавіта гэты тэрмін ужыў бацька ўсіх народаў/ узаемаадносін у розных сферах палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця краіны.

Вядома, што заснаванне ў вобласці літаратурна-мастацкага часопіса не было магчымым без дазволу, падтрымкі і нагляду ідэолагаў адпаведных камітэтаў ВКП/б/. Але «недагляд» здарыўся ўжо ў першым нумары і ўскосным чынам быў звязаны з Беларуссю. Праз якіх дзесяць старонак ад ЦУ т. Сталіна быў надрукаваны верш Д. Осіна /Д. Д. Дарашэнкаў/ «Асінбуд». Можа, склаліся ў смаленскага паэта адпаведныя асацыяцыі, а, можа, пацягнуў сваім прыкладам старэйшы класік. толькі сярод узрушаных сказаў пра індустрыяльны пейзаж з рыштаванняў, арматуры і транспарцёраў з'явіліся раптам радкі:

**Хрипит землекоп над лопатой своей,**
**покудова руки его не ослабли;**
**бьет его кашель, трясет малярией,**
**скрючились пальцы как грабли.**
**На белых костях фундамент сидит.**
**На белых костях плотина стоит.**

Такі хіб быў заўважаны адразу. Сакратарыят ЗОАПП /Западной областной ассоциации пролетарских писателей/ адзначыў, што верш «Асінбуд» паклёпніцку малюе працу на Асінбудзе, якім ганарыцца Савецкая Беларусь і ўвесь СССР, дае няправільную характарыстыку аднаму з фарпостаў сусветнай рэвалюцыі — БССР. Вынік: рэдкалегію распусціць, Д. Осіна з шэрагаў РАПП выключыць. Апошняе слова, як і мае быць, прагучала з абкама /пастанова Бюро Захабкама ВКП/б/ ад 1.03.31/. Адбылося лёгкае /па тым часе/ мыццё галавы, і часопіс выходзіў далей. Друкаваліся на яго старонках у большасці пісьменнікі і паэты Заходняй вобласці, багата твораў будучых мэтраў рускай паэзіі М. Ісакоўскага, М. Рыленкава, А. Твардоўскага. Сустракаюцца творы /у перакладах/ Я. Купалы, П. Броўкі, Я. Коласа, А. Александровіча. Але гэта ўжо з 1934 года. Тады, у лютым, наладжваюцца афіцыйныя адносіны паміж пісьменніцкімі арганізацыямі Заходняй вобласці і Беларусі. Спачатку завітала ў Менск шматлюдная смаленская дэлегацыя пад началам Н. Вінніцкага. Адбыліся літаратурная вечарына ў педінстытуце, мітынг на скурзаводзе «Бальшавік», агульнагарадскі сход пісьменнікаў. Вынікам гасцявання з'явілася сацдамова аб спаборніцтве. Літаратары абавязваліся асвятляць падрыхтоўку і правядзенне веснавой сяўбы /беларускі бок — у «ЛіМе»/, рыхтавацца да з'езда пісьменнікаў, стварыць адпаведную колькасць песень для Чырвонай Арміі...

Неўзабаве, 23 красавіка 1934 года, у Смаленску адбыўся 1-ы з'езд пісьменнікаў Заходняй вобласці. У якасці гасцей з Беларусі прыехалі Янка Купала, Андрэй Александровіч і Кузьма Чорны. Старшынёй дэлегацыі быў Александровіч. На з'ездзе ён выступіў з прамовай «Создать произведения, отвечающие великой эпохе Сталина». Абласная партыйная газета «Рабочий путь» дала кароткія звесткі пра з'езд пісьменнікаў, пра беларускую дэлегацыю. «Талантливый белорусский пролетарский поэт» — гэтак характарызавала яна А. Александровіча. Пра тое, што ён у гэты час з'яўляўся яшчэ і членам ЦВК БССР, не было згадана. Але, пэўна, гэтымі апошнімі абставінамі можна тлумачыць і яго старшынёўства ў дэлегацыі, і змест самога выступлення. Вытрымкі з выступлення А. Александровіча /«Наступление», NN 5, 6, 1934/ варта прывесці. Не дзеля таго, каб даведацца, якія творы адпавядалі эпосе Сталіна, а дзеля знаёмства з афіцыйным пунктам гледжання тагачаснага беларускага ўрада /як-ніяк — член ЦВК/ на пытанні роднай мовы ды літаратуры. А каб чаго не наблытаць, то — на мове і ў арфаграфіі арыгінала.

«В Белоруссии классовая борьба, происходящая на всех участках социалистического строительства, очень остро, в своеобразной специфической форме, завуалированной, замаскированной, не открыто выраженной, имеет место и в литературе. Наши классовые враги ставят своей задачей, будучи вдохновляемы и фашистами Германии и фашистами Польши, оторвать Советскую Белоруссию от Советского Союза, ставят своей задачей повернуть трудящихся Советской Белоруссии с социалистического пути развития на рельсы буржуазные. Но повышенная классовая бдительность, которая развита у работников всех участков соцстроительства, в том числе и у работников фронта культурной революции, не дает возможности классовым врагам так навредить, как им это удавалось в прошлом...

У нас десятки тысяч школ работают на родном языке, в то время, когда до Октябрьской революции у нас в Белоруссии не было ни одной школы, работающей на белорусском языке. У нас сейчас имеются сотни высших и средних учебных заведений, ряд научно-исследовательских учреждений...

Если взять издание книг на белорусском языке, все книги, изданные до революции, за все годы всех направлений и если сравнить их с теперешним положением, то мы увидим, что сейчас в 11 раз издано книг больше, чем за все годы до Октября...

Мы в этом году провели реформу белорусского правописания. У нас до этого времени классовому врагу удавалось занимать порой ответственные участки на фронте культурной революции, они стремились создать такое правописание, которое отгораживалось китайской стеной от языков других народов Советского Союза. При реформе правописания перед нами стояла главным образом одна задача — бороться за социалистическую культуру. Белорусский язык стал на позицию пролетарского интернационализма. В этой борьбе, в этой реформе правописания, как ни критиковали нас фашисты, мы достигли крупнейших успехов и наши писатели в этой борьбе оказались на должной высоте. Мы в области чистоты белорусского языка, в борьбе с контрреволюцией, достигли крупнейших успехов. Я приведу один-два примера, как классовые враги старались белорусский язык оторвать от всех процессов, которые происходили в нашей стране. Такие слова как социализм, коммунизм и др.; они стали интернациональными словами и на всех языках народов Советского Союза и не только народов Советского Союза, но и в революционной литературе Запада эти термины употребляются одинаково. Белорусские контрреволюционеры стремились выжить эти слова из белорусской речи, изменили слово «коммунизм» таким словом как «громодействие», слово «Совет» заменили словом «Рада» и т. д...

Наша художественная литература до Октября ничего не имела и нам сейчас приходится создавать свое художественное слово и когда мы у себя в Белоруссии развиваем дискуссию за чистоту, за качество языка, мы говорим о путях развития культуры белорусского языка. Наша задача, видя перед собой великие революционные перспективы, создать такой язык, который будет вполне культурным и при том доступным самым широким массам наших трудящихся...»

Ці бо тут была трацкісцкая лінія, ці то ў вершы А. Александровіча «Турэцкая люлька» /«Наступление», N 7, 1935/ — хай гэтая «тонкая матэрыя» застанецца на сумленні тагачаснага Бюро Смаленскага ГК ВКП/б/.

А што А. Дудар ды Б. Мікуліч? Яны пакінулі ў часопісе менш прыкметныя сляды. Ёсць зацемкі пра іх удзел у брыгадзе пісьменнікаў Заходняй вобласці і БССР, якая наведала вясной 1934 года перадавыя гаспадаркі Смаленскага і Лёзненскага раёнаў. Ёсць двухрадкоўе А. Дудара ў якасці эпіграфа да нарыса В. Кудзімава. Завельмі мала для якіх бы то ні было палітычных высноў. Можа, былі якія творы пад псеўданімамі, можа, часопіс закончыў сваё існаванне не на пачатку 1936-га, а пазней і да свайго арышту А. Дудар і Б. Мікуліч нешта прапанавалі чытачам на старонках «Наступления»? І першы і другі допускі патрабуюць дэталёвага даследавання. Верагодна, аднак, што найбольш дакладныя звесткі пра супрацоўніцтва беларускіх пісьменнікаў у часопісе «Наступление» змешчаны ў даведцы ЦОС Упраўлення МБ РФ па Смаленскай вобласці /«Край Смоленский», NN 1, 2, 1993/. Адносна А. Александровіча даецца тлумачэнне: «поэт, член ССП БССР, печатался в смоленском журнале «Наступление», репрессирован органами НКВД»; адносна А. Дудара і Б. Мікуліча — фармулёўкі аднолькавыя: «член ССП БССР, приезжал в Смоленск в творческие командировки, репрессирован органами НКВД».

**Міхась МАХНАЧ**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі падзяляе вялікае гора, што напаткала пісьменніка Міколу Аўрамчыка і супрацоўніцу Саюза пісьменнікаў Святлану Мікалаеўну з прычыны смерці жонкі, маці, і выказвае ім глыбокае спачуванне.**

**Калектыў рэдакцыі, рэдкалегія часопіса «Маладосць» выказваюць глыбокае спачуванне быломy супрацоўніку Аўрамчыку Мікалаю Якаўлевічу ў сувязі са смерцю жонкі.**

**Калектыў супрацоўнікаў часопіса «Маладосць» глыбока спачувае загадчыку аддзела паэзіі Гардзею Віктару Канстанцінавічу ў сувязі са смерцю яго брата.**

**Белдзяржмузей народнай архітэктуры і побыту выказвае спачуванне супрацоўнікам музея сям'і Латош з прычыны напаткаўшага гора — смерці бацькі, свёкра.**

Адгалоскі

Ведаючы безапеляцыйнасць і неперакана́ўчасць пазіцый Георгія Коласа ў дачыненні да жыцця, творчасці і трагічнага лёсу Янкі Купалы, не стаў чытаць у «ЛіМе» за 12 лістапада яго артыкул «Янка Купала — рэальнасць і міф». Ужо загаловак сведчыў, што рэальнасць за аўтарам, а ўсё астатняе - міф, выдумка.

Раптам знаёмы не то жартам, не то з папрокам сказаў: «Ну, ты, міфатворца мемуараў!» Я здзівіўся. «А ты пачытай у «ЛіМе» Коласа».

Чытаю доўгую, перасыпаную мудрагелістай вучонасцю прэамбулу пра рэальнасць і пра міф. У канцы калонкі даведаўся, што адзін з «міфатворцаў» і я. А рэальнасць і ісціну адкрыў і сцвердзіў «музыка-кампазітар Мікалай Шчаглоў». Перакананым арбітрам выступае Г.Колас.

У чым жа мая «міфатворчасць»?

# ДЗЕ Ж РЭАЛЬНАСЦЬ, А ДЗЕ МІФ?

Задоўга да афіцыйных урачыстасцяў, 15 мая 1935 г., у 30-ю гадавіну апублікавання ў «Северо-Западном крае» «Мужыка», Купала запрасіў на таварыскую вячэру /а ў яго доме часта збіраліся тутэйшыя і прыезджыя сябры/ блізкіх знаёмых, любімых артыстаў, брата Мядзёлкі Зыгмуся і сваю немалую сям'ю. Было недзе 12—15 чалавек. Побач з гаспадаром у тарцы стала паселі Максім Ляўкоў, тадышні сакратар ЦВК, і прафесар Сямён Вальфсон.

Загадчык музычнай рэдакцыі радыёкамітэта Ісак Любан ад некага з артыстаў даведаўся пра гэтую вячэру і вырашыў па радыё расказаць, як жыве народны паэт, пра яго сяброў і пра тую сямейную ўрачыстасць. Купала даў згоду на трансляцыю. Намеснік старшыні радыёкамітэта Рыбкавец дазволіў узяць апаратуру і тэхніка Найфільда.

Апаратуру ўстанавілі ў кабінеце Купалы, далучылі яе да тэлефоннага провада і праз Калодзішчы перадача пайшла ў эфір.

Любан сказаў, дзе мы знаходзімся, назваў славутых гасцей, павіншаваў юбіляра з трыццацігоддзем творчай дзейнасці, Купала толькі стрымана дзякаваў за ўсе пажаданні і тосты. Александроўская і Дзянісаў спявалі, Ржэцкая і Галіна чыталі Купалавы вершы. Расчулены аўтар пацалаваў Вользе Уладзіміраўне руку, а яна яго чмокнула ў шчаку, вясёлая і дасціпная Уладзіслава Францаўна смыкнула мужа за крысо, каб прылюдна не цалаваўся з дзяўчатамі, а Галіна абняла і расцалавала цётку Уладзю. Вось і ўвесь мой «міф» на паўтары старонкі.

У 70-я гады ў маёй зямлячкі доктара Ефрасінні Брэус часта гасцявалі Галіна, Станюта, Багатыроў, бываў і я. Мы часам з Вольгай Уладзіміраўнай успаміналі тую вячэру і амаль усіх гасцей. Гэтыя размовы памятаюць і цяпер Стэфанія Міхайлаўна і Анатоль Васільевіч. Мы не раз усе дэталі тае вячэры ўспаміналі з пляменніцай Купалы Ядвігай Юльянаўнай Рамано́ўскай. Ёй тады было 15 гадоў, і яна разам з Уладзіславай Францаўнай рыхтавала пачастунак і сустракала гасцей, а гаспадар хваляваўся, хоць бы ўсе запрошаныя прыйшлі.

Для «музыкі-кампазітара» і Г.Коласа гэта і ёсць «міф».

А што ж «рэальнасць»?

Артыкул «Мае ўспаміны» Шчаглова, апублікаваны ў зборніку «Янка Купала і Якуб Колас. Вянок успамінаў пра іх», складзеным і адрэдагаваным адпаведным чынам А.Калубовічам і выдадзеным у ЗША ў 1982 годзе. У ім Шчаглоў піша: «**Каля** 1935 года /значыць, магчыма ў канцы 1934-га/ човен Купалавага жыцця ўзняўся зноў угору. Партыйнае кіраўніцтва БССР выдае ў гэтым годзе /?/ дырэктыву **абыходзіць** /?/ 30-гадовы юбілей нашага песняра /нараджэння ці творчасці?/ А партыйная дырэктыва — гэта не жарты». І далей: «Не ведаю, чыя гэта была думка — перанесці **заключную юбілейную вечарыну** ў хату самога юбіляра».

Калі б збіральнік «рэальнасцяў» зазірнуў у «Кароткі летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы» на стар. 644 шостага тома збору твораў 1962 г., дык даведаўся б, што юбілейны вечар 23 мая адбыўся ў Вышэйшым педінстытуце, а 28 — у Доме пісьменніка. СНК БССР толькі 28 мая прыняў пастанову «Аб 30-гадовым юбілеі літаратурнай дзейнасці Народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы». Як жа «заключная юбілейная вечарына» магла адбыцца 15 мая ў доме паэта з удзелам 12—15 чалавек? Сучаснікі памятаюць, што юбілейныя заключныя банкеты з удзелам гасцей з рэспублік /Бахмеццева, Лідзіна, Огнева, Ясенскага, Леўмана, Гарадзецкага, Масэнкі, Сасюры і іншых/ ладзіліся на дзяржаўным узроўні і за дзяржаўны кошт у рэстаране гасцініцы «Еўропа». Нават на юбілей Каста Хетагурава ўрад адпускаў сродкі.

Шчаглоў жа не называе ніводнай асобы, ніводнай дэталі з таго «хатняга пасяджэння». У яго стол стаіць не ўздоўж пакоя, а «ва ўсю шырыню», а на стале «закускі і халодныя, і гарачыя, далікатэсы аж да чорнай ікры, садавіна, торты, усялякая гарэлка, віно, лікёры. Хоць людзі былі запрошаныя ўсе пачэсныя, але **бальшыня з іх даўно ўжо не бачыла і не каштавала такіх незвычайных прысмакаў»**.

Па пасляваенных і сучасных мерках гэта ўсё натуральна. Але навошта Шчаглову трэба было давесці, што Купала прадаваўся за ікру і за лікёры з партыйных размеркавальнікаў? Дзеля чаго гэта фальсіфікацыя спатрэбілася Г.Коласу? Даравальна яму: па малалецтве ён не ведаў, што 1 снежня 1934 года была адменена картачная сістэма і адразу ў гастраномах з'явіліся дзесяткі гатункаў кілбас, ад паляўнічых сасісак да італьянскай «салямі», шынкі, паляндвіцы, балыкі і сёмга, сыры, «астраханскі залом» /яго ўжо не памятаюць і астраханцы/. Кетавая, зярністая і паюсная ікра стаяла бочкамі. Самы вышэйшы гатунак каштаваў 11 рублёў за кілаграм. Газета «Рабочий» пісала, што ў Мінску выпускаецца сто гатункаў хлебных вырабаў. Так было да 1939 г.

Бачыў гэта, напэўна, і Шчаглоў, хоць яго цікавілі кропкі іншага профілю. Яму спатрэбілася ў ролі ўяўнага відавочцы мазнуць Купалу хоць чорнаю ікрою, каб абвінаваціць /з мінаю спагады/ у таннай прадажнасці.

Чытаем яшчэ адну «рэальнасць»: «Пачалося шуканне сваіх **карткаў** і нарэшце ўсе занялі месцы». Хто з вас у хатнім застоллі раскладае карткі, дзе якому госцю садзіцца? Перанёс гэта Шчаглоў з зарубежнай практыкі, а ў нас у тую пару нічога падобнага не было нават на дзяржаўных прыёмах. Кожны сам ведаў, дзе яму садзіцца. А ў Купалавай самай дэмакратычнай хаце нічога падобнага і быць не магло.

А вось і кульмінацыя ў апісанні тае вячэры: «Таварышы! Нашае юбілейнае **пасяджэнне** /!/ будзе трансліравацца па радыё на ўсю БССР». Хто гэта гаварыў, невядома. Хіба толькі Любан або я. Якое ж магло быць **пасяджэнне** ў невялічкай сталовай драўлянай Купалавай хаты? Такая «рэальнасць»! Жывая сведка тае вячэры Ядвіга Юльянаўна Рамано́ўская абурана гэтымі выдумкамі і паклёпамі.

«Рэалістам» спатрэбілася яшчэ ператварыць Купалу ў бязвольную парт-энкавэдзісцкую марыянетку, паслухмянага чытальніка чужых бязглуздых шпаргалак. Шчаглоў сцвярджае: «Ну, а калі мікрафон, дык значыць і кантроль, цэнзура, органы НКВД. Без паперкі, якая дазволеная і падпісаная ўпаўнаважаным Галоўліта, ніводнага слова не дадуць сказаць перад мікрафонам нават сябру Палітбюро... Перад ім /Купалам/ паклалі жмут друкаваных паперак. Гэта была «ягоная» прамова, што напісалі дасужыя партыйныя рэдактары, і якую ён мусіў выдаць за «свае» — адданыя партыі і праваднырў словы ўдзячнага і шчаслівага юбіляра».

Такое сачыніць мог толькі чалавек, якога там і блізка не было, які і перадачу не слухаў, які не ведаў, як Купала бярог сваю годнасць, не прадаваў сваё сумленне і не станавіўся папугаем па шпаргалках партакратаў.

Не дзівіцеся і не палічыце міфам тое, што скажу з уласнага вопыту. Да рэпрэсіўнага 1937 года не толькі выступленні, а даклады чытаць па паперцы лічылася абразлівым і заганным, бездапаможным «аратарствам». Пад рукамі ў прамоўцы былі толькі тэзісы. А ў страшныя гады, каб застрахавацца ад даносчыкаў, выступоўцы дакументавалі свае прамовы. Таму тады і пачалося чытанне чужых і сваіх тэкстаў.

У 1935—36 гадах я працаваў на радыё. Усе ўрачыстыя парады і дэманстрацыі з плошчы Леніна вялі Алесь Юрэвіч /брат Уладзіміра Міхайлавіча/, Юрка Такарчук, Юрка Лявонны і я. Апрача плана руху калон працоўных і вайскоўцаў, працэнтаў выканання планаў і прозвішчаў лепшых ударнікаў пяці заводаў і дзвюх фабрык, ніякіх тэкстаў у нас не было. Расказвалі тое, што бачылі, імправізавалі, як умелі, часам рыфмавалі экспромты і выдавалі ў эфір пры дапамозе ўсё таго ж Найфільда.

Уладзімір Юрэвіч быў дыктарам. Часта павольна чытаў першую старонку, пакуль здымуць з машынкі другую і падсунуць яму ў студыю, а здаралася чытаць адразу з рукапісу. Часам заходзіў галоўліт Радзюк. Ён недзе нешта выкладаў, заўсёды спяшаўся, пераглядаючы тэксты па дыяганалі, ставіў штампік і бег на другую работу.

Каб была, як пазней, жорсткасць, не здарыўся б трагікамічны выпадак з дыктарам Любай Бацвіннік. Зімою яна прыбегла ў 6 гадзін раніцы на першую перадачу, ухапіла з падваконніка белтаўскі веснік за ліпень месяц, не паглядзела і пачала натхнёна чытаць пра ход касавіцы, падрыхтоўку да жніва і самае страшнае — паведамленне пра сустрэчу Сталіна з Гербертам Уэлсам. Люба з работы паляцела і апынулася недзе ў Варонежы.

І яшчэ адна прыдумка «музыкі-кампазітара»: «Тэхнік з апаратам і **постаць незнаёмага** зніклі. Мікрафон усё-такі пакінулі на стале». Найфільд у першую чаргу забіраў самае каштоўнае — мікрафон. А эфемернай «постаці», як і аўтара гэтых «рэальнасцей», на вячэры і духу не было. Купала не меў ніякіх кантактаў з малавядомым музыкам, які ніводнага слова не гаварыў па-беларуску. За два гады знаёмства я ні разу не чуў. А Куліковічам ён стаў толькі ў замежжы, каб неяк прыгарнуцца да беларускай эміграцыі, і нават пачаў рыфмаваць прымітыўныя опусы. Яго творчыя здабыткі і далейшы лёс я не ведаў. А надоечы Анатоль Васільевіч Багатыроў расказаў, што ў 1940 годзе Шчаглоў прысвяціў кантату Сталіну і адхапіў пасаду ў Міністэрстве культуры, а як прыйшлі немцы, аператыўна напісаў кантату другому кату — Адольфу Гітлеру і заслужыў давер, павагу і трывалае становішча ў акупацыйнай адміністрацыі. Такой, выходзіць, была маральная і ідэйная пазіцыя Шчаглова, а потым Куліковіча. Я не маю падстаў не давяраць Багатырову, бо ведаю яго з 30-х гадоў, і па рабоце на радыё трохі ведаў заўсёды вясёлага і юркага Шчаглова.

Я не хачу зняважыць яго памяць, але мушу ўнесці яснасць, калі некаторыя сучаснікі, не праверыўшы яшчэ ў жывых сведак, выдаюць за «ісціну» яго міфічныя публікацыі.

Здзівіла ў артыкуле Г.Коласа яшчэ адно сумніцельнае прызнанне: «Пра тую перадачу чуў я непасрэдна ад В.У. Галіны, калі быў яе студэнтам. Слухаючы, рагатаў з усімі аднакурснікамі». Што ж яна, а потым, нібыта, і Рамановіч смешнага маглі расказаць? Аказваецца, не «пад Грахоўскага, а пад Шчаглова». Значыць, пра цэкоўскія шпаргалкі, пра бязвольнае паслушэнства Купалы, застрашанага і купленага за ікру. З чаго ж рагатаць? Спачуваць і шкадаваць трэба паэта. Але, бывае, рагочуць і з самых трагічных эпізодаў. Неверагодна, што разумная і асцярожная Вольга Уладзіміраўна пры панаванні Сталіна і Берыі аўдыторыі расказвала пра «таямнічых асоб», забітасць і затраўленасць Купалы. Не сумняваюся, што ў аўдыторыі быў не адзін стукач, а выкладчыцу-дысідэнтку нават пальцам не кранулі.

Усё гэта пішу не для апраўдання, бо апраўдвацца няма ў чым, апрача бяскрыўднага эпізоду, я нічога не напісаў, а толькі тое, што бачыў, у чым удзельнічаў, што не забыў і праз паўстагоддзя.

Дзеля чаго ж пішу, трачу час, энергію, паперу і хачу адцягаць некалькі сотак лімаўскай плошчы? А толькі таму, што не магу болей трываць беспадстаўнай хлусні і паклёпаў на чыстую, высакародную асобу Купалы, які ніколі не быў падхалімам, паслухмяным паслугачом у тупых і зацятых чыноўнікаў з сакрэтных кабінетаў і катоўняў, ніколі не прадаваў сумленне за ікру, лікёры і ордэны. А што ў гады пяцігодак не ўсё з-пад яго пяра выходзіла высокай пробы, дык гэта трагедыя бадай усёй савецкай літаратуры ад Горкага, А. Талстога, Шолахава і да Стаховіча.

Напісанае тут адрасуецца маладзейшаму пакаленню, якое не ўяўляе, як мы жылі ў 1935—36 гадах, што было ў крамах, як праводзіліся бястэкставыя пазастудыйныя, а часам і студыйныя перадачы, якое дружнае, шчырае, вясёлае асяроддзе акружала Купалу, як ён любіў маладых. Пасля большасць іх загрымела ў Курапаты і ГУЛАГ.

І яшчэ. Усіх неабыякавых хвалюе і азадачвае таямнічая і неразгаданая трагічная смерць Купалы. Аналітыкам-завочнікам хочацца, каб Купала сам кінуўся ў лесвічны пралёт. Меркаванне Шчаглова Г. Колас лічыць «не бясспрэчным, але і не беспадстаўным, бо суіцыд даймаў Купалу неаднойчы». Ці не псіхоз гэта яшчэ? Я катэгарычна адмаўляю нават версію падобнай трагедыі. Апошні з Купалам бачыўся Міхась Лынькоў у гасцініцы «Масква». Ён мне неаднойчы расказваў падрабязнасці гэтай сустрэчы. Іван Дамінікавіч прыехаў з Казані ў Маскву для ўдзелу ў рабоце Усеславянскага антыфашысцкага камітэта і для ўдзелу ў святкаванні свайго 60-гадовага юбілею. Ужо былі аддрукаваны афішы і білеты, юбіляр быў поўны клопатаў. За 9 дзён да трагедыі, 19 чэрвеня, ён пісаў жонцы: «Дарагая Уладка! Заехаў добра. Затрымаўся ў гасцініцы «Масква» часова ў т. Крупені. Сёння абяцаюць даць асобны нумар. Сягоння пайду па справах у выдавецтвы, да доктара і г.д... Цалую. Твой Янка».

28 чэрвеня Купала зайшоў у нумар да Лынькова, атрымаў прадуктовыя карткі і заспяшаўся. Міхась Ціханавіч запрашаў пасядзець. Іван Дамінікавіч сказаў, што з хвіліны на хвіліну чакае мастака Елісеева, і пайшоў.

Праз некалькі хвілін Купалы не стала. Яго гібель была, ёсць і надоўга застанецца загадкаю. Можа, некалі праўду адкрыюць недасяжныя дасюль архівы.

А цяпер разбярыцеся самі, дзе рэальнасць, а дзе міф.

Цяпер усім вядома, што Купалам і Коласам займаліся карныя органы, за іх упартае непаслушэнства хацелі расправіцца з імі, але да сваёй гібелі іх бераглі Чарвякоў і Галадзед.

На вялікі жаль, з цягам часу далёкія ад тае рэчаіснасці «даследчыкі», не пагаварыўшы з апошнімі ўдзельнікамі і сведкамі, хапаюцца за бяздоказныя міфы і з упэўненым апломбам прыдумляюць неверагодныя версіі, каб прынізіць, здрабніць, разменяць веліч, гонар, сумленне і чысціню Купалы.

Я шчаслівы, што бачыў яго, гаварыў з ім, быў у яго доме і на той незабыўнай і вясёлай вячэры 15 мая 1935 года.

Божа ж мой! Гэта мінула 58 гадоў, а незвычайнае помніцца і даводзіцца адстойваць праўду і чысціню тае шчырае хатняй бяседы.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**


ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара — 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі — 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-85, літаратурнага жыцця — 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, паэзіі і прозы — 33-22-04, музыкі — 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, навін — 33-24-62, мастацкага афармлення — 33-22-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 2.12.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12